# НАШ КРАЙ

№ 4 (43) 1929



КРАСАВІК

ШТОМЕСЯЧНІК
Ц. Б. КРАЯЗНАЎСТВА

# ЗЬМЕСТ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 4 (43) Красавік 1929

**ГОД ВЫДАНЬНЯ ПЯТЫ**

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1929

# Чарговыя задачы культуразнаўства.

Ужо даўно насьпела пара дэталёвага вывучэньня беларускай культуры, а ўсё яшчэ толькі пачынаецца дасьледваньне беларускіх краёвых культурных гнёздаў, без якога дасканалае пазнаньне агульнабеларускай культуры немагчыма. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі і пасобныя краязнаўцы павінны зьвярнуць на гэта сваю ўвагу і распачаць зьбіраньне матар'ялаў і вывучэньне іх у азначанай галіне. Вядомы расійскі дасьледчык Піксанаў вылучае тры асноўныя адзнакі культурнага гнязда: а) пэўнае кола дзеячаў, б) іх сталая чыннасьць і в) вылучэньне сваіх выхаванцаў. Працу вывучэньня краёвых культурных гнёздаў ён раіць выконваць па наступных групах культурных зьяў: а) асьвета б) друк, в) тэатр і г) літаратура, выяўленчыя мастацтвы, музыка. У пэўнай меры згаджаючыся з гэтым, мы высоўваем пакуль што наступныя першачарговыя пытаньні дасьледваньня некаторых беларускіх культурных гнёздаў, якіх у нас даволі шмат: Аршанскае, Бабруйскае, Барысаўскае, Віцебскае, Гомельскае, Горацкае, Калінінскае, Магілеўскае, Мызырскае, Менскае сталічнае, Полацкае, Слуцкае, Чэрвенскае і г. д.

Па першым разьдзеле трэба зварачваць увагу на рост асьветы: дашкольнага выхаваньня; школ ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых; палітасьветных установ; профэсыянальна-тэхнічных установ і г. д. Усё павінна высьвятляцца ўсебакова і грунтоўна, пачынаючы ад матар'яльнай базы асьветнай справы, пераходу працы ўстаноў на матчыну мову кліентаў і г. д. і канчаючы характарыстыкай ролі асьветнай справы ў галіне падрыхтоўкі здольных будаўнікоў соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Паміж іншым павінны быць выяўлены і расійскія, беларускія, яўрэйскія, польскія і іншыя нацыялістычныя ўплывы на асьветную справу, калі яны мелі месца, побач з выяўленьнем адпору ім савецкай грамадзкасьці, а таксама справа ліквідаваньня прыватнай і клерыкальнай асьветы. Адначасна трэба вывучыць таксама гісторыю, сучасны стан і чарговыя задачы мясцовага краязнаўчага руху і ролю яго ў агульнабеларускай навуцы.

Па другім разьдзеле дасьледваньне мясцовага культурнага гнязда павінна выявіць надворную гісторыю мясцовых кругабегавых і некругабегавых выданьняў: газэт, часопісаў, альманахаў, зборнікаў і д. т. п., паказаўшы іх рэдактароў, супрацоўнікаў, чытачоў, разьдзелы, зьмест, краязнаўчы і літаратурны матар'ял і г. д., а таксама—месца мясцовага друку ў агульнабеларускім.

Па трэцім разьдзеле краязнаўца павінен вывучыць мясцовыя літаратурныя пачынаньні, чыннасьць мясцовых літаратурна-мастацкіх згуртаваньняў і вынікі, месца мясцовай літаратуры ў агульнабеларускай ды каго мясцовае літаратурнае гняздо паслала ў сталічную літаратуру.

Урэшце, па чацьвертым разьдзеле прыдзецца высьветліць гісторыю, сучасны стан і задачы мясцовага аматарскага і дзяржаўнага тэатру, а таксама выяўленчых мастацтваў ды музыкі.

Вывучэньне па гэтых разьдзелах трэба ўвязваць з соцыяльна-экономічнымі зьявамі жыцьця краю. „Важна зьвязаць соцыялёгію культурнага жыцьця з яе экономікай, — казаў Піксанаў.—Трэба выявіць гэтыя сувязі паміж культурным ладам, соцыяльным складам і экономічным бытам гораду і краю“.

Зразумела, пры дасьледчай працы краязнаўцаў пытаньні гэтыя пашырацца, паглыбяцца і ўдасканаляцца, а самы сьпіс культурных гнёздаў павялічыцца.

Каб лягчэй было працаваць і каб досьлед меў большыя практычныя вынікі для сучаснага культурнага будаўніцтва, лепш у першую чаргу абмежавацца адрэзкам часу 1917—1919 г. „Мінулае ёсьць той грунт,—казаў раз расійскі дасьледчык Шміт,—на якім расьце сучаснае і вырасьце будучае, і мінуламу, зразумела, павінна быць дадзена месца, нават вельмі значнае і часамі ганаровае месца, але не на шкоду сучаснаму. Той, хто давядзе, што ў вёсцы раней бабы насілі вось гэткія павойнікі і вось гэткія кофты, зробіць менш карысную справу, чым той, хто пакажа як і чаму ў сучаснай вёсцы гарадзкая вопратка выцясьняе старую кофту, — сьцьверджваў ён далей, полемічна завострываючы пытаньне, — той, хто зьбірае старадаўныя, ужо запамятаваныя маладым пакаленьнем, песьні, робіць менш карысную справу, чым той, хто дасьледуе якія новыя песьні зараз ужываюцца на вёсьцы, і як новае жыцьцё выклікае новыя формы ў мастацтве вёскі, якая самаабслугоўваецца ў мастацкім стасунку, як у вёску прасякаюць і як у вёсцы ўсвойваюцца гарадзкія песьні; той, хто зьбярэ матар'ялы па экономіцы XVIII ст. данага краю, зробіць менш карысную справу, чым той, хто здалее дакладна высьветліць экономіку 1928 г. Веданьне старасьветчыны патрэбна толькі для таго, каб вымераць пройдзеную адлегласьць, каб улавіць скорасьць, кірунак і паасобныя этапы разьвіцьця“.

Вось чаму мы ў кожнай тэме падкрэсьлілі патрэбу высьвятленьня чарговых задач кожнага культурнага гнязда.

Досьлед можа выконваць адзін краязнаўца або, яшчэ лепш, некалькі па паасобных галінах пытаньня. Каб ня траціліся краязнаўчыя сілы на вывучэньне некалькімі асобамі аднаго і таго самага пытаньня, трэба паразумецца з праўленьнем мясцовай краязнаўчай організацыі і зарэгістраваць тамака сваю працу. Гэта, зразумела, не выключае працы некалькіх краязнаўцаў над вывучэньнем аднаго пытаньня для высьвятленьня яго з некалькіх бакоў.

Крыніцамі для вывучэньня павінны зьявіцца справаздачныя матар'ялы і акруговыя архівы ды архівы ўстаноў і організацый, выданьні, часопісы, успаміны і д. т. п. Па мясцовай газэце, напрыклад, можна высьветліць ня толькі рэпэртуар данага тэатру, але і погляды гледачоў і крытыкаў у рэцэнзіях. Вялізную карысьць прынясе і азнаямленьне з матар'яламі цэнтральнага друку, якія тычацца да вывучэньня данага культурнага гнязда. За даведкамі аб друкаваных матар'ялах варта зварачвацца ў Беларускае бібліографічнае бюро (Менск, Савецкая, 93, Беларуская дзяржаўная бібліотэка).

Побач з пісаньнем самой працы аб пэўным культурным гнязьдзе канечна патрэбна ўкладаць і поўную бібліографію яго: твораў мясцовых літаратур, водгукаў на іх, рэцэнзій на тэатральныя паказы, ранейшых друкаваных прац аб даным гнязьдзе і д. т. п.

Калі даная тэматычная праца мясцовымі краязнаўцамі будзе выканана, карысна будзе пашырыць яе вывучэньнем папярэдніх эпох кожнага данага культурнага гнязда.

Мясцовыя краязнаўцы для посьпеху сваёй працы павінны спэцыялізавацца. І той, хто спэцыялізуецца па культурна-гістарычнай галіне, павінен узяцца ў першую чаргу за гэтую працу. За даведкамі мэтодычнага характару і радамі ў справе плянаў працы трэба зварачацца ў Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

---

**М. Касьпяровіч.**

# Куды і як вадзіць экскурсіі.

*(Экскурсіі па Менску і Віцебску).*

Ня гледзячы на адсутнасьць у Беларусі адпаведнага навукова-дасьледчага пэдагогічнага інстытуту, беларуская пэдагогічная думка мае значныя дасягненьні ў розных галінах школьнай і пазашкольнай асьветы. Пераважная большасьць гэтых дасягненьняў не апублікавана, дзякуючы адсутнасьці сродкаў на гэта, але ўсё-ж усім прыметны гэтыя дасягненьні і ніхто ня стане адмаўляць таго, што вырасьлі яны амаль выключна з беларускай практыкі. Асабліва гэта можна сказаць пра экскурсійную справу, якая разьвіваецца ў нас у найбольш цяжкіх умовах. У БССР няма цэнтру, які-б разьвіваў яе, падлічваў дасягненьні яе, кіраваў ёю і клапаціўся-б удасканаленьнем мэтодыкі яе. На мясцох таксама няма ўстаноў, якія-б аддавалі належную ўвагу ўсяму гэтаму. Асьветныя ўстановы організуюць шматлічныя экскурсіі з мэтаю ўзвышэньня агульнаасьветнага ўзроўню школьнікаў або дарослых; краязнаўчыя організацыі — для зьбіраньня матар'ялаў да пазнаньня свайго краю; профсаюзныя—для здаровага адпачынку сваіх членаў; фізкультурныя—з турыстычнымі мэтамі і г. д. Кожнае лета, кожную вясну і восень, экскурсійны рух стыхійна захоплівае шырокія масы і, на жаль, амаль заўсёды вельмі вялікі лік экскурсій не дае добрых вынікаў або зусім зрываецца. Значны лік экскурсій з вучнямі становіцца звычайнымі пагулянкамі.

Галоўнаю прычынаю ўсяго гэтага зьяўляецца тое, што, пры ўсіх нашых дасягненьнях, у нас няма экскурсійнага рэспубліканскага цэнтру і адпаведнай *практычнай* літаратуры. Шмат якія тэорэтычныя пытаньні мэтодыкі экскурсійнай справы добра высьветлены часопісам „Асьвета“ на сваіх старонках, а таксама, часткова, часопісам „Наш Край“. Значны лік артыкулаў у іх паказвае *як* трэба экскурсаваць, вадзіць экскурсіі. Да таго, амаль усе нашы асьветнікі ведаюць расійскую мову і могуць карыстацца надзвычайна багатай расійскай мэтодычнай экскурсійнай літаратурай. Галоўная бяда ў тым, што няма ні беларускай ні расійскай літаратуры, якая-б дапамагала вырашэньню пытаньня *куды* вадзіць экскурсіі школьнікаў і што аглядаць. Ні адна мясцовасьць не пабудавана па програмных комплексах. Наадварот— комплексы пабудаваны так, каб, кіруючыся імі, можна было знаёміцца з любою мясцовасьцю. Але для гэтага трэба дакладна ведаць даную мясцовасьць, ведаць што і ў якім парадку трэба ў першую і ў другую чаргу аглядаць, якім шляхам ісьці, ехаць і д. т. п. Усё гэта неабходна для таго, каб укласьці *маршрут* данай экскурсіі, які *зьяў*-

*ляецца асноваю ўсёй экскурсіі* наогул. Зразумела, маршрут укладаецца орыентуючыся на мэту данай экскурсіі, склад і колькасьць удзельнікаў яе і г. д. Але, каб не загружаць кожнага асьветніка аднэй і тэй самай працай падліку об'ектаў выяўленьня шляхоў і інш., павінны быць укладзены комплексныя маршруты, якія пасьля могуць быць скарыстаны для любога іншага маршруту.

Згодна думкі экскурсаведа Гейніке падобныя марштуты павінны складацца з трох наступных момантаў: а) даведачнага матар'ялу: месцы прыпынкаў і харчаваньня з паказаньнем цэн; цэны переездаў чыгункай, трамваем, коньмі, параходам; музэі і д. т. п.; б) апісаньні паселішчаў (пераважна гарадоў і мястэчак), якія спатыкаюцца ў маршруце: характарыстыка гораду як цэнтру экономічнага, політычнага і культурнага; кароткая гістарычная даведка; маршруты па горадзе з апісаньнем стрэчных матар'ялаў, тыповых з краязнаўчага пункту гледжаньня і асабліва тых, якія сьведчаць аб соцыялістычным будаўніцтве; пералік паасобных раёнаў, месц, будынкаў, маляўнічых краявідаў, якія цікава паглядзець экскурсанту; в) апісаньне саміх маршрутаў, якое мае мэтаю дапамагчы орыентавацца ў выбары самога марштуту і, галоўным чынам, дапамагчы экскурсаводу, паказаць і экскурсанту паглядзець усё тое, чым цікавы і навучальны даны маршрут. Маршрут павінен быць багаты асьветным зьместам і выразна знаёміць з нашым гаспадарчым і культурным будаўніцтвам на фоне данага географічнага краявіду і мясцовай гісторыі, а таксама павінен быць шырокай базай для рознастайных эмоцыянальных перажываньняў на аснове рознастайнасьці краявіду і неператомліваць экскурсантаў.

Маршрут можа ахопліваць або цэлую краіну, або адзін горад, частку яго, ці нават адно прадпрыемства, адзін будынак і г. д. Жадаючы падзяліцца сваёй практыкай у справе маршрутаў, я зараз спынюся толькі на маршрутах па Менску і Віцебску, тым больш, што гэтыя гарады кожны год наведваюцца надзвычайна вялікім лікам школьных экскурсій. Таму даведачныя весткі па Менску[1]) могуць быць

[1]) а) гасьцініцы: 1 савецкая—комсамольская, 13, тэл. 210; б.) „Эўропа"—рог Ленінскай і Пляцу Волі, тэл. 1238; б) сталовыя: № 1 МЦРК — Інтэрнацыянальная, 8, тэл. 391; № 2 МЦРК—Савецкая, 68, тэл. 393; № 6 МЦРК—Ленінская 1-9, тэл. 394; в) музэі: Цэнтральны беларускі дзяржаўны з аддзеламі: гістарычна-археологічным, этнографічным, царкоўна-археолёгічным, нумізматычна-сфрагістычным, выяўленчых мастацтваў, архівам і бібліотэкай; адчынены штодзённа, апрача панядзелкаў ад 9 да 15 гадз.—Чырвонаармейская, 3, тэл. 383; Зоолёгічны музэй Акадэміі Навук—тамсама, адчынены нядзелямі і чацьвяргамі ад 11 да 13 гадз.; Музэй рэволюцыі—вул. Урыцкага, тэл. 902, адчынены штодзённа, апрача панядзелкаў і аўторкаў, ад 13 да 19 гадз. і нядзелямі ад 10 да 16 гадз.; Сельска-гаспадарчы і прамысловы музэй дому селяніна—Чырвонаармейская, 52-7, тэл. 918, адчынены штодня ад 9 да 14 гадз.; г) навуковыя ўстановы: Галоўнавука—Пляц Волі, Наркамасьветы; Акадэмія Навук—Рэволюцыйная, 21, тэл. 771; Навукова-дасьледчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна—Шырокая, 28, тэл. 666; Навуковае таварыства пры Унівэрсытэце—Савецкая, 33, тэл. 1068; д) бібліотэкі: Дзяржаўная публічная Савецкая, 94, тэл. 170; імя А. С. Пушкіна — Кастрычнікавая, 5, тэл. 733; е) вышэйшыя школы: Дзяржаўны Унівэрсытэт (праўленьне)— Савецкая, 33, тэл. 1068; Комуністычны Унівэрсытэт—Унівэрсытэцкая, 27, тэл. 266; Політэхнікум—К. Маркса, 37 і Унівэрсытэцкая, 45, тэл. 682; ж) тэатры: Дзяржаўны акадэмічны—Энгельса, 21-49, тэл. 207; лепшыя кіно: „Культура"—Валадарскага, 7, тэл. 449 і „Чырвоня Зорка"— Савецкая, 90, тэл. 502; з) сады і сквэры: „Профінтэрн" з пляцоўкамі для фізкультуры; на Пляцу Волі, ля тэатру; імя КІМ; ля радыёстанцыі і інш.; і) баня з пральняй — Кастрычнікавая, 23, тэл. 161; й) чаўны—на беразе Сьвіслачы па Гарбарнай вул., к) прыбіральні грамадзкага карыстаньня—за Акадэмічным тэатрам на сквэры; на Віленскім базары; на пляцу Парыскай Комуны; л) хуткая дапамога—тэл. 377; м) гарадзкая чыгуначная станцыя — Рэволюцыйная, 3, тэл. 175; н) аўтобусныя маршруты: Вакзал—Пляц Волі; Таварная ст.—Камароўка; Серабранка—Старажоўка; Лекерта—Пляц Волі. (Увесь гэты даведачны матар'ял і разьдзелы „Менск" і „Віцебск" былі пасланы мной у Маскву для праваднік па СССР).

асабліва патрэбны экскурсанту і экскурсаводам і з імі загадзя трэба пазнаёміцца. Ня менш будзе патрэбнай і гістарычна-географічная даведка, тым больш, што беларуская літаратура аб Менску даволі бедная [2]).

## I. Менск.

Менск—сталіца Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі (150.000 жыхароў) на перасячэньні Маскоўска-Беларуска-Балтыйскай (былой Маскоўска-Брэсцкай) і Заходняй (былой Лібава-Роменскай) чыгункі, на р. Сьвіслачы, з адным аб'яднаным былым Заходнім вакзалам і аднэй таварнай станцыяй (былы Аляксандраўскі вакзал) з таваразваротам у 492.287 тон, што складае восьмую частку таваразвароту рэспублікі; прамысловае яго значэньне вызначаецца наяўнасьцю 54 фабрык і заводаў з 4300 рабоч., гандлёвае—пяцідзесяцімільённым зваротам мясцовых гандлёвых прадпрыемстваў. Палітычнае значэньне Менску вызначаецца ня толькі месцапрабываньнем у ім цэнтральных органаў улады, партыйных і профэсіянальных організацый, але і ў высунутым на захад становішчы ў непасрэднай блізкасьці да межаў капіталістычнага сьвету. Разам з тым Менск зьяўляецца культурным цэнтрам усёй этнографічнай Беларусі. Тутака знаходзяцца вышэйшыя беларускія навуковыя ўстановы—Беларуская Акадэмія Навук, Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна, Бесаруская Дзяржаўная Публічная Бібліотэка, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Цэнтральны Беларускі Дзяржаўны Музэй і вышэйшая школа—Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Апрача таго, у Менску працуе Беларускі Дзяржаўны Акадэмічны Тэатр, Музэй рэволюцыі, Зоолёгічны музэй і г.д. Побач з гэтым Менск зьяўляецца адным з найвялікшых асяродкаў яўрэйскай культуры (Яўрэйскі сэктар Акадэміі Навук, Яўрэйскі Дзяржаўны Акадэмічны Тэатр, Яўрэйская сэкцыя Унівэрсытэту і д. т. п.), а таксама месцам разьвіцьця культуры іншых нацыянальных меншасьцяй Беларусі (Польскі сэктар Акадэміі Навук, Літоўская катэдра і Латыская камісія).

Менск заснаваны ў незапомныя старадаўныя часы; у другой палове XI стагодзьдзя, калі ён першы раз успамінаецца ў летапісах, быў ужо вялікім гандлёвым цэнтрам на перакрыжжы вадзяных і сухаземных шляхоў з захаду на ўсход і з поўдня на поўнач. Ад старога замку пры ўтоку Нямігі ў Сьвіслач—апрача самога замчышча, нічога не засталося, хоць яго аднаўлялі і ўмацоўвалі некалькі разоў аж да XVIII стагодзьдзя. Уваходзячы ў склад так званага Літоўска-Рускага гаспадарства, Менск з 1499 году карыстаўся майдэборскім правам. У 1569 годзе Менск разам з азначаным гаспадарствам увайшоў у склад Рэчы Паспалітай, а ў 1792 годзе, пасьля другога падзелу апошняй, быў уключаны ў склад былой Расіі. У 1812 годзе Менск быў цэнтрам асобнага менскага дэпартамэнту. У 1863 годзе Менск зьяўляўся пэўным асяродкам паўстаньня. У 1875 годзе ў Менску заснавалася народніцкая організацыя, з якой у 1878 годзе вылучылася група чорнаперадзельнікаў, што мела сваю друкарню і выдавала „Черный передел" [3]). У 1898 годзе ў Менску адбыўся першы ўстаноўчы зьезд

[2]) Проф. А. Савіч. Город Менск (кароткі гістарычны нарыс) „Крывіч", № 2, ст 11—32; З. І. Даўгяла. Стары Менск. „Наш Край", 1928, № 1, ст. 8—15; № 2, ст. 6—13; № 3, ст. 10—19 і інш. Пар. М. . Касьпяровіч. Краязнаўства, Менск 1929, ст. 147-148.

[3]) Друкарня чорнаперадзельнікаў была на рагу Пролетарскай і Кастрычнікавай вул., а бібліотэка на Гразным (Шпітальным завулку).

Расійскай соцыял-дэмократычнай партыі. У 1897 годзе ў Менску заснавалася Рабочая партыя палітычнага вызваленьня Расіі, а ў 1904 годзе—Паўночна-заходняя організацыя партыі соцыялістых - рэволюцыянэраў. У пачатку 1905 году ў Менску быў заложаны Першы краёвы камітэт Беларускай соцыялістычнай грамады, што мела сваю друкарню [4]), якая выпушчала вельмі многа проклямацый на беларускай мове. У часе Кастрычнікаўскай рэволюцыі ўлада ў Менску належала Краёваму выканаўчаму камітэту паўночна-заходняга фронту (Облискомзапу). У сьнежні 1917 году ў Менску пачаў сваю працу ўсебеларускі кongрэс у складзе каля 2000 дэлегатаў. Зьезд быў распушчаны Обліскомзапам за свой правы кірунак. Са складу зьезду быў вылучыўся так званы Народны сакратарыят, які стварыў пасьля Раду Беларускай народнай рэспублікі. У пачатку 1918 году Менск быў окупаваны немцамі і Рада, абвясьціўшы 25 сакавіка 1918 году незалежнасьць Беларускай народнай рэспублікі і ня маючы падтрыманьня ў краі, зьвярнулася да Вільгэльма з просьбаю дапамагчы запраўднаму ўтварэньню Беларускай буржуазнай рэспублікі. Хутка пасьля звальненьня ад нямецкай окупацыі, першага студзеня 1919 году Часовым рабоча-сялянскім урадам Беларусі была абвешчана Беларуская савецкая сацыялістычная рэспубліка. Летам 1919 году Менск быў окупаваны палякамі, а 11 ліпня 1920 году быў зволынены партызанамі і Чырвонай арміяй. У часе польскай окупацыі, у 1919 годзе, Рада Беларускай народнай рэспублікі зноў аднавіла сваю чыннасьць, але хутка падзялілася, вылучыўшы з аднаго боку Раду міністраў, а з другога—Дырэкторыю Беларускай народнай рэспублікі. У той-жа час пробавала разгарнуць сваю працу так званая Беларуская вайсковая камісія і іншыя правыя беларускія організацыі. „Вольную Беларусь", „Беларускі Шлях" і інш., што выходзілі ў 1918 годзе, у гэты час былі падмянілі „Звон", „Беларусь", „Рунь" і інш. газэты і часопісы. У ліпні 1920 г. Менск быў зволены ад окупантаў партызанамі і Чырвонай арміяй. З ліпня 1920 году да сучаснага моманту беларуская савецкая ўлада пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі зрабіла вялізную працу ў справе аднаўленьня зруйнаванай вайной і окупацыямі народнай гаспадаркі і ўтварэньня новай беларускай пролетарскай культуры. Для ўсебаковага азнаямленьня з Менскам трэба абраць самае найменшае чатыры маршруты.

1 маршрут: *пасажырскі вакзал—Пляц Волі.* Супроць вакзалу на невялікім пляцу стаіць помнік афярам расстрэлу дэмонстрацыі губарнатарам Курловым у 1905 годзе. Ад вакзалу па Ленінградзкай вул. экскурсант пападае на Землиробчы завулак да будынку пэдфаку Дзяржаўнага Унівэрсытэту, адчыненага ў 1921 годзе. Апрача гэтага корпусу пэдфаку, тутака будуецца шэраг будынкаў так званага унівэрсытэцкага гарадка. У Унівэрсытэце заслугоўваюць агляду вучэбны, зоолёгічны, ботанічны і інш. музэі, а таксама цяпліца ботанічнага саду. Недалёка ад будынку Унівэрсытэту, на супроцьлеглым баку Савецкай вул. падымае ў гору вежы чырвоны касьцёл, з вышкі якога можна аглядаць увесь Менск і яго ваколіцы. На другім павароце ад касьцёлу, па вул. Валадарскага, знаходзіцца будынак былой хоральнай сынагогі—зараз адзін з найвялікшых кіно ў СССР „Культура", а дальш насупроць—будынак Менскага ДОПР, былая турма, на варотах якой у 1906 годзе быў павешаны Пуліхаў за замах на губарнатара Курлова. Тутака-ж у старой турме адбывалі кару за рэволюцыйнаю чыннасьць Карусь Ка-

[4]) Друкарня грамады зьмяшчалася на Гандлёвай вул.

ганец, адзін з першых беларускіх пісьменьнікаў, Якуб Колас, зараз народны поэта і іншыя беларускія дзеячы. Трэба адзначыць, што гэты будынак прыватнай пабудовы канца XVIII стагодзьдзя, вядомы пад назвай пішчалаўскага замку, вельмі жыва нагадвае сабою формы беларускага замкавага будаўніцтва XVI веку. Прайшоўшы па Інтэрнацыянальнай вул. квартал і зьвярнуўшы направа па вул. Урыцкага, экскурсант пападае ў Музэй Рэволюцыі, заснаваны ў 1926 годзе. У ім даволі поўна паказана гісторыя рэволюцыйнага руху ў Расіі і Кастрычнікаўская рэволюцыя. Асабліва цікавым зьяўляецца беларускі аддзел са сваімі шматлічнымі колекцыямі карцін, фотоздымкаў, друкаваных матар'ялаў і д. т. п. Вышаўшы з музэю на Інтэрнацыянальную вул., экскурсант можа аглядзець падвор'е і будынкі былога старога жаночага кляштару на рагу Комсамольскай вул.[5]). З Інтэрнацыянальнай па Рэспубліканскай вул. экскурсант пападае на Рэволюцыйную, дзе можна атрымаць надзвычайна шмат ад азнаямленьня з Беларускай Акадэміяй Навук у будынках пад № 21. Акадэмія навук вырасла ў 1928 годзе з Інстытуту Беларускае Культуры, які ў сваю чаргу організаваны ў 1922 г. з Навукова-тэрмінолёгічнай камісіі, утворанай у 1921 годзе[6]). У ёй заслугоўваюць агляду зборы рукапісаў катэдры літаратуры, слоўнікавыя колекцыі каміісі па укладаньні слоўніка беларускай мовы, фольклёрныя колекцыі—у фольклёрнай камісіі, зарысоўкі народнага орнамэнту—у катэдры этнографіі і інш. у аддзеле гуманітарных навук і гэрбар, картаграфічныя колекцыі, географічная картотэка, геоботанічныя, глебазнаўчыя і д. т. п. колекцыі адпаведных катэдраў і інстытутаў аддзелаў прыродазнаўчых і гаспадарчых навук Акадэміі, а таксама своеасаблівая чыннасьць яўрэйскага і польскага сэктароў Акадэміі і Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры ёй. З Акадэміі Навук па Рэволюцыйнай вул. экскурсант выходзіць на Высокі горад, зараз Пляц Волі, што зьяўляецца асяродкам цэнтральных урадовых установаў. Тутака, па абодвых баках сьцісьненага катадральнага касьцёлу, у значна зьмененых пазьнейшымі перабудовамі будынках тае-ж пары зьмяшчаецца Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў у левым і Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі ў правым будынку. Вежа апошняга падкрэсьлівае своеасаблівы ансамбль гэтых езуіцкіх будоў першае паловы XVIII стагодзьдзя. Далей направа—Народныя камісарыяты асьветы, Ахова здароўя і Унутраных спраў. На другім баку пляцу—вялізны будынак Акрвыканкому і Гарсавету, і побач—сквэр з помнікам Гіршу Лекерту, які рабіў замах на віленскага генэрал-губарнатара фон-Валя ў 1906 годзе. У глыбі пляцу паміж апошнімі—звычайны Катадральны сабор, перад якім Пуліхаў і Ізмайловіч рабілі замах на менскага губарнатара Курлова. Налева, за сквэрам—вялізны будынак Усебеларускага савету профэсіянальных саюзаў з вялікаю друкарняю Выдавецтва ў першым паверсе, а на рагу выцякаючы з Пляцу Волі Ленінскай вул.—самы вялікі ў Менску будынак готэлю „Эўропа“. Наўскос ад ЦСПСБ, на пачатку вул. Энгельса, стаіць орыгінальны будынак былога Дамініканскага касьцёлу другой паловы XVII веку. Да таго-ж часу належыць і вельмі вытрыманая група будынкаў былога Бэрнардынскага кляштару за Катэдральным саборам на пачатку вул. Бакуніна. У былых касьцёлах па абодвых баках вуліцы зьмяшчаюцца

[5]) Варты ўвагі клясычны дом па Інтэрнацыянальнай вул. пад № 6.

[6]) Падрабязна гл. У Ігнатоўскі. Ад беларускай тэрмінолёгічнай камісіі да Беларускае Акадэміі Навук. „Наш Край“ 1928, № 12, ст. 6—17. Аб чыннасьці акадэміі гл. яе „Бюлетэні“.

зборы Беларускага цэнтральнага архіву, дзе можна пазнаёміцца з цікавымі старасьвецкімі беларускімі докумэнтамі.

2 маршрут: *Пляц Волі — Навукова-дасьледчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна.* Спушчаючыся з Пляцу Волі ўніз па Школьнай вул. праз апошнія вароты першага кварталу яе на левым баку, экскурсант пападае на так званы Школьны двор, шэраг будынкаў на якім, разам з халоднаю сынагогаю, дэталямі сваімі нагадвае некаторыя асаблівасьці познай беларускай грамадзянскай і фортыфікацыйнай готыкі а таксама беларускага драўлянага будаўніцтва XVII-XVIII стагодзьдзя. Цераз другія вароты гэтага двара выхад на Нямiскую вул., у раён так званай Чорнай біржы. Насупраць, на пачатку Ракаўскай вул. знаходзіцца так званая Жоўтая царква XVII стагодзьдзя, значна зьмененая пазьнейшымі пераробкамі. За ёю (№ 2) — Менскае акруговае таварыства краязнаўства з невялікімі колекцыямі па гор. Менску і Меншчыне. На завулку Вызваленьня (№ 26, тэл. № 335) трэба агледзець шпалерную фабрыку заснаваную ў 1923 годзе ў 7 аддзелаў. На рагу Замкавай пачынаецца замчышча, на якім ёсьць старасьвецкі так званы дом гродзкага суда, пабудаваны быццам з рэштак менскага замку пасьля пажару яго ў 1778 годзе; аб доме існуе легенда як аб месцы паседжаньняў беларуска-літоўскага трыбуналу.

З замчышча, якое абмываецца зараз толькі Сьвіслаччу, бо невялічкі ручай былой Нямігі, якая ўспамінаецца ў слове аб палку Ігаравым, і некалькі абмывала замак з другога боку, пушчаны па падземным штучным карыце, відаць вельмі прыгожыя краявіды на розныя бакі Менску. Адсюль лёгка прайсьці на Нізкі рынак, куткі якога, калі зьняць сучасныя шыльды, зьяўляюцца найтыповымі прадстаўнікамі гэтага XVI-XVII стагодзьдзя. На ім можна наглядаць надзвычайна цікавыя рысы быту дробных гандляроў і рамясьнікоў. З Нізкага рынку цераз драўляны мост на Сьвіслачы, па Комунальнай вул., міма дому па левым баку яе, у якім жыў выдатны беларускі пісьменьнік Максім Багдановіч, аб чым сьведчыць мэморыялная дошка на доме, — выхад на пляц Парыскай Комуны. Пляц зьяўляецца месцам базараў нядзелямі, панядзелкамі, серадамі і пятніцамі, а таксама месцам парадаў і дэмонстрацый у часе розных сьвяткаваньняў. У базарныя дні тутака можна чуць народную беларускую гутарку з розных далёкіх месц БССР і наглядаць бытавыя асаблівасьці беларускага сялянства. З левага боку на пляцу — Цэнтральная беларуская вайсковая аб'яднаная школа ў карпусох былой духоўнай сэмінарыі. У ёй можна пазнаёміцца з падрыхтоўкаю новых кадраў беларускага каманднага складу. Направа цераз пляц, на Шырокай вул. (№ 28, тэл. 666) зьмяшчаецца Беларускі навукова-дасьледчы інстытут сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна, заснаваны ў пачатку 1927 году [7]) у складзе 4-х аддзелаў: лясной гаспадаркі, мэліорацыі і культуры балот, сельска-гаспадарчай экономікі і аграрнай політыкі, жывёлагадоўлі і прыкладной зоолёгіі і расьлінагадоўлі і прыкладной ботанікі; апрача таго, у яго складзе працуюць Беларуская геофізычная служба і Цэнтральная хэмічная ляборатора. Адначасна з азнаямленьнем з колекцыямі і матар'яламі ўсіх гэтых установ інстытуту экскурсанту рэкомэндуецца аглядзець і адну з васьмі дасьледчых станцый інстытуту, якая знаходзяцца тут-жа, а ўласна Станцыю аховы расьлін.

---

[7]) Падрабязна гл. Навукова-дасьледчы Інстытут. Год працы Менск, 1928 г.

3 маршрут: *Вакзал—Залатагорскі касьцёл.* Непасрэдна з вакзалу экскурсант цераз Каломенскі базар, вельмі багаты бытавым матар'ялам з жыцьця менскага мяшчанства і ваколічных сялян, выходзіць на Унівэрсытэцкую вул., дзе працуе радыё-станцыя імя Саўнаркому БССР на хвалі 949,6 мэтра. За ёю налева — Комуністычны Унівэрсытэт, заснаваны ў 1925 годзе і цікавы для асьветнікаў сваімі мэтодамі працы. Далей, на гэтай-жа вул. (№ 41, тэл. 701) знаходзіцца хэмічна-фармацэўтычны завод, заснаваны ў 1924 годзе ў складзе 6 аддзяленьняў. Зьвярнуўшы налева на вул. Энгельса, на першых ростанках з помнікам К. Марксу, экскурсант спатыкае направа — будынак Беларусхага акадэмічнага тэатру, пабудаваны ў 1890 годзе і налева — клюб імя К. Маркса, былая заля дваранскіх сходаў, дзе ў 1917 годзе адбываліся паседжаньні ўсебеларускага конгрэсу. Першая вядомая беларуская пастаноўка опэры „Сялянка“ адбылася ў Менску ў б. тэатры Поляка на Пляцу Волі. У будынку-ж гэтага тэатру ў 1917 годзе на беларускай мове пачало працу Першае таварыства беларускай драмы і комэдыі пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча і з 1920 году — Акадэмічны тэатр. З 1926 году ў гэтым будынку працуюць трупы першага і другога акадэмічных тэатраў. З пастановак першага тэатру самыя выдатныя: „Кастусь Каліноўскі“, „Каваль Ваявода“ Міровіча, „На Купальле“ М. Кудзелькі і „Мешчанін дваранінам“ Мольера; у другім: „Цар Максімільян“ па народнай п'есе і „Бакханкі“ Эўрыпіда і новыя п'есы гэтых тэатраў „Мост“, „Верацёны“ (у 1-ым), „Разлом“ і „Рэйкі гудуць“ (у 2-ім). Налева ад помніка К. Марксу, уніз па вул. К. Маркса, на першых ростанках направа варта аглядзець нядаўна пабудаваны будынак Комунальнага банку. На супроцьлеглым рагу — рэдакцыя старэйшай беларускай савецкай газэты „Савецкая Беларусь“ у прыгожым першым доме саветаў.

Прайшоўшы па вул. К. Маркса налева ад помніка каля вайсковага шпіталю з аднаго боку і невялікага садзіку з фонтанам—з другога, экскурсант на першым рагу вул. К. Маркса і Чырвонаармейскай павінен азнаёміцца з цікавым домам селянін, спэцыяльна пабудаваным ў 1928 годзе. У ім зьмяшчаецца і Сельска-гаспадарчы і прамысловы музэй. Насупраць, па Чырвонаармейскай (№ 3, тэл. 383) на двары зьмяшчаецца Цэнтральны беларускі дзяржаўны музэй, заснаваны ў 1923 годзе, у былым палацы і царкве архірэя [8]). Зараз у Музэі больш 30.000 экспонатаў у наступных аддзелах: гістарычна-археолёгічным, царкоўна-археолёгічным, нумізматычна-сфрагістычным, этнографічным, яўрэйскім, выяўленчых мастацтваў, архіве і бібліотэцы. Асаблівай увагі заслугоўваюць карціны мастакоў — ураджэнцаў Беларусі і беларускіх мастакоў (К. Каганца, Драздовіча, Філіповіча і інш.).

Побач з гэтым музеем, у першым паверсе былой царквы зьмяшчаецца зоолёгічны музэй Акадэміі Навук [9]). Вышаўшы з двара цераз другія вароты, у першым доме (б. духоўнай консысторыі, а ў 1919-1920 г. — месцы катаваньняў белапалякамі комуністых і беларускіх культурнікаў) зьмяшчаецца частка Беларускай дзяржаўнай публічнай бібліотэкі з Беларускай кніжнаю палатаю. За рагом направа, па Савецкай вул., на былым гарадзкім валу — другі корпус бібліотэкі ў

[8]) Гл. В. Ластоўскі. Беларускі дзяржаўны музэй. „Наш Край“ 1927 № 10. стар. 47-52. В. Ластоўскі і М. Шчакаціхін. Сучаснае беларускае мастацтва. Праваднік. Менск 1929.

[9]) М. Дабратворскі. Год існаваньня зоолёгічнага музэю „Наш Край“, Менск 1928, № 12 ст. 78—82.

б. будынку Рады беларускай народнай рэспублікі (яшчэ раней — юбілейны дом 1612—1912). Тутака патрабуюць агляду беларускія старадрукі, пачынаючы з XVI веку і беларускі бібліографічны рэпэртуар. Тут-жа ў Беларускім бібліографічным бюро можна атрымаць любую даведку па бібліографіі этнографічнай Беларусі.

Далей па Савецкай вул., каля Беларускага пэдагогічнага тэхнікуму (№ 107, тэл. 687), і Цэнтральнай паказальна-дасьледчай школы, асабліва цікавай для асьветнікаў, і электростанцыі (№ 110, тэл. 696), цераз жалезна-бэтонны мост на Сьвіслачы, скончаны пабудовай у 1928 годзе, ідучы побач з карлікавай чыгункай, што дастаўляе торф на электрастанцыю, экскурсант дасягае доміку першага ўстаноўчага зьезду Расійскай соцыял-дэмократычнай рабочай партыі (Савецкая № 135). У доміку — портрэты ўдзельнікаў зьезду, успаміны і д. т. п.; вартаўнікам яго былая сьведка зьезду. Яшчэ далей па Савецкай вул., направа будынак Залатагорскага касьцёлу ў стылі спозьненай беларускай готыкі сярод багатых дрэвамі могілак, побач з месцам прыпынку аўтобусаў.

4. Маршрут: *Вакзал — завод Энэргія.* З вакзалу цераз сад К. Лібкнехта з невялікім помнікам — колёнкай яму, па вуліцы К. Маркса на рагу Захар'еўскага завулку экскурсант спатыкае клюб „Чырвоная заля", калішні будынак польскага буржуазнага таварыства „Сокал", якое праводзіла тут сваю полёнізацыйную працу. Адсюль зьвярнуўшы направа па Нова-Сярпухоўскай, міма былых драўляных асабнякаў польскіх памешчыкаў, выхад на вуліцу 2 Лекерта, дзе налева (№ 15, тэл. 465) працуе гарэлачны завод у складзе 8 аддзяленьняў, адчынены ў 1922 годзе. Далей за ім — вялізны гарбарны завод „Бальшавік" (тэл. № 112), які працуе ў складзе 12 аддзяленьняў і характэрны для аднэй са значных галін беларускае прамысцовасьці. На другім баку вуліцы — таксама характэрны для Беларусі дражджавы і бурачна-мёдавы завод „Чырвоны Золак" (тэл. 583) з 8 аддзяленьнямі, а за ім (№ 36, тэл. 301) — чугунна-ліцейны і машынабудаўнічы завод „Энэргія" з 5 цэхамі, адчынены ў 1922 годзе; адліўкаю новых частак і рамонтам старых завод абслугоўвае фабрычна-заводзкую прамысловасьць БССР.

Але разам з азнаямленьнем з самім горадам трэба наведаць яго ваколіцы. У той час, як горад больш цікавы для прыежджых, для сталічнага жыхара больш цікавы ваколіцы ў шырокім сэнсе слова. З апошніх маюць асаблівую цікавасьць наступныя.

*Камароўскае балота.* Па дарозе з гораду ідучы ад аўтобуснай станцыі на Пляцу Парыскай Комуны па Комунальнай вул. варта азнаёміцца з піваваранным заводам „Беларусь" (Старажоўская № 44, тэл. 616) у складзе 12 аддзяленьняў, або — па роўналеглай ёй Стара-Віленскай вул. з станцыяй расьлінагадоўлі Навукова-дасьледчага інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі імя Леніна (№ 73, тэл. 770) і з другім дражджавым заводам „Пролетар" (№ 13, тэл. 230) у складзе 10 аддзяленьняў. На балоце вялізную цікавасьць прадстаўляе Балотная дасьледчая станцыя (тэл. 759) са сваімі палямі і сенажацямі на былым балоце.

*Лошыца.* Па дарозе ў Лошыцу, сайшоўшы на аўтобуснай станцыі каля Белмясгандлю на Нова-Маскоўскай вул., варта агледзець гуту „Пролетары" на роўналеглай ёй Грыгор'еўскай вул., (№ 8, тэл. 431), куды вядзе аднаіменны завулак міма пабудаванай у 1928 г. Цэнтральнай малочнай. Гута адчынена ў 1920 годзе ў складзе 6 аддзяленьняў. Далей па Грыгор'еўскай, на рагу вул. Дзяржынскага, — пабудаваны ў

1928 годзе хэмічна-фармацэўтычны завод Белмэдгандлю. Зьвярнуўшы тутака налева, экскурсант зноў выходзіць на Нова-Маскоўскую вул. і па ёй цераз чыгуначны мост за горад, дзе зварачвае налева і вузкай дарожкай паміж палёў пападае ў Лошыцу, дзе асабліва цікавым зьяўляецца Беларускае аддзяленьне ўсесаюзнага інстытуту батанікі і прыкладных культур. Назад можна вярнуцца па вялікім шляху, які канчаецца на Каломенскай вул.

*Весялоўка.* Па дарозе на Няміскай вул. (№ 36, тэл. 652) варта азнаёміцца з абутковаю фабрыкаю, якая адчынена ў 1924 годзе ў складзе 5 аддзяленьняў і абслугоўвае БССР, а таксама рынкі саюзных рэспублік. Адсюль па Рэспубліканскай вул., цераз пляц 25 Кастрычніка, экскурсант выходзіць на Людаманскі завулак, дзе пачынаюцца вуліцы, заселеныя абеларушчанымі татарамі; на рагу—мячэць; можна наглядаць цікавыя бытавыя малюнкі. Адсюль па Людаманскай вул., пакідаючы ззаду маляўнічы Менск, з левага боку—найпрыгажэйшыя выкручастыя берагі Сьвіслачы і з правага—прадмесьце, экскурсант прыбывае ў дачную мясцовасьць Весялоўку на беразе Сьвіслачы. Рознастайнасьць мясцовага краявіду пакідае надзвычайна моцнае ўражаньне.

*Юцкі*—у найпрыгажэйшай мясцовасьці пад Койданавам, дзе пражываў выдатнейшы беларускі пісьменьнік канца XIX і пачатку XX стагодзьдзя—Карусь Каганец. Маршрут туды і назад (Менск—Койданава—Юцкі—Фаніпаль—Менск) падрабязна апісаны ў спэцыяльнай працы [10]).

*Астрашыцкі гарадок*—цікавае тыповае беларускае дачнае мястэчка ў прыгожай мясцовасьці. Аўтобусам з Менску—25 клм. Можна адпачыць у добрых умовах.

*Лагойск.* Аўтобусам з Менску каля 2-х гадзін язды па наймаляўнічай дарозе цераз узвышшы Меншчыны.

*Чэрвень.* Тыповы стары павятовы гарадок на рацэ Ігуменцы ў трох гадзінах язды аўтобусам ад Менску па прыгожай дарозе, якая пераходзіць з Менскіх узвышшаў у надзвычайна прыгожыя мясцовасьці раўніны. Можна вельмі добра і танна організаваць доўгі адпачынак, карыстаючыся ўсімі выгодамі глухой провінцыі, адсутнасьцю наплыву дачнікаў (пакуль ня ўведалі) і шмат якімі культурнымі выгодамі: поштай, тэлеграфам, амбуляторыяй і д. т. п.

Калі, дзякуючы тым ці іншым прычынам, нельга аддаць шмат часу азнаямленьню з горадам—можна абмежавaецца аднэй экскурсіяй па гораду. Узорам такой экскурсіі можа быць наступная аднамаршрутная экскурсія па Віцебску.

## II. Віцебск.

Віцебск — надзвычайна маляўнічы прамысловы горад БССР (100.000 жыхароў)[11]), на перасячэньні Рыга-Арлоўскай і Паўднёва-Заходняй чыгункі. на р. Дзьвіне з адным вакзалам і параходнай пры-

[10]) М. Касьпяровіч. Там дзе тварыў Каганец (літаратурная экскурсія). „Наш Край“, Менск 1928, № 10, ст. 14—26.

[11]) Даведачныя весткі: а) гасьцініцы: 1 савецкая — Даўгарукаўская № 1, тэл. 58; „Мэтрополь“ Вакзальная № 6, тэл. 152; б) сталовыя: ВЦРК—Леніна № 2, тэл. 357; Замкавая 14, тэл. 354; в) музэі: Віцебскі культурна-гістарычны з аддзеламі: археолёгічным, гістарычным, царкоўна-археолёгічным, прамысловым і выяўленчых мастацтваў; адчынены штодзённа, апрача панядзелкаў, ад 9—15 гадз. вул. Леніна 4/1, тэл. 432; Вэтэрынарна-заолёгічны музэй з аддзеламі: пошасных і няпошасных хвароб і прыкладной вэтэрына-

станьню. У Віцебску 39 фабрык і заводаў. Вялікае палітычнае значэньне Віцебску складаецца з яго становішча на Дзьвіне і вузьле вялікіх чыгунак, што зьвязваюць значную часткую СССР з выхадам к Балтыцкаму мору. Віцебск першы раз успамінаецца ў вядомых летапісах у 1021 годзе як буйны гандлёвы цэнтр паўночна-ўсходняй Беларусі [12]). З XI да XIII веку ён быў незалежным горадам з XIV да XVI — прыгранічным горадам Вялікага княства беларуска-літоўскага, з XVII да XVIII значным ваяводзкім горадам Рэчы паспалітай польскай і з канца XVIII да Кастрычнікаўскай рэволюцыі—губэрнскім горадам былой Расіі. З 1924 году Віцебск—акруговыі горад БССР. У 1924 годзе ў Віцебску заснавалася Акруговае таварыства краязнаўства, якое выдала ўжо шмат сваіх прац, і адчыніўся Дзяржаўны вэтэрынарны інстытут, Беларускі мастацкі тэхнікум, Беларускі пэдагогічны тэхнікум і цэлы шэраг іншых культурных устаноў.

Маршрут: *Вакзал—Вэтінстытут—„Дзьвіна“—вакзал.* З вакзалу па вузенькай Вакзальнай вуліцы, пакідаючы па бакох былыя вуліцы цэхавых організацый XVI—XVII стагодзьдзя, экскурсант выходзіць на мост цераз Дзьвіну—галоўную артэрыю гораду. На другім беразе пачынаецца тэрыторыя былога Верхняга замку, на якой, зьвярнуўшы налева з Вакзальнай на Пушкінскую, трэба аглядзець панчошную фабрыку (10/1, тэл. 73), якая працуе ў складзе 8 аддзяленьняў. Насупраць—Беларускі пэдагогічны тэхнікум, на дварэ якога яшчэ захаваліся невялічкія рэшткі замкавай горкі, з якой усё-ж можна аглядаць тэрыторыю былога Верхняга замку. Адсюль, міма старэнькага доміку з мэморыяльнаю дошкаю аб яго значэньні ў справе гісторыі профруху Віцебшчыны, цераз мосьцік на Віцьбе, каля шчаціннай фабрыкі, па самым беразе Дзьвіны—былой сьцяне Узгорскага замку XVII стагодзьдзя, экскурсант падымаецца на так званую Усьпенскую горку з прыгожым будынкам Усьпенскага сабору на ёй, будаванага італьлянцам Фонтані. З горкі відаць уся зарэчная частка Віцебску з Ільлінскаю каменнаю царкою, што паўтарае формы драўлянага будаўніцтва беларускага доілідства XVI—XVII стагодзьдзя, направа і з адзінаю тутака дзьвёхвежаваю базылікальнаю Петрапаўлаўскаю царквою бяз купалу налева. Дальш, у апошнім кірунку—каміны лёнапрадзільнай фабрыкі „Дзьвіна“.

З горкі па вул. Крылова выходзіш на вул. Валадарскага і, зьвярнуўшы налева, спатыкаеш на рагу Беларускі мастацкі тэхнікум, дзе варта азнаёміцца з падрыхтоўкаю маладых беларускіх мастакоў і некаторымі дасягненьнямі сучаснага беларускага мастацтва. Некалькі

---

рыі, орнітолёгічным, жывёлагадоўлі, сухотаў жывёл і чалавека, эволюцыі чалавека, старажытнага культу жывёл; адчынены штодзённа апрача панядзелкаў ад 10—15 гадз., Леніна 39, тэл. 435; Энтомолёгічны музэй—адчынены ў навучальны час штодзённа, апрача панядзелкаў, ад 10—15 гадз., у канікулярны час—аўторкамі і серадамі ад 10—15 гадз., Вэтэрынарная 1, тэл. 437; Сельска-гаспадарчы музэй дому селяніна, вул. Леніна; Віварыум, Вэтэрынарная № 1, тэл. 437; Ботанічны сад, Вароўскага, № 29; г) навуковыя і навучальныя ўстановы: Акруговае таварыства краязнаўства—Леніна 4/1, тэл. 432; Дзяржаўны вэтэрынарны інстытут, Вэтэрынарная 1, тэл. 169; д) сады і сквэры: на Чырвонай горцы, на вул. Чырвонага міліцыянэра, на Задунайскай, на Пролетарскім бульвары, на вул. Леніна; е) цэнтральная амбуляторыя - Талстога, тэл. 217; ж) хуткая дапамога, тэл. 284; з) баня, Ніжня-Набярэжная; і) гарадзкая чыгуначная станцыя, вул. Леніна; й) трамвайныя маршруты: Вакзал—Бальнічная; Пляц Волі—Лукішкі; к) латвійскі консул, Ніжня-Пятроўская вул., № 129.

[12]) А. П. Сапуноў. Кароткі нарыс гісторыі Віцебску. „Віцебшчына“ 1, 1925 ст. 7—18. І. П. Фурман. Віцебск у гравюрах Юдовіна. Віцебск 1926 і інш. Пар. М. Касьпяровіч. Краязнаўства. Менск. 1929, ст. 149-150.

крокаў назад, на вул. Валадарскага знаходзяцца з аднаго боку будынак Культурна-гістарычнага музэю пад вежаю былой ратушы і з другога боку, крышку наперад—прыгажэйшы ва ўсходняй Беларусі будынак Рынкава-васкрасенскай царквы пабудовы віцебляніна Смыка XVIII веку. Насупраць яе, але ўжо на вул. Леніна, у якую ўліваецца вул. Валадарскага,—зусім супроцьлеглага характару магутны важкі будынак касьцёлу Антона таго-ж часу. Аглядзеўшы музэй [13]), экскурсант па вул. Леніна знаёміцца з надзвычайна цікавым, адным з рэдкіх у СССР, Вэтэрынарна-зоолёгічным музэем [14]). Далей адсюль зьвярнуўшы на першых ростанках налева па Савецкай вул., на першым рагу—вялізны жылы будынак пабудовы 1928 году, а на другім — садзік з вельмі прыгожай колёнай—помнікам 1812 г. Насупраць помніка з левага боку стаіць цікавы будынак Акрвыканкому—былы губарнатарскі палац. Нацешыўшыся яшчэ раз новымі зарэчнымі краявідамі ўжо з гэтага месца берагу Дзьвіны, экскурсант варочаецца назад па Савецкай. Ад вул. Валадарскага направа, цераз Смаленскі базар можа азнаёмцца з вельмі цікавымі праявамі ўсходня-беларускага быту, каля своеасаблівага тэатру на гэтым плацу, па вул. Вароўскага экскурсант прыходзіць у багаты батанічны сад [15]). Пасьля агляду саду, па дошках цераз Віцьбу, можна прайсьці ў Дзяржаўны вэтэрынарны інстытут [16]), які зьмяшчаецца ў арыгінальным рускага стылю будынку былога сялянскага банку. У Інстытуце трэба азнаёміцца з найбагатшымі колекцыямі (14.000 відаў эўропейскіх і азіяцкіх жукоў і матылькоў і 8.000 мясцовых) Энтомолёгічнага музэю, якія пакідаюць незапомнае ўражаньне непаўторным спалучэньнем колераў гэтага мора жукоў і матылькоў [17]). Таксама варта агледзець віварыум, габінэты расьлінагадоўлі і эпізотолёгіі і іншыя ўстановы. Адсюль па Вэтэрынарнай вул., цераз мосьцік на Віцьбе, насустрэч наймаляўнічым краявідам гэтай часткі гораду, міма будынку касьцёла Антона выхад на вул. Леніна і па ёй налева зноў цераз мосьцік на выкручастай Віцьбе на тэрыторыю былога Дольняга замку, з сучасным Пляцам Волі на ёй—вузлом трамвайнага руху. На пляцу з аднаго боку цікавы будынак Катэдральнага сабору, значна папсаваны спробамі мясцовых біскупаў справаславіць і русіфікаваць яго, а з другога боку будынак Акрпрофсавету з помнікам К. Маркса каля яго. З пляцу па Гогалеўскай вул., цераз мосьцік на Ручаі, дзе канчаецца тэрыторыя былога Дольняга замку, экскурсант выходзіць на высокі Магілеўскі базар, больш багаты мяшчанскім бытам, які разам з тым адчыняе новыя маляўнічыя краявіды гарыстага Віцебску. З базару—завулкам да Дзьвіны з далёкаю пэрспэктываю абрамаванаю драўлянымі домікамі. Направа на набярэжнай вул. застаецца цікавы будынак сынагогі і экскурсант апынецца на Замкавай вул., дзе па левым баку стаіць вельмі рэдкі і цікавы помнік беларускай архітэктуры XII стагодзьдзя—вядомая Добравешчанская царква на тэрыторыі былога Дольняга замку. Адсюль—пя-

[13]) Я. Мазуркевіч. Віцебскае аддзяленьне Беларускага дзяржаўнага музэю. „Наш Край“ 1928, № 10, ст. 55—59.

[14]) Загрэцкі. Віцебскі вэтэрынарна-зоолёгічны музэй. „Віцебшчына“ 1, 1925 ст. 174-175.

[15]) Л. Нікольскі. Ботанічны сад Дзяржаўнага вэтэрынарнага інстытуту. „Віцебшчына“ 1, 1925, стар. 169—172.

[16]) Алонаў. Да гісторыі Беларускага дзяржаўнага вэтэрынарнага інстытуту імя Кастрычнікавай рэволюцыі. Віцебск, 1928.

[17]) Плюшчык-Плюшчэўскі. Жукі і матылькі Віцебшчыны. „Віцебшчына“ 1, 1925, стар. 153—156.

хотам або трамваем па Вакзальнай да Канатнай вул. цераз Дзьвінскі мост, па якім прышлі на гэты бок. На Канатнай вул., былым асяродку канатнага цэху ў XVI—XVII стагодзьдзі,—аўтобусная станцыя, ад якой аўтобусам або пяхотам да фабрыкі „Дзьвіна“. Лёнапрадзільная фабрыка „Дзьвіна“ зьяўляецца адным з буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў і разам з Высачанскаю лёнапрадзільнай фабрыкай (3 клм. ад станцыі Крынкі) апрацоўвае сырэц лёнаводных раёнаў Віцебшчыны і прымежнай РСФСР. Каля фабрыкі, у былым кляштары—надзвычайна цікавая драўляная Троіцкая царква XVIII стагодзьдзя, уся размаляваная, якая зьяўляецца вельмі рэдкім помнікам беларускага драўлянага доілідзтва і росьпісу тае пары. Тут-жа ёсьць вялізны кнігасхоў былога Маркавага кляштару. Пасьля агляду фабрыкі і кляштару экскурсант можа накіравацца па тэй самай Канатнай вул. або непасрэдна на вакзал.

*З ваколіц*[18]) Віцебску заслугоўвае ўвагі Вялікалетчанскі батанічны сад. Ён знаходзіцца ў надзвычайна прыгожай мясцовасьці на беразе маляўнічага возера, у 2 клм. ад станцыі Крынкі[19]). Тут можна пабачыць шмат цікавага і адпачыць.

Калі-б нашы асьветнікі і краязнаўцы распрацавалі маршруты па ўсіх гарадох і мясцовасьцях БССР, якія-б можна было скарыстоўваць для кожнай тэматычнай экскурсіі, а таксама аднадзённых і шматдзённых экскурсій,—яны-б зрабілі вялікую дапамогу экскурсійнай справе.

---

Д. Васілеўскі.

## Экскурсійныя об‘екты Аршаншчыны.

*(Матар‘ялы).*

### 1. Культурна-гістарычны маршрут.

Горад Ворша зьяўляецца адным з цікавых об‘ектаў для правядзеньня культурна-гістарычных і прамыслова-экономічных экскурсій. Экскурсбюро зьмяшчаецца ў Доме Асьветы 1-ы Дняпроўскі завул., дом № 4, дзе можна дастаць кіраўніка экскурсіі па горадзе. Культурна-гістарычныя экскурсіі лепш за ўсё пачынаць з агляду Аршанскага замчышча. Накіраваўшыся з Дому Асьветы па Менскай вул., экскурсанты выходзяць да новай электрастанцыі і вадзянога млына, які пабудаваны на перакопе. Гэты перакоп быў выкапаны для аддзяленьня плошчы замку ад поля. За перакопам адразу пачынаецца пляц ніжняга замку, які зваўся астрогам. Уся плошча ад перакопу да замковага рову, які пачынаўся ніжэй сучаснай грэблі праз раку Аршыцу і злучаў воды Дняпра і Аршыцы, аддзяляючы такім чынам верхні замак ад астрогу, была абведзена высокім драўляным тынам. Адсюль і назва „астрог“. Налева ад грэблі, па левым беразе Аршыцы да яе вусьця, цягнуўся верхні замак. Самы замак быў пабудаван каля 1500 году, меў каменныя сьцены вышынёй ад 5 да 7 сажняў і 5 вежаў вышынёй да 10—12 сажняў. Замак меў форму пяцікутніка і ахапляў сабой усю

[18]) Л. Нікольскі. Куткі жывой прыроды ў Віцебску і яго ваколіцах. „Віцебшчына“ I. 1925, стар. 182—184.

[19]) Адамаў. Бальшалетчанскі батанічны сад. „Віцебшчына“ I. 1925, стар. 173.

плошчу ад сучаснай Замкавай вуліцы да вусьця рэчкі Аршыцы. Цяпер добра відаць толькі рэшткі рова і вал па Замкавай вуліцы каля будынку „Краснашчокава на замке“, а таксама застаўся роў замку каля вусьця Аршыцы. Раскопкі навуковай экспэдыцыі Інбелкульту ў 1928 годзе высьветлілі, што Аршанскае гарадзішча ня зусім даўняга пахаджэньня. Археолёг Ляўдански адзначае яго, як славянскі гарадок XI-XII стагодзьдзяў. Сярод насельніцтва гораду вельмі пашыраны чуткі аб падземных ходах з замку ў розныя канцы гораду. Інвэнтар Аршанскага замку ад 1560 году сьведчыць, што падземны ход быў толькі пад Днепр, праз які ў час аблогі хадзілі па ваду ў Днепр. Самы ход гэты павінен быць пад хатай сучаснага дравянога складу Камгасу „на Замке“. Перайшоўшы Аршыцу на мосьце, праз грэблю, экскурсія пападае ў асяродзьдзе старога гораду Воршы, і на Савецкай вул. зараз-жа сустракае два помнікі будаўніцтва XVII веку: будынак сучаснага Акруговага архіву зьмяшчаецца ў царкве Мікольскай і нараджэньня багародзіцы. Гэтая царква пабудавана Аршанскім брацтвам у 1661 годзе і пад ім выкапана глыбокае сутарэньне, у якім раней былі склады розных тавараў аршанскіх купцоў; ёсьць тут цікавыя ходы ў самай сьцяне царквы і пад зямлёй. Далей па Савецкай вуліцы цікавы сваёй пабудовай сучасны парахвіяльны касьцёл. Раней у ім зьмяшчаўся даміліканскі кляштар. Манахі-дамінікане зьявіліся ў Воршы каля 1649 году, к гэтаму часу трэба аднесьці і заснаваньне самога касьцёлу, але каменны касьцёл быў збудаваны ў пачатку XIX сталецьця. Дамінікане мелі ў сваім кляштары школу для дзяцей шляхты з 1826 па 1840 год. Кляштар дамінаканаў зачынены царскім урадам каля 1840 году. У самым касьцёле цікавай пабудовы лаўкі для сядзеньня багамольцаў і панікадзіла з горнага крышталю. Далей па Савецкай вуліцы будынак былога Францішканскага кляштару, пабудаваны каля 1680 г. Цяпер у ім зьмяшчаецца Профтэхшкола. Падняўшыся ўверх Мальлянскай вул., экскурсія пападае на гарадзкія бойні, якія стаяць над вялікімі рвамі, выкапанымі пры здабываньні вапнякоў. Завярнуўшы на права па вуліцы, экскурсія выходзіць на шашу і даходзіць да старога яўрэйскага магільніка, на якім ёсьць досыць цікавыя надмагільныя помнікі. Заснаваньне магільніка трэба аднесьці да 1620 г., калі кароль Уладыслаў асобным прывілеем дазволіў аршанскім яўрэям пабудаваць сінагогу і да сінагогі дадаў пляц для пахаваньня. З магільніка адкрываецца вельмі прыгожы від на Воршу і яе ваколіцы. Спусьціўшыся з магільніка па Прабойнай вул., экскурсанты выходзяць да яўрэйскіх сінагог па былой Гараднянскай вул. Драўляная сінагога з высокай вежавай страхой па гэтай вуліцы зьяўляецца надта цікавым помнікам яўрэйскай сінагогальнай архітэктуры. Страха гэтага будынку вельмі выцягнута ў вышыню: тыповая адзнака яўрэйскага будаўніцтва і выкарыстаньня характару пабудовы вежаў Аршанскага замку. Каменная сінагога, побач з гэтай драўлянай, пабудавана ў канцы XVIII і пачатку XIX-га стагодзьдзя і носіць на сабе адзнакі змаганьня хасідаў і міснагдымаў (рэлігійныя напрамкі) сярод аршанскіх яўрэяў пачатку XIX стагодзьдзя.

Накіраваўшыся далей па Гараднянскай вуліцы, экскурсія трапляе да будынкаў былога пакроўскага праваслаўнага кляштару. Да 1840 г. з паловы XVIII стагодзьдзя тут быў базыльянскі вуніяцкі кляштар. Цяпер у манастырскіх кельлях зьмяшчаецца земаддзел, чэрцежны архіў і краязнаўчы акруговы музэй. Гэты музэй быў заснаваны, як сельска-гаспадарчы, толькі ў 1928 г. Сюды перавезены колекцыі куль-

турна-гістарычнага музэю; найбольш цікавымі колекцыямі музэю зьяўляюцца прадстаўнікі фаўны, флёры Аршаншчыны і карціны. У бібліотэцы пры музэі ёсьць старадрукаваныя кнігі, у тым ліку і кнігі Кутэінскай друкарні 1-й паловы XVII стагодзьдзя. Пры музэі ёсьць мэтэоролёгічная станцыя, пчальнік Земаддзелу, а летам тут-жа ў гародзе можна знаёміцца з мёданоснымі травамі, якія могуць расьці на Беларусі. Поплеч з музэем ляжыць мэханічная майстэрня, у якой можна азнаёміцца з процэсамі ліцьця і рознымі вырабамі з жалеза. У канцы Гараднянскай вуліцы, у былой сядзібе Галькевіча—яўрэйская земляробская арцель „Чырвоны Бераг". На гарадзкім магільніку стаіць цікавая царква ў стылі бароко: самы лепшы помнік гэтага стылю ў Воршы. На Благавешчанскай вул., на гародзе грамадзяніна Каткоўскага, яшчэ да гэтага часу захаваліся рэшткі Добравешчанскай царквы манашак базальянак. Кляштар манашак базальянак быў пабудаваны каля 1640 г. і зруйнаваны пасьля 1863 г. На гародзе Каткоўскага яшчэ да гэтага часу ўцалела чыгунная пліта над магілай купца Бараноўскага, які паханы ў 1863 годзе. Род купцоў Бараноўскіх у Воршы быў вядомы сваім багацьцем, і помнік Бараноўскага сьведчыць, што да 1863 г. магільнік быў каля царквы Добравешчаньня кляштару базальянак. У далейшым сваім паходзе, уніз па рэчцы Аршыцы, экскурсія ўпіраецца ў сьцены і паркан шпітальнага двара. Сучасны шпіталь імя Сямашка месьціцца ў будынках кляштар Бэрнардынаў. Бэрнардынскі кляштар пабудаваны ў першай палове XVII стагодзьдзя аршанскім старастай Андрэем Млоцкім. Самы кляштар стаяў да 1840 году, пасьля чаго быў закрыты царскім урадам і перададзены пад больніцу. У кляштары было 2 касьцёлы: адзін каменны, другі драўляны, якія былі разбураны ў 80 гадох. Уцалелі толькі кельлі манахаў, у якіх цяпер месьціцца павятовы шпіталь. Па выхадзе на Комсамольскую вул., эскурсія даходзіць да былога кляштару трынітараў і Комсамольскага садзіка. Кляштар трынітараў самы малады з каталіцкіх кляштараў у г. Воршы. Ён пабудаваны каля 1714 г. панамі Саковічамі і закрыты царскім урадам пасьля 1831 г. У 1851 годзе касьцёл гэтага кляштару перабудаваны ў Васкрасенскі сабор. У самым кляштары з 1840 г. зьмяшчалася дваранская школа, пазьней—гарадзкое вучылішча, цяпер вайсковая школа. За кляштарам цягнецца вельмі цікавы сад профсаюзаў, у якім ёсьць стралковы цір. Насупроць вайсковай школы і двара былога трынітарскага кляштару раскінуўся Комсамольскі сад. Да рэволюцыі гэта быў адзіны гарадзкі сад у Воршы. Сад разьведзены ў 1873 годзе. Да таго часу гэта быў пляц, на якім адбываліся базары і смотры салдат. Гарадзкая дума меркавала заснаваць на гэтым пляцу гасьціны двор падобны да Маскоўскага. Будынкі, у якіх цяпер зьмяшчаецца гарадзкі тэатр і друкарня, былі пабудаваны ў другой палове XIX стагодзьдзя для выкананьня гэтага пляну. Будынак АВК на Ленінскай вул. цікавы як некаторы помнік грамадзкай архітэктуры ў Воршы. Тут зьмяшчалася гарадзкая ратуша. Да 1812 году на гэтым месцы стаяў драўляны будынак гарадзкой ратушы, але згарэў. Будынак АВК цагляны, двухпавярховы з высокай пажарнай вежай. Пад будынкам АВК знаходзяцца вялікія сутарэньні былой гарадзкой ратушы, і, калі гэтыя падвалы абвальваюцца, то адчыняюцца моцныя сьцены былых падвалаў гарадзкога магістрату, адгэтуль пайшлі чуткі аб падземных ходах. Такія правалы гэтых сутарэньняў былі ў 1898 г. і ў 1915 г.

Будынак папраўчага дому зьяўляецца рэшткамі будынкаў былога кляштара езуітаў у Воршы. Езуіты зьявіліся сюды ў пачатку XVII ста-

годзьдзя. Касьцёл езуітаў у Воршы пабудаваны каля 1690 г.; вызначаўся сваім характвом сярод усіх іншых езуітскіх кляштараў на ўсходзе Беларусі. Гэты кляштар займаў усю плошчу паміж ракой Аршыцай, Ленінскім завулкам і Менскай вул. Да 1820 году ў гэтым кляштары зьмяшчалася 5-цікляснная колегія, у якой навучаліся дзеці шляхты Аршаншчыны. На Ленінскай вул. засталася яшчэ дагэтуль сьцяна, якой кляштар езуітаў аддзяляўся ад гораду. Насупраць сьцяны езуіцкага кляштару, на другім баку цяперашняга Ленінскага завулку, быў Мар'явіцкі кляштар. Манашкі мар'явічкі займаліся пераважна пашырэньнем каталіцтва сярод гараджан праз сваю школу. Школа іхняя была зачынена ў 40 гадох XIX стагодзьдзя. Кляштар быў драўляны зруйнаваны пасьля 1863 г.

З цікавых Аршанскіх будынкаў, якія зьмяшчаюцца па Ленінскай вул., трэба адзначыць Рабоча-партыйны клюб, Пушкінскую бібліотэку, паштовую кантору. Уся гэтая частка гораду пачала шыбка расьці пасьля правядзеньня шашы на Віцебск пры Мікалаі І-м. Да таго часу горад канчаўся цяперашняй Піонэрскай вул., былой Пацыянаўскай. У канцы Пацыянаўскай вуліцы, на беразе Дняпра, дагэтуль яшчэ ўцалелі рэшткі землянога вала, якім быў абведзены старадаўны горад Ворша. Па беразе Дняпра гэты вал яшчэ ўцалеў і можа быць агледжаны экскурсантамі. Далей, па Ленінскай вуліцы пад Кабылякі, экскурсанты могуць агледзець стадыён для фізкультуры пры 1-й Аршанскай сямігодцы, піваварны завод „Спартак", лесапільны завод Комгасу і аэродром. З будынкаў, на левым беразе Дняпра, у Задняпроўі цікава Ільлінская царква, якая пабудавана ў XV стагодзьдзі, і будынкі Кутэінскіх кляштараў: мужчынскага і жаночага. Мужчынскі Кутэінскі кляштар пабудаваны у 1623 г., а жаночы—у 1631, на зямлі пана Аршанскага павету Багдана Статкевіча, портрэт якога знаходзіцца ў Аршанскім музэі. Гэтыя кляштары, асабліва жаночы, цікавы з боку пастаноўкі гаспадаркі кляштараў. З царквей найбольш цікава каменная царква ў жаночым кляштары, якая была асьвяшчана Пятром Магілай у 1635 г.

### Прамыслова-экономічны маршрут.

Прамысловасьць Воршы невялікая і дагэтуль насіла пераважна саматужніцкі характар. Самым цікавым об'ектам экскурсій у прамысловасьць зьяўляецца чыгуначны вузел станцыі Ворша. Тут вельмі цікава агледзець розныя дэпо, школу, электрастанцыю, вакзал і новы клюб саюзу чыгуначнікаў, а таксама новыя кватэры для рабочых, якія пабудаваны жыльлёвай коопэрацыяй. Далей агледзеўшы цагельню Камгасу, каля чыгункі па Шклоўскім бальшаку, экскурсантам цікава зазглянуць на бэконную фабрыку і ільно-прадзільны комбінат, якія будуюцца недалёка ад берагу Дняпра. Уверх па Дняпры ад ільно-прадзільнага комбінату, экскурсія выходзіць на вапеньніцы. У гэтай мясцовасьці з даўных часоў Аршанцы выпальвалі вапну. Вапенныя печы пакрылі сабой увесь правы берег Дняпра за Воршай аж да Кутэінскага мужчынскага кляштару. Ідучы далей паз бераг уверх па Дняпры экскурсанты пападаюць у раён замку, дзе трэба агледзець вадзяны млын з электрастанцыяй і новую гарадзкую электрастанцыю. На правым беразе Аршыцы тут-жа знаходзіцца хлебазавод ЦРК, у якім экскурсанты азнаёмяцца з працэсамі мэханічнага хлебапячэньня. Тут-жа побач знаходзіцца пекарня саматужніцкага тыпу, дзе можна агледзець працэсы

пячэньня хлебу ў старыя гады. Раён Аршанскага базара вельмі цікавы сваімі кузьнямі і рознымі майстэрнямі, на якіх можна прагледзець, як працавалі Аршанскія рамесьнікі ў старадаўныя гады. Перайшоўшы з базару па мосце на левы берег Аршыцы, экскурсантам цікава азнаёміцца з фарбавальнымі майстэрнямі саматужніка Сьмірнова і насупраць мэханічная фарбарня арцелі саматужнікаў. Трохі далей, каля будынку Акрстрахкасы, знаходзіцца каўбасная майстэрня ЦРК, а супроць, у падвале былога народнага вучылішча часоў Кацярыны—працколектыў кавалёў. Далей па Магілеўскай вуліцы—Акруговая друкарня, а па Ленінскай—працколектывы шаўцоў і краўцоў.

З помнікаў будаўніцтва сучаснай Воршы трэба агледзець дварэц профсаюзаў, 3-хпавярховы будынак на рагу Ленінскай і Камсамольскай, клюбы саматужнікаў на Чырвонай і будаўнікоў—на Піонэрскіх вуліцах, а таксама школу імя 1905 г. на Пролетарскай вул.

### Экскурсійныя об‘екты на акрузе.

Ваколіцы гораду Воршы не даюць добрых матар‘ялаў для правядзеньня якіх-небудзь асаблівых экскурсій. Тут вельмі багаты матар‘ял для правядзеньня мешаных экскурсій: культурна-прамысловых, прыродна-гістарычных і г д. Найбольш цікавай можа быць экскурсія на Асінаўскую раённую электрастанцыю, якую лепш праводзіць пехатой па шашы на Віцебск. Тут зараз-жа за Воршай цікавая геолёгічная экскурсія на Кабыляцкую камяніцу. На Кабыляцкай гары сяляне здабываюць вапеньнік і вельмі часта знаходзяць косткі маманта. У паўвярсьце ад шашы працякае Дняпро і знаходзяцца ўсім вядомыя Кабыляцкія парогі, на якіх проектуецца пабудаваць Кабыляцкую электрастанцыю. Далей па шашы цікава агледзець саўгас Высокае з добра пастаўленай сельскай гаспадаркай з ухілам жывёлагадоўлі. Далей—малочная арцель Пішчалава, рабочы пасёлак Выдраца і торпазавод на Асінаўскіх балотах. З Асінбуду цікава прайсьці на Дуброўну. Раён Верацейскіх балот вельмі прыгожы сваім морэнным ляндшафтам. Узгоркі, бары, баравыя вазёры і балоты цягнуцца да самае Дуброўны.

Мястэчка Доброўна на Аршаншчыне цяпер зьяўляецца маньчэсьцерам акругі. Дубровенская мануфактура найбольшая ткацкая фабрыка на Аршаншчыне. Апрача ткацкай фабрыкі, тут-жа ў Дуброўне экскурсанты могуць азнаёміцца з саматужнымі майстэрнямі па вытканьні „талесаў“ і вырабу розных прылад яўрэйскага богамаленьня. Дубровенская сінагога зьяўляецца цікавым помнікам яўрэйскай сінагогальнай архітэктуры на Беларусі. Апрача гэтага, у Дуброўне трэба агледзець палац князёў Любамірскіх, сучасны будынак Беларускай сямігодкі, парк і раённы краязнаўчы музэй, які месьціцца ў гэтай-жа семігодцы. У ваколіцах Дуброўны можна наведаць саўгас Станіслававa, дзе трэба агледзець бровар, стада ангельскіх белых сьвіней і швіцкіх кароў. У ваколіцах гораду Воршы трэба агледзець цікавы завод „Чырвоны Кастрычнік“ у 7 вер. ад Воршы па рэчцы Адроўка, саўгас „Вусьця“ з вялікім садам, пладовым выхавальнікам і торпараспрацоўкамі, саўгас Бабінічы з крахмальным заводам, яўрэйская арцель „Чэрчыцы“ з крахмальным заводам, яўрэйская арцель „Чырвоны Кастрычнік“, потым саўгас Забалоцьце з плодасушылкай, вінзаводам, вальцовым млыном і сельскай гаспадаркай, сыраварaны завод, саўгас Межава—насенная гаспадарка, сыраварня і лепшае стада чырвонага беларускага быдла. Тут-жа недалёка, каля Межава, стары яўрэйскі магільнік і культурна-

гістарычны заказьнік з курганамі і гарадзішчам, каля вёскі Чаркасова—XI-XII стагодзьдзя. Ад саўгасу Межава можна накіраваць экскурсію далей у м-ка Смальляны. Тут цікавы руіны Смальлянскага замку, царква ў м-ку Смальлянах, базар і Учгас Смальляны з рыбным заводам. Ад Смальлян маршрут можна ўзяць на Коханава. У Коханаўскім раёне экскурсантам можна агледзець саўгас Гаршчэўшчына з рэкціфікатным заводам, малочную арцель Алёнавічы, касьцёл у Старых Абольцах, які пабудаваны каля 1389 г. пры Ягайле. Гэта першы каталіцкі касьцёл у нашым краі. Далей трэба агледзіць шматпольную вёску Падберазьзе, яўрэйскую арцель „Праўда" і лесапільны завод у м-ку Коханава.

*Копыскі раён.* Горад Копысь цікавы сваімі царквамі, старасьвецкім замчышчам і кафельнымі заводамі „Пролетары". У 17 вяр. ад Воршы знаходзіцца суконная фабрыка Якаўлевічы, Копыскага раёну, а недалёка, каля вёскі Лешча, цікавы раскопкі мэргеля і сельска-гаспадарчая арцель Ляўкі. Малочнае таварыства Капысіца, Машынна-спробны пункт у старасельлі.

*Талачынскі раён.* М-ка Талачын—будынкі былога базыльлянскага кляштару, крахмальны завод, арцель Азерцы і лесапільны завод, малочнае та-ва і шматпалёвая вёска Азерцы. Саўгас Друцк,—старадаўняе замчышча і сад; саўгас Райцы—дацкія каровы, хмеляводзтва. Усьвіж Буг—мэліорацыя, вёска Сухачова – ганчары, сяло Высокі Гарадзец—Барысаў камень.

*Крупскі раён.* М-ка Бобр—цікава сваімі прыгожымі ваколіцамі. Крупка—паліўны завод, лесапільны завод, вёска Шэйка—шматпалёвыя пасёлкі.

*Чарэйскі раён.* М-ка Чарэя, белая царква з замчышчам Сапегаў. Лукомль з рыбным заводам. Вёска Гара—шматпольныя пасёлкі.

*Багушэўскі раён.* Станцыя Стайкі лесазавод. Сыраварні. Каменка—шматпольле, пасёлкі; Агропункт Кічына; саўгас Дзедлава.

*Круглянскі раён.* Саўгас Цяцерына, профмайстэрня; шматпольле ў вёсцы Прышчэпаўка, мэліорацыйныя Т-вы ў вёсцы Малачня.

*Лядпянскі раён.* М-ка Ляды—сінагога і будынкі вядомага яўрэйскага цадыка Залмана Шныерсона. Саўгас Арловічы—гароды; малочнае т-ва—Усьвяты; м-ка Баева—тарпяное т-ва.

*Горацкі раён.* Горкі. Беларуская С.-Г. Акадэмія: габінэты, батанічны сад, лябораторыі, парк, фэрма, дасьледчыя палі. Праз знаёмства з Акадэміяй можна мець поўнае ўяўленьне аб фаўне, флёры, прыродзе і с.-гаспадаркай Беларусі. Фальварак Іванова—дасьледчае поле, мэліорацыя. Саўгас Леніна—бровар, палац князёў Дандуковых-Корсакавых—мэханічны завод па апрацоўцы малака.

*Дрыбінскі раён.* М-ка Дрыбін—шапавальскія майстэрні, саўгас Дрыбіна—фэрма, дасьледчыя палі.

*Расьнянскі раён.* Цёмналескі лесапільны завод. Комуна „Разсвет". Г. Расна—цікавейшая яўрэйская сінагога, малочная коопэрацыя.

*Амсьціслаўскі раён.* Горад Амсьціслаў—замчышча, касьцёл езуітаў, Інстытут глуханямых, дзетгарадок, сяло Лютня Бобрык—ягаднікі, выхавальнік раманаўскай авечкі.

---

Д-р К. Гурвіч.

# Беларуская народная мэдыцына.

Абшары Беларусі характарызуюцца як тэрыторыя раўнінная, адчыненая для вятроў з усіх бакоў, у тым ліку і з Балтыцкага мора; з другога боку—раўніннасьць гэтая спрыяе забалачваньню глебы. Клімат Беларусі, як вядома, у агульных рысах характарызуецца як пераходны ад контынентальнага суседніх часьцін РСФСР да больш мяккага прыбалтыцкіх краін і ня мае рэзка выяўленых адзнак ні для зімы, ні для лета. Далей, расьліннасьць Беларусі, узятая таксама ў агульных рысах, не дае стандарту для ўсяе тэрыторі, бо мы маем зоны і чыста хвойныя і чыста лісьцёвыя з цэльным шэрагам пераходаў паміж імі. Маем флёру ксерафільную, а з другога боку флёру чыста балотную. Таксама і іншыя асаблівасьці прыроды Беларусі сьведчаць аб тым, што тэрыторыя гэтая сумяшчае ў сябе шмат адзнак суседніх краін, што тлумачыцца паступовым пераходам беларускіх абшараў у суседнія, якому не перашкаджаюць ні горы, якіх няма на Беларусі, ні іншыя прыродныя межы. Гэтая паступовасьць пераходу, а таксама і наяўнасьць на Беларусі такіх буйных шляхоў зносін як Дняпро і іншыя рэкі і зрабіла з Беларусі ў гістарычных адносінах як-бы прахадны двор, праз які літаральна з усіх бакоў, з усіх чатырох старон сьвету, праходзілі і зварочваліся розныя народы. Праходзячы па беларускай тэрыторыі, госьці гэтыя, часта званыя, а яшчэ часьцей і нязваныя, пакідалі па сабе тэй ці іншай значнасьці сьляды, сярод якіх розныя эпідэміі, ці пандэміі, а то і проста індывідуальна працякаючыя хваробы займаюць далёка не апошняе месца.

Зразумела, што ў народзе павінна была выпрацавацца свая сыстэма змаганьня з хваробамі, як сваімі, тутэйшымі, эндагеннымі, гэтак і з нанесенымі—экзагеннымі. Далёка не апошнюю ролю сярод хвароб першай групы, эндагенных, грае т. зв. балотная трасца (malaria), досыць пашыраная на Беларусі і ў нашы часы, чаму спрыяюць балоты, займаючыя, як ведама, у нас вялікую плошчу. Ня кажучы ўжо аб каўтуне (Plica Polonica), мы акрамя малярыі маем часта паўтараемыя эпідэміі розных заразных хвароб, як шкарлятына, тыфусы, крываўка (dysinteria), якія ў некаторыя пэрыоду году толькі сьціхаюць, але зусім ня зьнікаюць (гл. часоп. „Беларуская Мэдычная Думка“ 1929 г. № 1, артыкул д-ра Балкаўца С.—„Старонка з гісторыі мэдыцыны на Беларусі“). Магу дадаць да гэтага, што за апошнія гады назіраецца шмат выпадкаў нэрвовых занядужаньняў, а ў 2-й тэрапэўтычнай клініцы ў Менску мне давялося чуць аб свайго роду „эпідэміі“ эндакардытаў; зразумела, што ў даным выпадку гутарка ішла не аб эпідэміі ва ўласным сэнсе тэрміну, адзначаўся толькі вядомы рост гэтага тыпу занядужаньня. Сьціслая сувязь, якая з кожным годам усё больш і больш наладжваецца паміж горадам і вёскай, вядзе да росту профэсыянальнай траўматызацыі сялянства малацілкамі, саломарэзкамі і іншымі сельска-гаспадарчымі машынамі. Зразумела, што ўсе гэтыя хваробы прыносяць вялікую шкоду народнаму дабрабыту.

Для змаганьня з гэтымі хваробамі былы царскі ўрад толькі ў пачатку XX стагодзьдзя ўтварыў апарат, які не здавальняў ні лікам ні якасьцю рацыянальнай дапамогі. Пасьля рэволюцыі хаця-ж справа народнага здароўя і зрабілася справай дзяржаўнай і апошняя зьвяртае

на ахову здароўя працоўных максімальную ўвагу, аднак, галоўным чынам з прычыны матар'яльных магчымасьцяй, і да апошняга часу беларуская вёска ня мае поўнасьцю неабходнай мэдычнай сеткі. Што-ж датычыць Заходняй Беларусі, дык там справа аховы народнага здароўя і даэгэтуль захавала ўсе характэрныя адзнакі былой царскай „дапамогі". Зразумела адсюль, што беларускія працоўныя, якія ў дарэволюцыйныя часы былі літаральна пакінуты на саміх сябе, прымушаны былі ў саміх сябе і шукаць ратунку ад рознастайных і шматлікіх хвароб.

Кожны народ, акружаны праявамі шматлікіх шкадлівых, а часамі і проста варожых сіл прыроды, заўжды адшукоўвае ў самім сабе сілы і сродкі для змаганьня з гэтымі элемэнтамі, ў цэлым шэрагу выпадкаў, прыцягваючы на дапамогу карысныя для яго элемэнты прыроды. Так і беларускі народ, падлягаючы розным уплывам з боку топографіі, клімату і іншых асаблівасьцяй сваёй краіны і рэагуючы на гэтыя ўплывы рознымі занядужаньнямі, выпрацаваў у сябе цэлую сыстэму захадаў і сродкаў для змаганьняў з гэтымі шкоднымі ўплывамі, сыстэму, вядомую пад назовай — народная мэдыцына, у процівалегласьць навуковай мэдыцыне, або проста мэдыцыне, пабудова якой ідзе зусім іншымі шляхамі і мэтодамі.

Сур'ёзна гаварыць аб тым, што гістарычная роля народнае мэдыцыны ў нашыя часы ўжо скончана, зразумела нельга. Далёка ня так. Ня кажучы аб Заходняй Беларусі, дзе яшчэ маюць моц уплывы рэлігійныя і быт народны старанна ахоўваецца ад „веяньняў з усходу", нават і на Савецкай Беларусі роля народнай мэдыцыны яшчэ далёка не адыграна, галоным чынам, з прычыны неахопленасьці нашай вёскі рацыянальнай мэдычнай дапамогай, чаму сялянства прымушана яшчэ і дагэтуль шукаць у самога сябе ратунку. Праўда, об'ектыўнасьць вымагае прызнаць, што і консэрватызм вёскі грае ў гэтым не малую ролю. Варта нам зьвярнуцца да мінулага, як гэтая неабходнасьць шукаць у самога сябе ратунку набывае ўсё больш і больш значныя памеры і, урэшце, не далей як у 80—90 гадох мінулага стагодзьдзя мы ўбачым вялізарныя беларускія абшары, пакінутыя бяз усякае мэдычнае дапамогі з боку былога ўраду. Яскравы малюнак тагочаснага стану справы аховы здароўя можна знайсьці ў памянёным вышэй артыкуле д-ра Балкаўца С., у якім аўтар прыводзіць часамі жудасныя апісаньні тэй „дапамогі", якую мела ў тыя часы беларуская вёска. Але і ў сучасны пэрыод, як я ўжо адзначаў вышэй, народная мэдыцына грае вялікую ролю ў быце нашага селяніна. Не магу ня прывесьці наступнага прыкладу, які сьведчыць лепш за ўсе лямэнтацыі аб жывучасьці гэтага тыпу народнае творчасьці, менавіта: амаль кожны базарны дзень, якіх у Менску, як ведама, на тыдні тры (панядзелак, серада і пятніца), ідучы на працу ў 2-ю Савецкую больніцу, я праходжу заўсёды міма бабкі, якая, прытуліўшыся да сьцяны аднаго з будынкаў гэтай больніцы, адкрыта гандлюе рознымі зёлкамі. Між тым у гэтым будынку зьмяшчаецца паліклініка, у якой адбываецца прыймо лепшымі асыстэнтамі, а часамі і самімі профэсарамі і акрамя таго ў гэтай больніцы зьмяшчаюцца чатыры буйныя клінікі: тэрапэўтычная, хірургічная, акушэрска-гінеколёгічная і псіхыатрычная, на чале якіх стаяць досыць вядомыя профэсары з штабамі добрых асыстэнтаў і ордынатараў і послугамі найноўшых дасягненьняў савецкае і замежнае мэдычнае думкі. Гэтак і ўжываюцца зусім мірна адно каля аднаго налічваючая ў актыве літаральна тысячагадовую гісторыю народная

мэдыцына з аднога боку і маючая ў сваім актыве найвялікшыя дасягненьні чалавечага розуму — навуковая мэдыцына з другога боку! Вось яшчэ прыклад: адзін хворы, гнойны, якога ў хірургічнай кініцы, з прычыны вострага стадыя лячылі спакоем і г. зв. сухімі перавязкамі, аднойчы заявіў мне: „ат! што гэта за лячэньне! Толькі прыкладаюць кавалкі сухой марлі. Лепш дамоў ехаць, чымся тутака ляжаць, у даму, прынамсі, бабка дасьць нейкага зельля ў сярэдзіну, або намажа чымся больку, вось гэта лячэньне! А тут што? Ляжыш, як той дурань!“ Затое другая хворая сялянка, з „адукаваных“ у часе прыпадкаў (хварэла на жоўчныя каменьні) крычала на ўсю палату: „доктар! укалі морфію!“.

Мы бачым з гэтых прыкладаў (а іх можна прывесьці сотні), што нават у Менску яшчэ жыве вера ў моц народнае мэдыцыны, што-ж казаць пра глухія куткі, адлеглыя ад больніц, або ад чыгункі на дзесяткі кілёмэтраў. Нават і той пераварот, які адбыўся ў матар'яльнай і духоўнай сфэры жыцьця беларуса ў сувязі з Кастрычнікам і які, фактычна, не закончыўся яшчэ і цяпер, нават і ён ня прымусіў народную мэдыцыну здаць свае позыцыі. Зразумела, што павінны існаваць прадпасылкі для гэтага зьявішча, як яны існуюць і для рознастайных іншых праяў чалавечага жыцьця. У даным выпадку адшуканьне гэтых прадпасылак ня так ужо і цяжка, асабліва за часы прадрэволюцыйныя, але і ў сучасны момант яны ня страцілі цалкам свайго значэньня.

Я ня буду тутака спыняцца падрабязна на гэтах прадпасылках, адзначу толькі коратка, што сярод іх мы маем тры наступныя групы: політычныя, экономічныя і бытавыя. Політычныя прадпасылкі, існаваўшыя ў прадрэволюцыйныя часы, мелі сваёй крыніцай тую політыку, якую праводзіў былы ўрад ў адносінах да Беларусі і яе насельніцтва ў галінах нацыянальных, станавых і рэлігійных суадносін асобных частак гэтага насельніцтва паміж сабою, вынікам чаго зьявіўся факт існаваньня асобнай яўрэйскай, польскай і дзяржаўнай (з 1911 г.—земскай) расійскай мэдычнай дапамогі, паміж сабой амаль што ня зьвязаных. Рэволюцыя канчаткова зьнішчыла гэтую недарэчнасьць, утварыўшы адзіную мэдычную сетку.

Другі тып прадпасылак — экономічны, на жаль, ня страціў і дагэтуль свайго значэньня, бо найлепшай умовай для захаваньня ў народзе забабонаў і знахарства і зьяўляецца адсутнасьць рацыянальнай мэдычнай дапамогі ў выстарчальным ліку і належнай якасьці. Нарэшце, трэці тып прадпасылак — бытавы, самы складаны, бо ў утварэньні яго прынялі ўдзел ўсе папярэднія зьявішчы гістарычнага беларускага жыцьця і адбіліся ўплывы розных момантаў: і політычных, і рэлігійных і г. д., гэты тып найбольш падлягаў і падлягае ўдарам рэволюцыі і часу, але і ён ня страціў яшчэ і дагэтуль свайго ўплыву і ня хутка яшчэ працоўныя вызваляцца ад ланцугоў консэрватызму і забабоннасьці.

Усе гэтыя моманты і жывяць народную мэдыцыну і не даюць апошняй памерці натуральнай сьмерцю за адсутнасьцю попыту, а наадварот, прымушаюць народ дагэтуль часта шукаць у самога сябе ратунку ад тых шматлікіх хвароб, якія падсьцерагаюць чалавека на кожным кроку.

Таму для нас і зьяўляецца актуальнай патрэбай уявіць сучасны стан народнай мэдыцыны, адшукаць яе карэньні і пашукаць тыя магчымыя элемэнты рацыянальнасьці, якія бязумоўна ў ёй ёсьць і ў некаторых выпадках дапамагаюць хвораму, тым самым падкрэсьляюць

карыснасьць знахарства і чараўніцтва. Дзеля таго, каб пасьпяхова змагацца з ворагам і здолець яго, неабходна добра ведаць гэтага ворага, між тым, на жаль, беларуская навука і да гэтага часу ня можа пахваліцца вывучанасьцю гэтага пытаньня. Амаль усе дасьледчыкі, да рэчы—лік іх надзвычайна нязначны, вывучаюць формальную этнографічную частку проблемы і ніводзін з іх ня робіць спробы крытычнага аналізу матар'ялаў аб беларускай народнай мэдыцыне, ня кажучы ўжо аб мэдычным баку проблемы, да гэтага часу яшчэ зусім не закранутым. Між тым толькі падвойнае вывучэньне—і этнографічнае і мэдычнае і дасьць магчымасьць дасканала выявіць і самы зьмест народнае мэдыцыны і прыроду яе, адшукаць яе карэньні і тыя рацыянальныя элемэнты, якія бязумоўна ў ёй ёсьць.

Што зьяўляецца дакладна зьместам беларускае народнае мэдыцыны, дзе пачынаюцца яе межы і дзе яны канчаюцца, якія нозолёгічныя адзінкі вызначаюцца народам і з якім сымптомакомплексам, якія сродкі і чаму ўжываюцца пры тэй ці іншай хваробе—падобны і вялікі шэраг іншых пытаньняў паўстае перад дасьледчыкам беларускае народнае мэдыцыны і вымагае пэўнага адказу.

З другога боку, ёсьць шэраг бясспрэчных выпадкаў, калі, ня гледзячы на забабонны характар захадаў, хворы ўсё-ж атрымлівае вядомае палепшаньне, а бываюць часамі і такія выпадкі, калі хвароба нават зусім зьнікае; зноў паўстае пытаньне: што спрыяла гэтаму пасьпяховаму лячэньню, ці мае пастаў той мэтод, які ўжываецца народам пры такіх выпадках і чаму і г. д.

Нарэшце, прыходзіцца паставіць перад сабой рубам пытаньне: адкуль-жа ўзялася г. зв. навуковая мэдыцына? Мы ведаем, што першыя дактары, яны ня з неба зваліліся, а паколькі першакрыніцай і навуковай мэдыцыны зьяўляецца той-жа народ, пастолькі для нас і цікава і патрэбна высьветліць—ці ёсьць паралелізм у мэтодах і сродках лячэньня тэй ці іншай хваробы і як даёка ідзе гэтае зыходжаньне ў аднэй і другой галінах мэдыцыны—народнай і навуковай.

Вось, прыблізна, той комплекс пытаньняў, які паўстае перад дасьледчыкам з боку мэдычнага асьвятленьня проблемы.

Але ёсьць і другі бок пытаньня—этнографічны, які ня менш важны, ня менш цікавы і, ня гледзячы на некаторую колькасьць апублікаваных досьледаў, яшчэ дагэтуль таксама ня высьветлены дасканала.

Беларуская народная мэдыцына ў поўным сэнсе слова зьяўляецца адлюстраваньнем культурна-бытавых асаблівасьцяй народу, і з гэтага пункту гледжаньня ўся сыстэма народнай мэдыцыны і забабоннасьць, якая праваджае лячэньне, набывае для дасьледчыка беларускае этнографіі надзвычайную каштоўнасьць як першакрыніца фольклёрных і іншых даных, у суме сваёй складаючых комплекс беларускае этнографіі. Таксама і мова народу, яго тэрмінолёгія і, нарэшце, запас паняцьцяў, якія ўжываюцца народам, таксама захоўваюцца ў нетрах гэтае народнае мэдыцыны.

Чым-жа зьяўляецца апошняя ў агульных рысах?

Народ, залюдняючы сучасную тэрыторыю этнографічнае Беларусі, як ведама, насяляе гэтыя абшары, як кажуць, з даўных часоў. За ўвесь працяг гісторыі беларускі народ падлягаў розным уплывам з боку сваіх суседзяў, пераважна з Усходу і Захаду, захаваўшы, аднак, да апошняга часу асноўны беларускі масыў больш-менш чыстым, не асіміляваным ні расійцамі, ні палякамі, ні літоўцамі. Таму мы можам чакаць у беларускай народнай творчасьці сьляды першых

крокаў гістарычнага жыцьця беларускага народу, сьляды тых уяўленьняў і звычаяў, якія панавалі ў тыя далёкія часы, калі і экономіка і сьветапогляд народу знаходзіліся яшчэ на стадыі прымітыўнасьці, — гэта з аднаго боку, а з другога — мы маем адлюстраваньне і ўсіх пазьнейшых часоў гістарычнага жыцьця беларускага народу з усімі тымі ўскладненьнямі і наслаеньнямі, якія з кругабегам часу захаваліся ў яго памяці.

Калі мы зварочваемся непасрэдна да самой народнай мэдыцыны, мы бачым, які багаты матар'ял дае дасьледчыку кожны артыкул гэтай няпісанай кнігі. Возьмем, напрыклад, само ўяўленьне хваробы. Што такое хвароба, вынікам чаго яна зьяўляецца, якая яе этыолёгія. Калі мы зьвернемся да першакрыніцы, да народу, мы заўважым, што апошні падзяляе ўсе хваробы ў этыолёгічных адносінах на дзьве буйныя групы: хваробы, якія зьявіліся вынікам уплыву з боку розных варожых сіл, насланыя, інакш кажучы—хваробы, якія маюць грунтам г. зв. „духоўны" бок чалавечага жыцьця і другая група — хваробы, якія зьявіліся вынікам няшчасных выпадкаў, ці фізыолёгічныя (роды і інш.), інакш кажучы, якія абапіраюцца на пэўных матар'яльных падставах. Нячыстая сіла самастойна, або па загаду ворага, непасрэдна, або праз пасрэдніка-знахара, пераляк, або ўпуд і г. д.,—вось прыклады этыолёгічных момантаў першай катэгорыі, крыніцы надзвычайна нябеспечныя, бо ні адлегласьць, ні паветра, ні вопратка, ні будынкі — нічога ня можа зьявіцца перашкодай; хваробы можна наслаць на чалавека і тады, калі стаіш побач з ім, і тады, калі ён знаходзіцца на адлегласьці. Сама клясыфікацыя хвароб паказвае на надзвычайную шматлікасьць гэтых момантаў: „На Сионскай гаре стояв лес, а у том леси ходив дед, и низянкий, и маляньким, сивобородянький, лес ломив и уродимяц, заговорив, и притешный, и примовный и приговорный, и лицавый, и лобовый, и кудлай, и жилавый, и костявый и потылошный". (Романов — Белорусский сборник, вып. V, ст. 9. заговор № 24)[1]. Вось яшчэ прыклад: „на синям моры стаиць клетка, а у той клетцы дрыдзевъять дверей, трыдевъять порогов, трыдевъять замков, трыдевъять камен на тых камянех трыдевъять дятинцев. Цур табе молоденяц (3 раза) от трыдевъять дятинцав, от мужицких, и от жаноцких, и от дявоцких и от парабоцких, от подуманых от погаданых, от пристрешных, от примовных, от приговоных, от утешных, от посмешных от колючых, от болючых от свярбучых, от нудливых, от пужанных, от водяных, от вятраных, от усих трыдевъять дятинцав", (там-жа, ст. 20, заговор № 26). Трэці прыклад:..... „иду крабу божаму (такому то) уроки замовляць и заговариваць. Тридзевяць уроков[2]), який ты урок. Ци ты польский, ци цыганьский, ци жидовський, ци мущиньский, ци бабський, ци холопоцкий, ци дзявоцкий, удовцов и удовин, и ранний, повдзеный, и вячерний; ци заглядный, ци подзивный, ци приговорный, ци спрозьщельный, ци спрозьплотный, эй ты урок, який ты урок". (Там-жа, ст. 13, замова № 34). Акрамя гэтых відаў урокаў маем яшчэ цэлы шэраг іншых, напр.: урокі стрэшныя і папярэшныя, завісныя і радасныя, шэрае воко, краснае воко, чорнае воко, белазорае воко, і усякага часу і усякай гадзіны (там-жа, замова № 36), ад каўтуна, каўтунаватага, ад ведзьмака, ад чараўніка (там-жа, замова № 37), парабоцкія і мяшчанскія і папоўскія (там-жа, замова № 52),

[1]) Ужываю правапіс, прыведзены ў Раманава, акрамя „яць" і „і".
[2]) Ізноў трыдзєвяць.

і дзедавы і бабіны, і бацькавы і маткіны, і дзядзькавы і цёткіны і „дивныя, подивныя, из жыл, из пажыл, из буйныя косьти, из горучия крыви, из буйной галавы“ (там-жа, замова № 57) і г. д. і г. д. Мы бачым, які багаты асортымэнт відаў і крыніц аднэй толькі хваробы— уроку, або суроцы, або зглазу, асортымэнт налічваючы літаральна ўсё жывое і няжывое, акружаючае чалавека ў жыцьці.

Ня менш багатай крыніцай зьяўляецца і другая катэгорыя хвароб, якія маюць г. зв. матар'яльныя падставы; тутака маем і выпадковыя зьвіхі, удар, палом касьці і г. зв. „ўнутраныя“ хваробы— грызь, колькі і фізюолёгічныя—крові (menses), роды і г. д. і г. д. Вось, напрыклад, замова ад г. зв. валасьня, або валасьніка:

„Господу богу помолюся и матары божай поклонюся и усим святым угодникам божим угодницам, приступитя и поможитя рабу божаму выговорить тридевъять[1]) волосу, тридевъять собаччих, т. д. котячих, т. д. сьвиньнячих, т. д. коровъих, т. д. воловъих, т. д. коньских, т. д. кобыльлих, т. д. овеччих, т. д. козиных, т. д. мышиных, т. д. павуковых, т. д. куковых, т. д. мухиных, т. д. вовчих, т. д. вовчиных, т. д. урошных, т. д. приговороных, т. д. староськіх, т. д. бабських, т. д. подымных, т. д. посмешных,. т. д. простудных, т. д. обпояных т. д. ветраных, т. д. водяных, т. д. суховейных, т. д. знающих и тридевъять не знающих, выговарую из буйной головы, из жовтыя косьти, из палцов, суставцов, з жилок, пажилок, з можджей, з ясных вочей,—у ем ня стаяць, косьтей не ломити, и сэрца ня крушити“. Чур яго хращонаго, народжонаго. Помочь твоя господи, сотворившаго небу и зямлю“ (там-жа, замова № 230). Заўважаеце, які багаты засортымэнт для аднэй толькі хваробы валасьня, або валасьніка, зноў пералічваючы амаль што ня ўсе зьявішчы і элемэнты, акружаючыя беларуса ў яго жыцьці.

Трэба толькі крыху пакапацца ва ўсіх момантах, якія выклікаюць тую ці іншую хваробу і параўнаць іх з тым, што мы ведаем адносна г. зв. прымітыўных народаў, як нам ня цяжка будзе адшукаць і ў беларускай народнай мэдыцыне сьляды тых самых элемэнтаў соцыолёгіі, якія адзначаюцца і цяпер у прымітыўных народаў, і, якія, бязумоўна, у часы старадаўныя характарызавалі і беларусаў як этнолёгічную адзінку. Сярод гэтых элемэнтаў мы знойдзем і сьляды фэтышызму, і сьляды анімізму, і ўвасабленьне дабра і зла і інш. сіл, адлюстраваньне адвечнага змаганьня г. зв. нячыстай сілы з сілай сьветлай, чыстай і шэраг іншых. У залежнасьці ад гэтага ўяўленьня момантаў прычыннасьці, знаходзяцца, зразумела, і захады, выпрацаваныя народам для змаганьня з усімі шкоднымі праявамі, накіраваныя такім чынам, каб ударыць па ворагу ў самую яго сярэдзіну: калі хвароба выклікана нячыстай сілай, заві на дапамогу сілу чыстую; калі хвароба наклікана насланьнем, намовай, змагайся замовамі, прыцягні на дапамогу цэльны рытуал, які, паміж іншым, мае ня толькі, так кажучы, лячэбнае значэньне, але і профіляктычнае, будучы своечасова ўжыты для папярэджаньня хваробы, або магчымага насланьня. Легенда трымаецца таго, што беларускі народ, як і іншыя народы, мае з аднаго боку цэлы шэраг ворагаў, якія падсьцерагаюць кожны крок чалавека; але з другога боку ён-жа мае і прыяцеляў, якія заўсёды гатовы прыйсьці на дапамогу, трэба толькі добра папрасіць. Сярод гэтых прыяцеляў знаходзім шмат сьвятых, якія маюць свае спэцы-

[1]) Ужываю правапіс, прыведзены ў Раманава, акрамя „яць“ і „і“.

яльныя хваробы і дапамагаюць у выпадку занядужаньня гэтай хваробай, калі толькі добра папрасіць іх, або не раззлаваць. Напрыклад: „... Правяликій господин Домовый, правяликій господин Палявый, правяликій господин Лесавый, правяликій господин Боровый, правяликій господин Лугавый. Правяликій господин луговый Антоний, луговый Хвядосий, боровый Стахваний, бязъименьщик Лясовый, мати Маланьня правяликая господыня". (Раманаў, в. V, ст. 4, замова № 9). Другі прыклад: „Упрошаю, умоляю господа бога и духа святого, воскресного дзенька, святого величка, дай рады-помоцы, дай ретунок ад усякаго зла. Архайла Михайла, Антоний и Хвядосий киявския и пячерския, станьця-ж вы на помочь, ангалы на радосьци". (Там-жа, замова № 10). Вось яшчэ пералік: „Помолимся и поклонимся господу богу и духу святому, тройцы святой ядынай и прачыстай мацяры божжай і святому васкрасейнику Христовому, честному, миласэрнаму, и усим святочкам, годовым празьничкам, киявським, пячерським, и рыжським, и русалимським, Исакову и Якову, и Антоняму и Хвядосяму и святому Юру и Ягору, и святому вотчу Миколу". (Там-жа, замова № 80). Ці напрыклад: „святая Ильля храницель, поможи и сохрани от падучия болезни" (там-жа, зам. № 19), сьвяты Ісак дапамагае ад трасцы, аднак у некаторых мясцовасьцях ад трасцы абараняе „Михайла архайла"; сьвяты Юры, „вяликий Ягоръя"—ад бельма і г. д. і г. д.

Усе гэтыя просьбы, замовы і інш., таксама як і насланьне тэй ці іншай хваробы, або бяды, як я ўжо адзначаў, праводзяцца цэлым рытуалам, які мае мэтай падмацаваць, ці дапамагчы просьбе ці пажаданьню. Напрыклад: пры замове ад зьвіху казаць замову тройчы „ды погладиць ножом звих, ды тройчы ножом у сучек у сцены торкнуць" (там-жа, стр. № 70). Ці гаварачы замову ад крыві „трэба дмухнуць и плюнуць на левы бок тры разы и покуль гомоня стиснуть рану" (там-жа, ст. 67); пры замове ад зглазу: „трэба казаць тройчы на воде ти на хлеби и за кожным разам дуць и плювать на левый бок тройчи-ж. Коли уроки большие, дык трэба ўзяць у руку соли жменьку и водить рукою ниц по виду и казаць етую молитву" (там-жа, ст. 20). Ад залатніка—прагаварыць тры разы замову, пры гэтым навесьці венікам навокал жывата, ціскаючы яго і „кожан раз треба поцягнуць за пуп, у пример" (там-жа, ст. 50) і г. д.

Рытуал, які выконваецца пры лячэньні хвароб, надзвычайна багаты і рознастайны і патрабуе пунктуальнасьці ў выконваньні ўсіх яго правіл, пунктуальнасьці такой строгай, якой мы ніколі ня ўбачым у іншых праявах жыцьця селяніна і якая можа толькі параўнацца з тэй пунктуальнасьцю выконваньня рытуальнага кодэксу, які, я ўспамінаю, мне прыходзілася назіраць у г. зв. душэўных хворых (псіхыатрычных). Дык гэтая пунктуальнасьць у народнай мэдыцыне зразумелая, бо яна заўсёды пакідае для „лекара" шчылінку для адступленьня ў выпадку няўдалага лячэньня: вінаваты ня лекар, а сам хворы, бо ён, скажам, ня ў той бок плюнуў.

Апроч пералічаных відаў рытуалу, ёсьць іншыя рознастайныя спосабы, сярод якіх маніпуляцыі з зернямі жыта, аўсу, ячменю, саломай або лісьцямі і іншымі часьцінамі культурных расьлін, а таксама і расьлін дзікіх, часьцін цела хатніх і дзікіх жывёлін і зьвяроў, ніткі, вузлы, кавалкі матэрыі і цэлы шэраг іншых ужыткаў сялянскага быту—усё гэта бярэцца на дапамогу пры лячэньні тэй ці іншай хваробы. Абвесьці кола, ці іншую лінію стаць тварам да ўсходу, падняць твар да зорак і іншае,—усё гэта неабходная частка знахарскага „лячэньня".

Мы бачым, такім чынам, што беларускі селянін мае цэльны арсэнал сродкаў для змаганьня з хваробай, арсэнал, які налічвае шмат сьвятых і іншых прадстаўнікоў г. зв. „чыстай сілы", таксама як ёсьць дапаможчыкі і з ліку „сілы нячыстай", далей ужываецца многа розных мерапрыемстваў, рытуалаў і іншых сродкаў духоўнае і матар'яльнае сфэры, ужываньне якіх мае мэтай напалоханьне прычыннага моманту хваробы; яны павінны прагнаць напалохаць, або зусім зьнішчыць хваробу з цела чалавека.

Аднак, усім гэтым лячэбны арсэнал беларуса-селяніна не аканчваецца. Да гэтага часу мы знаёміліся з захадамі і сродкамі змаганьня, хаця-ж часткова, і матар'яльнымі па зьместу, але „духоўнымі" па форме і прызначэньні. Галоўны прынцып, які ляжыць у грунце ўжываньня ўсіх гэтых захадаў, месьціцца ў псыхічнай сфэры і цалкам накіраваны на тое, каб аднэй сіле—шкадлівай проціпаставіць другую сілу—карысную. Пры ўжываньні ўсіх гэтых мерапрыемстваў хвораму павінны дапамагчы ня тыя кавалкі матэрыі, або ніткі, або абведзеныя вуглем ці хварбай колы і г. д., павінна дапамагчы вера ў моц усіх гэтых цэрэмоній. Вось чаму і важна так пунктуальна выконваць усе пастановы гэтага няпісанага кодэксу лекарскага рытуалу знахароў, вось чаму напрыклад, важна пляваць у левы бок, а ня ў правы, бо ў кожнага чалавека з левага боку стаяць яго прыслужнікі з ліку нячыстай сілы і цягнуць на нядобрыя ўчынкі, а з правага боку знаходзяцца анёлы і дапамагаюць ня зьвіхнуцца з праўдзівага шляху. Асноўным прызначэньнем усіх памянёных вышэй мерапрыемстваў і зьяўляецца дапамагчы чалавеку шляхам духоўным, я ўжыў-бы такі тэрмін—шляхам інконтактным, або нонконтактным, калі ні хвароба ні „лякарства" ў непасрэдны цялесны контакт ня ўступаюць, а змагаюцца адно з адным на нейкай, хаця-ж і невялічкай, адлегласьці.

Ужо раней нам прыходзілася адзначаць, што ў арсэнале народнай мэдыцыны далёка не апошнюю ролю ў лячэбным рытуале іграюць розныя часьціны расьлін, як культурных, гэтак і дзікіх, але адначасова мы заўважылі, што ўжываньне гэтых расьлін зьяўляецца дапаможным сродкам пры асноўным мэтодзе лячэньня—замове, нашэптваньні і іншых псыхолёгічных мерапрыемствах. Адваротны малюнак маем у тых выпадках, калі беларускі селянін ужывае расьліну як асноўны лячэбны сродак. У гэтым выпадку ўся надзея ўскладаецца на лячэбныя асаблівасьці расьліны, надзея, якая ў шэрагу выпадкаў сьцвярджаецца тысячагадовай практыкай, прычым за апошнія часы, калі вера ў ведзьмакоў знахароў і інш. „лекароў" значна пахілілася, ужываньні зёлак робіцца асноўным сродкам народнага лячэньня. Павінен тут-жа адзначыць, што лячэньне зёлкамі далёка не заўсёды не дае добрых вынікаў.

Надзвычайна разнастайны склад беларускае флёры дае нашаму народу багаты матар'ял для яго фармакапэі і мы, запраўды, бачым, як шырака беларускі селянін выкарыстоўвае ў гэтых мэтах вакольную прыроду ва ўсіх выпадках свайго быцьця.

На жаль, да гэтага часу мы ня маем дакладнага сьпісу расьлін, якія ўжываюцца беларускім народам як лекавыя. Наогул, гэтая галіна народнай этнографіі і мэдыцыны, ня гледзячы на ўсю яе цікавасьць, яшчэ амаль што зусім ня вывучана і да гэтага часу мя ня маем ня толькі поўнага фармакогностычнага апісаньня беларускага лячэбнага зельніка, але ня маем нават і самога зельніка, апрача дзесятка невялічкіх артыкулаў ці 3-4 невялічкіх кніжок на гэтую тэму, якія па зьместу зьяўляюцца апісальнымі і даюць толькі сыры матар'ял.

Між тым вывучэньне гэтай галіны народнае мэдыцыны тым больш цікава і патрэбна, што вялікая колькасьць расьлін ужываецца, як ведама, і навуковай мэдыцынай, і досыць часта сустракаюцца выпадкі аднальковых выпадкаў і спосабаў ужываньня. Напрыклад, расьліна Pimpinella anisum, гачыш, або бядрынец, аніс, аныж, расійская назова анис (галаўная дзейная частка—эфірнае масла—2-3%, якая складаецца галоўным чынам з анэтолу і нязначнай колькасьці пінена) народам ужываецца як лякарства ад кашлю (perthusis), яго заварваюць, як гарбату, і п'юць з мёдам або з цукрам. Між тым гэтая-ж расьліна ужываецца і ў формацыі (галоўным чынам у выглядзе—liquor ammenium anisatum), плады ўваходзяць у склад г. зв. Species laxantes st. germaine. Для нас цікава ў адносінах да гэтай расьліны тое, што як народ, гэтак і навуковая мэдыцына ўжываюць яе пры аднэй і тэйжа хваробе—занядужаньні дыхавых органаў. Праўда, народ ужывае яе як асноўнае лякарства, накіраванае на зьнішчэньне кашлю, які народам лічыцца за самастойную хваробу, у той час як кашаль зьяўляецца толькі сымптомам і прытым далёка не аднэй толькі хваробы і нават можа быць і пры хваробах ня дыхавых органаў (г. зв. рэфлектарны кашаль), між тым фармаколёгія ўжывае гэтую зёлку як дапаможны сродак (адхарківаючае—axpectorantia), але супаданьне досыць поўнае і сьведчыць аб тым, што народ, ужываючы гэтую зёлку ад кашлю, мае для гэтага поўную рацыю. Гэткіх прыкладаў можна прывесьці не адну нават сотню, што толькі сьцвярджае наяўнасьць у народнай мэдыцыне элемэнтаў рацыянальных і таму вывучэньне і адшуканьне гэтых элемэнтаў павінна быць пастаўлена ў парадак дня.

Я ня буду тутака спыняцца на іншых сродках лячэньня, якія ўжываюцца беларускім народам пры г. зв. няшчасных выпадках; напрыклад, прымітыўныя лубкі пры паломах канцавін і іншыя хірургічныя захады, і зусім не закранаю такой буйнай галіны народнага лячэньня як акушэрская дапамога, бо нават павярхоўны агляд іх завёў-бы нас надта далёка, між тым нідзе можа так не захавалася ў народзе забабоннасьць як у акушэрска-гінеколёгічнай практыцы яго і нідзе, можа, ня робіцца так многа шкоды, як у справе лячэньня бабкамі і знахарамі вясковых жанчын.

Аканчваючы агульны агляд беларускай народнай мэдыцыны, які зьяўляецца, уласна кажучы, толькі наметкай спэцыяльнага досьледу па гэтым пытаньні, які намі рыхтуецца, і таму, не прэтэндуючы на ахват і тым больш на поўнае асьвятленьне закранутай тэмы, я дазволю сабе зьвярнуцца да ўсіх чытачоў гэтых радкоў з просьбай не адмовіць у пасільнай сваёй дапамозе і дасьлаць матар'ялы па народнай мэдыцыне, па магчымасьці прытрымліваючыся да дадзенага ніжэй апытальніка па адрасу: *Менск, Беларуская Акадэмія Навук, катэдра этнографіі,* за які матар'ял буду надзвычайна ўдзячны.

## АПЫТАЛЬНІК.

1. Вёска раён акруга
2. Калі зьбіраў
3. Хто зьбіраў (патрэбнае падкрэсьліць): тутэйшы, прыежджы (адкуль, ад якой установы), асьвета зьбіральніка зьбірае выпадкова, ці не, ці ахвотна давалі весткі.

4. Хто даваў весткі: мужчына, жанчына, узрост , асьвета , нацыянальнасьць , адкуль родам , ці займаецца лячэньнем і як даўно , адкуль ці ад каго атрымаў веды аб лячэньні.
5. Якія хваробы і як лечацца .
6. З якой прычыны здараюцца хваробы: няшчасны выпадак, зараза, „ад зглазу“, „ад нячыстай сілы“, ад „бога“, „сама сабой“, ад прастуды, „дзіцё радзілася такім“, іншыя прычыны.
7. Як лечацца хваробы: замовы (тэксты), нашэптваньні (тэксты), малітвы сьвятым (якому сьвятому, ад якой хваробы), які рытуал пры гэтым выконваецца: дуць, плюнуць—куды: улева ці ўправа, цераз плячо, колькі разоў і інш.
8. Дапамога ў няшчасных выпадках: лубкі, павязкі, шыны, мазі і г. д.
9. Дапамога жанчыне: пры цяжарнасьці, пры родах, пры выкідах, пры выпадзеньні часьцін цела дзіцяці, пры зацягнуўшыхся родах, ці мыюць пры гэтым рукі, якія цэрамоніі (рытуал) пры гэтым ужываюць.
10. Ужываньне зёлак: якія зёлкі, ад якой хваробы і як ужываюцца (пералічыць зёлкі, якія ўжываюцца ў данай мясцовасьці з прывядзеньнем, па магчымасьці, іх лацінскай назвы); што ўжываецца: кветкі, сьцябло, ліст, корань і інш.; ці нашэптваюць пры гэтым, што і як; які рытуал пры гэтым ужываецца.
11. Чаму пры тэй ці іншай хваробе ўжываецца тая ці іншая зёлка.
12. Іншыя сродкі лячэньня: памёт, пер‘е і інш.
13. Дадаткі і заўвагі.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**Ів. Т. Шпілеўскі і Л. А. Бабровіч.**

## Сучасны стан м. Койданава і раёну.

З вонкавага выгляду мястэчка робіць даволі прыемнае ўражаньне. Калі падыходзіць да яго з вакзалу, перш за ўсё кідаюцца ў вочы два помнікі, пастаўленыя над брацкімі магілкамі чырвонаармейцаў, якія ў 1920 г. аддалі жыцьцё за вызваленьне мястэчка ад белапалякаў. Стаяць гэтыя помнікі абапал тракту ў самым пачатку Ленінскай вуліцы.

Заходняя частка мястэчка разьбіта на правільныя кварталы. Вуліцы даволі чыстыя і простыя. Галоўныя вуліцы былі выбрукаваны яшчэ ў 1908—10 г. г., а іншыя — местачковым саветам у 1924—26 г. г. Большасьць вуліц мае драўляныя тротуары і ў 1924 г. абсаджаны дрэўцамі.

Усяго ў мястэчку 11 вуліц і 14 завулкаў. У 1923 г. ўсе вуліцы былі пераіменаваны на рэволюцыйныя назвы.

З мястэчкам Койданавам зьліваюцца тры вёскі і як-бы служаць працягам местачковых вуліц, гэта ў канцы вуліцы К. Маркса вёска Агароднікі, некалькі дзесяткаў хат і ў канцы Кастрычнікаўскай вуліцы першая вёска Загародзьзе і за ёю вялікая вёска Макаўчыцы.

У цэнтры мястэчка знаходзіцца „Чырвоны пляц". Пасярод пляцу стаіць будынак — былы гасьціны двор, у якім зьмяшчаецца 75 крамак. Раней гэта былі выключна прыватніцкія крамкі, цяцер-жа тут зьмяшчаецца коопэрацыя і толькі некалькі крамак прыватнікаў.

У мястэчку ўсяго 750 дамоў і амаль усе драўляныя. Дамы на ваколіцах мястэчка ўсе старыя, частка з іх крыта нават саломаю, а частка гонтамі. У цэнтры мястэчка шмат дамоў было спалена палякамі ў 1920 г. і на іх месца цяпер пабудаваны новыя, крытыя жалезам і нават чарапіцай. З каменных будынкаў толькі праваслаўная царква, сынагога, кальвінскі збор, электрастанцыя, бойня і фабрыка „Слон" прыватніка Шлёзьберга. З усіх будынкаў выгадна адзначаецца народны дом, пабудаваны ў 1924 г., а таксама будынак Райвыканкому і вэтэрынарны пункт.

Койданаўскі раён пачаў утварацца летам 1924 г. і канчаткова аформлены Першым Раённым Зьездам Саветаў 9 сьнежня 1924 г. У склад раёну ўвайшлі поўнасьцю былыя воласьці Койданаўская, Станькаўская, Вялікасельская, невялікія часткі Старасельскай, Самахвалавіцкай і Уздзянскай.

З адміністрацыйнага і гаспадарчага боку раён падзелены на 12 сельскіх саветаў і адзін местачковы. Сельскія саветы такія: Макаўчыцкі,

Бараўскі, Паланевіцкі, Негарэльскі, Вясёлаўгольскі, Станькаўскі, Дабрынёўскі, Навасадзкі, Старынкаўскі, Путчынскі, Нарэйкаўскі, Байдацкі і местачковы Койданаўскі.

Агульная плошча раёну роўна 1023 кв. кілёмэтры, або 102327 гэктараў і цягнецца з поўначы на поўдзень на 55 кілёмэтраў, а з захаду на ўсход на 38 кілёмэтраў. Гучшыня насельніцтва 43 чалавекі на 1 кв. кілёмэтр. З захаду раён мяжуецца з Польшчай на працягу 40 кілёмэтраў, на паўночна-ўсходнім баку з Заслаўскім раёнам, з усходу з Самахвалавіцкім і з поўдня з Узьдзянскім раёнамі.

Праз раён на працягу 40 кілёмэтраў праходзіць чыгунка Маскоўска-Беларуска-Балтыцкай лініі з чыгуначнымі станцыямі на тэрыторыі раёну: Койданава, Негарэлае і Коласава. Роўналежна чыгунцы ідзе стары „Кацярынінскі“ тракт у напрамку з Масквы на Варшаву.


Помнік чырвонаармейцам, загінуўшым пры вызваленьні Койданава ад белапалякаў у 1920 г.

У Койданаўскім раёне яруць свой пачатак наступныя рэчкі: у Путчынскім сельсавеце—Птыч, Вуса, прыток Нёмну (па старадаўняму сам Нёман), у Бараўскім сельсавеце—Ператуць, прыток Вусы. У іх уцякаюць яшчэ невякічкія рэчкі як Чапля, Каменка, Нецеч і іншыя, якія ня маюць ніякага экономічнага значэньня.

Паверхня раёну ня роўная і мае схіл з поўначы на поўдзень. Паўднёвая частка куды раўнейшая, чым паўночная. У паўночнай частцы асабліва ў сельсаветах Путчынскім, Навасадзкім і Байдацкім сустракаюцца даволі высокія ўзгоркі, глыбокія і доўгія даліны.

### Насельніцтва.

У 1853 годзе ў мястэчку было ўсяго 1550 чалавек. Паводле перапісу 1897 г. ужо налічвалася 4.744 чал. (2188 м. і 2556 ж.). У гэты лік уваходзіла 3151 ч. яўрэяў. Значыць, за 44 гады насельніцтва павялічылася на 3194 чал., альбо на 306%. Такі малы лік насельніцтва мястэчка ў 1853 г. тлумачыцца тым, што ў 1840 г. многа насельніцтва памёрла ад халеры, а такое павялічэньне насельніцтва ў 1897 г. можна тлумачыць тым, што ў той час тут ужо прайшла чыгунка і пачынала разгортвацца прамысловасьць (былі фабрыкі: запалак, ільняная, паравы млын і г. д.).

На жаль, няма лічбаў за час перад самай вайною, а толькі за 1923 год. Гэта не дае магчымасьці вылічыць руху насельніцтва за час вайны. Па перапісу 1923 г. усяго насельніцтва было 5125 чал., з якіх 2704 м. і 2421 ж. Па перапісу-ж 1926 г. было 5475 чал., з якіх 2734 м.

і 2741 ж. Адгэтуль можна заўважыць, што па перапісу 1923 г. было запісана шмат людзей не местачковых, а прышлых, бежанцаў, вайскоўцаў і г. д., бо, як мы бачым, мужчын шмат болей чымсьці жанчын. Яўрэяў-жа налічваецца толькі 1778 чал. Зьмяншэньне супроць 1897 г. ліку яўрэйскага насельніцтва на 1375 чал. можна тлумачыць тым, што ўсё маладое яўрэйскае насельніцтва ў працягу гэтага часу выяжджала ў Амэрыку і іншыя замежныя краіны на заработкі. Як мы бачым з гэтых лічбаў, за апошнія тры гады насельніцтва ўзрасло на 350 чал., у той час як за ранейшыя 26 годоў (з 1897 па 1923) усяго на 371 чалавек. Гэта паказвае, што мінулая вайна надта моцна адбілася на росьце насельніцтва.

Цікава параўнаць нацыянальны склад насельніцтва як раёну, так і мястэчка. З ніжэйпададзенай табліцы (№ 1) відаць, што значную большасьць насельніцтва як на раёне, так і па мястэчку складаюць беларусы, якіх у раёне 86%, а ў мястэчку 59%. Толькі на раёне другое месца займаюць палякі (5,58%), трэцяе — яўрэі (4,79%) і чацьвертае — расійцы (2,68%). Па мястэчку-ж другое месца займаюць ужо яўрэі (32,49%), трэцяе расійцы (3,73%) і чацьвертае — палякі (2,23%).

Табліца № 1.

**Разьмеркаваньне насельніцтва мястэчка Койданава і раёну па нацыянальнасьці (перапіс 1926 г.).**

| Нацыянальнасьць | КОЙДАНАВА | | | | | | НА РАЁНЕ | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мужчын | % да агульн.л. | Жанчын | % | Усяго | % | Мужчын | % | Жанчын | % | Усяго | % |
| Беларусоў . . | 1619 | 59,41 | 1657 | 60,28 | 3276 | 59,83 | 18438 | 84,28 | 19531 | 87,87 | 37969 | 86,30 |
| Расійцаў . . | 164 | 6,02 | 40 | 1,45 | 204 | 3,73 | 1009 | 4,63 | 172 | 0,77 | 1181 | 2,68 |
| Яўрэяў . . . | 834 | 30,60 | 944 | 34,34 | 1778 | 32,49 | 998 | 4,58 | 1105 | 4,98 | 2103 | 4,79 |
| Палякаў . . . | 54 | 1,98 | 68 | 2,48 | 122 | 2,23 | 1152 | 5,69 | 1303 | 5,86 | 2455 | 5,58 |
| Украінцаў . . | 12 | 0,45 | 11 | 0,40 | 23 | 0,43 | 47 | 0,23 | 28 | 0,13 | 75 | 0,18 |
| Латышоў . . | 5 | 0,20 | — | — | 5 | 0,09 | 14 | 0,08 | 2 | 0,01 | 16 | 0,03 |
| Літоўцаў . . | 3 | 0,12 | 1 | 0,03 | 4 | 0,07 | 26 | 0,12 | 25 | 0,11 | 54 | 0,11 |
| Татар . . . . | 27 | 0,99 | 22 | 0,80 | 49 | 0,90 | 45 | 0,21 | 29 | 0,13 | 74 | 0,17 |
| Немцаў . . . | 1 | 0,04 | 3 | 0,11 | 4 | 0,07 | 8 | 0,03 | 9 | 0,04 | 17 | 0,04 |
| Невядомых . . | 6 | 0,23 | 3 | 0,11 | 9 | 0,16 | 31 | 0,15 | 22 | 0,10 | 53 | 0,12 |
| Разам . . | 2725 | 49,78 | 2749 | 50,22 | 5474 | 100 | 21768 | 49,47 | 22226 | 50,53 | 43994 | 100 |

Вельмі цікавай зьяўляецца таксама і прыведзеная ніжэй табліца (№ 2) аб карыстаньні роднай мовай living рознымі нацыянальнасьцямі як у мястэчку, так і ў раёне ў паасобку мужчын і жанчын у % адносінах да іх агульнага ліку. (Гл. табл. № 2 на стар. 36 і 37).

Па мястэчку, як відаць з табліцы, расійскай мовай карыстаюцца 12,55% усіх мужчын, у той час як мужчын расійцаў ёсьць толькі 6,10%. Жанчыны гавораць на расійскай мове 9,37% тады, калі жанчын расіяк усяго 1,45%. Адсюль мы бачым, што частка, каля 5% іншых нацыянальнасьцяй, як беларусоў, яўрэяў, гавораць на расійскай мове. Гэта тлумачыцца тым, што насельніцтва яшчэ ня здолела перайсьці на сваю родную мову.

Па вёсках раёну гэты малюнак мяняецца. Тут мы бачым адваротнае: яўрэі, палякі і іншыя больш карыстаюцца беларускай мовай і губляюць сваю родную. З агульнай колькасьці беларусоў раёну у 86,42%, карыстаюцца беларускай моваю 88,92%, гэта значыць, павялічэньне на 2,50%. Іншыя нацменшасьці раёну паступова пераходзяць на беларускую мову. Адны толькі немцы ня губляюць сваёй роднай мовы і не пераходзяць на карыстаньне моваю большасьці насельніцтва.

З таблічкі № 3 гэта відаць больш яскрава: з агульнага ліку насельніцтва раёну большы процант мужчын гаворыць на расійскай мове, а большы процант жанчын — на беларускай. Гэта тлумачыцца агульнымі зьявішчамі соцыяльнага неаднолькавага становішча, у якім знаходзяцца мужчыны і жанчыны. Мужчыны русіфікаваліся праз вайсковую службу, расійскую школу (мужчын большы процант пісьменных) і іншымі зьявішчамі. Беларускія-ж жанчыны, асабліва вясковыя, жывуць увесь час на адным месцы ў вёсцы і ня так паддаюцца ўплыву іншых моваў. З іншых нацыянальнасьцяй, як мы і казалі вышэй, толькі немцы трымаюцца сваёй роднай мовы, палякі і украінцы —менш паловы, латышы — дзьве трэці, літоўцы каля паловы і татары каля аднэй шостай часткі карыстаюцца сваёй роднай мовай.

Табліца № 3.

| Мужчын | | Жанчын | |
|---|---|---|---|
| 1) Беларуская мова | 86,93 | 1) Беларуская мова | 90,65 |
| 2) Расійская „ | 6,23 | 2) Расійская „ | 2,26 |
| 3) Яўрэйская „ | 4,49 | 3) Яўрэйская „ | 4,77 |
| 4) Польская „ | 2,09 | 4) Польская „ | 2,13 |
| 5) Украінская „ | 0,09 | 5) Украінская „ | 0,06 |
| 6) Літоўская „ | 0,06 | 6) Літоўская „ | 0,07 |
| 7) Латыская „ | 0,04 | 7) Латыская „ | 0,01 |
| 8) Татарская „ | 0,04 | 8) Татарская „ | 0,02 |
| 9) Нямецкая „ | 0,03 | 9) Нямецкая „ | 0,03 |

Часткі іншых нацыянальнасьцяй, жывучы паміж пераважнай большасьці беларусоў, паддаюцца ўплыву апошніх і пераходзяць на беларускую мову.

## Прамысловасьць раёну.

Прамысловасьць Койданаўскага раёну галоўным чынам сконцэнтравана ў мястэчку Койданава. У 1926 годзе яна аб'ядналася ў Койданаўскі сельска-гаспадарчы прамысловы трэст „Койдсельпромтрэст", які налічвае сем наступных прадпрыемстваў: лесазавод і пры ім млын, электрастанцыя, жывёлабойня, сельска-гаспадарчая майстэрня, вадзяны млын „Крысава" і смалакурны завод „Мезенаўка".

Лесазавод і млын знаходзяцца ў м. Койданаве на першай Ленінскай вуліцы № 63. Гэты лесазавод і млын былі пабудаваны яшчэ ў 1908 годзе Менскім купцом Ліўшыцам. У той час на лесапілцы была адна рама-гатар і пяць цыркулярак і ў млыне адзін камень разовага

| Мясцовасьць | Беларусоў | | Гаворань пабеларуску | | Яўрэяў | | Гаворань паяўрэйску | | Расійцаў | | Гаворань парасійску | | Палякаў | | Гаворань папольску | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. |
| Мястэчка . . . | 59,51 | 60,40 | 55,83 | 55,93 | 30,52 | 34,34 | 30,29 | 33,23 | 6,10 | 1,45 | 12,55 | 9,37 | 1,98 | 2,47 | 0,95 | 1,10 |
| На вёсках раёну | 88,42 | 91,80 | 91,29 | 95,49 | 0,87 | 0,85 | 0,84 | 0,79 | 4,44 | 0,69 | 5,39 | 1,24 | 5,78 | 6,35 | 2,24 | 2,30 |
| Усяго па Койданаўскім раёне . | 84,60 | 87,98 | 86,93 | 90,65 | 4,50 | 4,97 | 4,49 | 4,77 | 5,09 | 0,77 | 6,23 | 2,26 | 5,20 | 5,86 | 2,09 | 2,13 |
| Усяго насельніцтва мужчын і жанчын 100% . | 86,42 | | 88,92 | | 4,78 | | 4,64 | | 2,68 | | 4,13 | | 5,60 | | 2,09 | |

памолу і адна крупадзёрка. Спачатку на ім працавала 17 рабочых. Плату атрымоўвалі цыркулярпічыкі да 30 рублёў у месяц, станкавы 35 рублёў, а іншыя падзённа па 40-50 капеек у дзень.

У 1910 г. Ліўшыц былі невялічкі паравы рухавік замяніў новым сыстэмы „Ланц“ у 105 конскіх сіл і пабудаваў чатыропаверхавы вальцовы млын на чатыры станкі мэтравых вальцаў, які пытляваў збожжа 500 пудоў у суткі. Гэта пільня і млын у 1912 г. згарэлі. Пасьля пажару Ліўшыц адбудаваў толькі пільню і разовы млын на адзін камень, якія існавалі да рэволюцыі. У часы імпэрыялістычнай вайны завод працаваў на абарону, загатаўляў лесаматар‘ялы для акопаў. Пасьля рэволюцыі гэтае прадпрыемства перайшло ў карыстаньне праўленьня Маскоўска-Беларуска-Балтыцкай чыгункі, а былы ўладар застаўся кіраўніком гэтага заводу. І толькі ў канцы 1925 году Райвыканкому ўдалося забраць у сваё карыстаньне гэты завод і млын.

У сучасны момант на гэтым лесазаводзе знаходзяцца два станкі гатары, габлярны станок, гонтарэзка, цапная цыркулярка і канцарэзка. У млыне два разовыя камяні, дзьве крупадзёркі і адна крупасечка. Апрача гэтага ў апошні час будуецца вальцавы млын на адзін станок 54 с/м. вальцаў, які разьлічваецца на пераапрацоўку 180 пудоў збожжа ў суткі.

У 1926/27 г. вытворчасьць лесазаводу выражалася ў расьпілоўцы 434367 куб. фут., на агульную суму 34749 рублёў, а ў 1927/28 г. з прычыны недахопу сырцу расьпілавана толькі 272513 куб. фут. на суму 23058 руб. Лік рабочых таксама паменшыўся, калі летась на лесазаводзе працавала аж 32 рабочых то сёлета толькі 10 чалавек.

У млыне-ж мы маем іншы малюнак: у 1926/27 годзе было перамолата 988,3 тоны рознага збожжа на суму 9488 рублёў, а ў 1927/28 г. перамолата ўжо 1134,3 тоны рознага збожжа на суму 10616 рублёў, ня гледзячы на тое, што лік рабочых на млыне з пяці чалавек у леташнім годзе перайшоў на тры чалавекі сёлета.

Як на лесазаводзе так і млыне перарабляецца галоўным чынам сялянская продукцыя.

Электрастанцыя імя „Ў. Леніна“ пабудавана ў 1924 г. ў канцы мястэчка ў паўночна-ўсходняй яго частцы, на левым беразе рэчкі Нецечы на месцы былой фабрыкі запалак Л. Стронгіна, якая згарэла ў 1919 годзе.

Табліца № 2.

| Украінцаў | | Гавораць паукраінску | | Латышоў | | Гавораць палатыску | | Немцаў | | Гавораць панямецку | | Літоўцаў | | Гавораць палітоўску | | Татар | | Гавораць пататарску | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | м. | ж. | |
| 0,58 | 0,40 | 0,07 | 0,15 | 0,18 | — | 0,03 | — | 0,03 | 0,11 | 0,03 | 0,14 | 0,11 | 0,03 | 0,11 | 0,08 | 0,99 | 0,80 | 0,14 | — | Усе лічбы па раёну у 100% |
| 0,18 | 0,09 | 0,08 | 0,06 | 0,05 | 0,02 | 0,04 | — | 0,04 | 0,04 | 0,03 | 0,03 | 0,12 | 0,12 | 0,06 | 0,07 | 0,10 | 0,04 | 0,03 | 0,02 | |
| 0,20 | 0,13 | 0,09 | 0,06 | 0,06 | 0,01 | 0,04 | 0,01 | 0,03 | 0,04 | 0,03 | 0,04 | 0,12 | 0,11 | 0,06 | 0,07 | 0,20 | 0,13 | 0,04 | 0,01 | |
| 0,17 | | 0,07 | | 0,03 | | 0,02 | | 0,04 | | 0,04 | | 0,11 | | 0,06 | | 0,17 | | 0,03 | | |

Яшчэ каля 1896 году на гэтым месцы быў бровар Вечарэвіча. У тыя-ж гады граф Чапскі і абшарнік Ленскі пачалі будаваць бровары ў сваіх маёнтках у Навасёлках, Суле, Засульлі і іншых. Акрамя гэтага быў пабудаваны Чапскім і цэнтральны ачышчальны сьпірытусовы завод у м. Станькаве. Гэты ачышчальны завод браў з іншых бровароў сырэц-сьпірытус, ачышчаў яго і адпраўляў амаль кожны тыдзень два-тры вагоны чыстага сьпірытусу. Невялікі бровар Вечарэвіча ня мог вытрымаць конкурэнцыі з боку броварoў графа Чапскага і прымушаны быў зачыніцца. Замест бровару Вечарэвіч пабудаваў фабрыку запалак, якую каля 1901 году прадаў Стронгіну. На гэтай фабрыцы да вайны працавала каля 150 чалавек рабочых, ня лічачы таго, што шмат жыхароў мястэчка бралі работу да хаты, як клеіць пушкі для запалак і іншыя. З рабочых большая частка былі дзяўчаты, якія і працавалі па 12 гадзін у суткі, ад 7 гадзін раніцы да сямі вечара.

Для пабудовы электрастанцыі Волвыканкомам у сакавіку 1924 году было організавана паявое таварыства. Праз некаторы час Менскім Павятовым Выканкомам былі адпушчаны сродкі і пабудова вялася Менскім Камгасам пры дапамозе мясцовых сродкаў, а паявое таварыства ліквідавалася.

На электрастанцыі ўстаноўлены з Менскай электрастанцыі стары рухавік сыстэмы „Ланц“ у 95 намінальных конскіх сіл, але-ж з прычыны паношанасьці рухавіка, гэтай сілы ён не дае. Дынамо-машына ўстаноўлена ў 55 кілёват. Ток трохфазны, пастаянны, 220 вольт пругкасьці.

Сьвятлом электрастанцыі карыстаецца большая частка мястэчка і бліжэйшыя вёскі Макаўчыцы і Дзягільна. Электрастанцыя працуе праз сілу, маючы нагрузкі ў сучасны момант 110% сваёй моцы. Летась на электрастанцыі працавала 4 чалавекі рабочых, і яе вытворчасьць была 12561 кілёватгадзіна, на агульную суму 6978 рублёў, сёлета-ж (1928), працуе тры чалавекі, а вытворчасьць яе выражаецца ў 55345 кілёватгадзінах на суму 11010 рублёў. Электрастанцыя прыстасавана для апалу пілавінамі і вугальлём, але-ж дзеля недахопу першых апальваецца торпам, які купляецца ў сялян. Трэстам прымаюцца захады да пераходу на каменны вугаль.

Тут-жа пры электрастанцыі знаходзяцца і організаваныя ў канцы 1925 г. сельска-гаспадарчыя майстэрні, якія рэмонтуюць розны сельска-

гаспадарчы інвэнтар і прылады. У 1927 годзе тут працавала пяць чалавек рабочых, і іх продукцыя выражалася ў суме 4028 рублёў, а ў 1928 г. працавалі два чалавекі, але-ж дзякуючы больш рацыянальна пастаўленай працы вытворчасьць майстэні дала суму ў 4793 рублі. Усё-ж майстэрня і да гэтага часу дае значны ўбытак.

Жывёлабойня знаходзіцца ў канцы Савецкай вуліцы ў мураваным будынку, які для гэтай-жа мэты быў пабудаваны яшчэ ў 1912 годзе. Працуе увесь час толькі адзін рабочы. У 1927 годзе было забіта



Койданаўская электрастанцыя.

3846 галоў рознай жывёлы на суму 2821 рубель, у 1928 г. 7190 галоў рознай жывёлы на агульную суму ў 3438 рублёў. Мяса забіваецца для коопэрацыі, прыватных мясных крамак і для вайскоўцаў. Уся продукцыя ідзе толькі на масцовы рынак.

15 мая 1928 г. Райвыканком перадаў трэсту вадзяны млын „Крысава", які знаходзіцца на левым беразе рэчкі Вусы ў 4½ кілёмэтры ад м. Койданава і раней належаў спэкулянту Кацу. Вытворчасьць млыну за гэты час дала 338 тон перамолатага збожжа на агульную суму 2385 рублёў. У млыне працуюць 3 рабочыя.

З першага ліпня 1928 г. у карыстаньне трэсту перайшоў таксама і смалакурны завод, які знаходзіцца каля вёскі Мезенаўка ў 16 кілёмэтрах ад м. Койданава. Гэтым заводам выпрацавана 6503 кілёграмы шкіпідару на 1799 рублёў, 10155 кілёграм смалы на 758 рублёў і 21457 кілёграм драўлянага вугалю на суму 699 рублёў. На заводзе працуе два чалавекі. Продукцыя заводу збываецца ў Менск.

З 1 лістапада 1928 г. перайшоў да трэсту і другі смалакураны завод, які знаходзіцца каля вёскі Бараўцоў у 12 кілёмэтрах ад м. Койданава. Таксама яму-ж пераходзіць і Комальскі цагляны завод, які

знаходзіцца ў урочышчы „Комала“ ў 18 кілёмэтрах ад мястэчка і арандуецца з 1926 году ад райвыканкому прыватнікам. Па сканчэньні тэрміну дагавору ў сакавіку 1929 ён перайшоў у карыстаньне трэсту. Вытворчасьць гэтага заводу каля 300.000 цэглін у год.

Акрамя гэтага трэст пачаў гэтай вясной будаваць новую цагельню ў Дзягільне, дзе ёсьць вялікія паклады добрай гліны. Гэты завод па пляну трэсту разьлічваецца на выпрацоўку 500000 цэглін у сэзон. Таксама мяркуюць тут займацца выпрацоўкай крэйды.

Усе гэтыя прамысловыя прадпрыемствы, аб'яднаныя ў 1926 г. ў трэсьце, да гэтага часу знаходзіліся ва ўладаньні райвыканкому, які ў 1925 годзе здаваў 9 вядзяных млыноў і цагельны завод у арэнду з даходнасьцю 2000 руб., а іншыя больш буйныя прадпрыемствы з 25 чал. рабочых знаходзіліся пад непасрэдным яго кіраўніцтвам. Прадпрыемствы, знаходзячыяся ў карыстаньні райвыканкому, у 1925 годзе мелі гадовы зварот на суму 84826 руб., а прыватныя—128146 руб. Ужо праз тры гады трэст узмацніўся і ў 1928 годзе ён даў 9572 рублі чыстага прыбытку.

На ўсіх гэтых прадпрыемствах працавала 250 рабочых.

З прыватных прамысловых прадпрыемстваў трэба адзначыць фабрыку „Слон“, якая знаходзіцца ў мястэчку на вуліцы К. Маркса. Койданаўскі жыхар Сьлёзьберг заклаў гэтую фабрыку ў 1925 годзе. У кампанію да яго прысталі яшчэ чатыры менскія прыватнікі, якія даюць сродкі для фабрыкі, а ўсёй працай кіруе сам Сьлёзьберг. На фабрыцы вырабляюць розныя дробныя жалезныя ваконныя прылады, вагі, цьвякі, замкі, петлі для вёдраў, граблі і іншыя. Сыравіна закупляецца ў Ленінградзе, Маскве і на Урале. На фабрыцы стаіць нафтавы рухавік-матор у 25 конскіх сіл. На гэтай фабрыцы ў 1925-26 г. г. працавала 123 рабочых, у 1927 годзе—76 чал., у пачатку 1928 году—47 чал., а ўвосень таго-ж году толькі 34 рабочых.

### Гандаль.

Мястэчка зьяўляецца галоўным гандлёвым цэнтрам ня толькі свайго раёну. Галоўным чынам гандаль адбываецца на кірмашох: два разы на тыдзень—па чацьвяргох і нядзелях. Апрача гэтага бываюць шэсьць разоў у год вялікія кірмашы, зьвязаныя з праваслаўнымі ці каталіцкімі сьвятамі: Улас, Юр'я, Пакровы, Ушэсьце, Сёмуха і дзевятнік.

Да вайны накойданаўскія кірмашы зьяжджаліся з розных гарадоў і мястэчак Беларусі на адлегласьці больш за 150—200 вёрст. На койданаўскіх кірмошах раней закупляліся коні для Нямеччыны. З гэтых кірмашоў і цяпер вывозяцца коні ў Маскву і іншыя гарады СССР для вайсковых частак. Другі галоўны продукт кірмашоў — сьвіньні, якія раней таксама вывозіліся вагонамі як у Нямеччыну, так і ў розныя гарады Расіі.

Цяпер на кірмашы зьяжджаецца, галоўным чынам, сялянства Койданаўскага, Самахвалаўскага, Заслаўскага і Узьдзенскага раёнаў і розныя перакупшчыкі з Менску, якія закупляюць тут па танейшай цане сельскагаспадарчыя продукты (масла, сыр, сала, яйкі, птушак, скаціну) і прадаюць у Менску шмат даражэй. Садавіна, як да вайны, так і цяпер, вывозіцца па чыгунцы ў Менск, Ленінград, Маскву, Растоў і іншыя гарады Саюзу. Драўляныя вырабы мясцовай пільні, а таксама саматужніцкія, вывозяцца галоўным чынам у Менск. Жалезныя вырабы прыватнай фабрыкі

„Слон“ развозяцца па ўсім Саюзе. Прамысловыя і спажывецкія тавары для коопэрацыі і прыватнікаў прывозяцца большай часткай з Менску, а некаторыя і з Масквы. Прывоз і вываз тавараў адбываецца галоўным чынам па чыгунцы, а некаторыя тавары прывозяцца з Менску і балаголамі.

Местачковы гандаль робіць вялікія звароты. Хаця контролю над увозам і вывазам тавараў не вядзецца і дасканальнага падліку кірмашовых зваротаў няма, але па наглядным падліку Койданаўскага райвыканкому за 1926 год толькі сельска-гаспадарчых продуктаў збываецца ў мястэчку на суму да 700000 руб. у год. Скупкаю сельскагаспадарчых продуктаў займаюцца: дзяржаўныя органы, коопэрацыя і прыватнікі; дзяржаўнымі органамі робіцца да 40% усіх закупак.

Таваразварот Койданаўскай чыгуначнай станцыі складае: адправак на 2672084 руб. і атрыманьняў на 715000 руб. Сюды не ўваходзяць тавары, якія праходзяць праз Негарэльскую мытніцу. Местачковае насельніцтва шчыльна зьвязана чыгункаю з Менскам. Паводле падліку білетаў, у месяц выяжджае ў Менск у сярэднім каля 3379 чалавек.

## Спажывецкая коопэрацыя.

Да вайны, каля 1908 году ў мястэчку была заснавана ваколічнымі абшарнікамі і кулакамі (Ленскі, Чапскі, Зьдзяхоўскі і інш.) коопэрацыйная крама „Згода“, у якой апрача спажывецкіх тавараў былі часткова і сельска-гаспадарчыя прылады і насеньне. Іншых коопэрацыйных аб‘яднаньняў ня было і ўвесь гандаль знаходзіўся ў руках прыватных гандляроў. Толькі пасьля Кастрычніка з 1917 году ў мястэчку была зорганізавана спажывецкая коопэрацыя, а на раёне, па вёсках заставаліся яшчэ прыватнікі. З прычыны грамадзянскай вайны, да 1921 г. коопэрацыя не магла шырака разгарнуць сваю працу.

У 1920 годзе ў мястэчку зорганізавалася спажывецкая коопэрацыя „Агульная Праца“. Да 1924 г. яна была яшчэ даволі слабая. Паявы ўзнос быў адзін пуд жыта. Коопэрацыя мела ўбыткі. Толькі з 1924 году яна пачынае расьці і за адзін год дала 1044 руб. прыбытку. Паступова паявы ўзнос з аднаго пуда ўзрос да 10 рублеў; лік крамак з трох павялчыўся да 15. Разам з ростам ліку пайшчыкаў і паявога ўзносу пачаў расьці і таваразварот і прыбыткі.

Спачатку 1925 году пачынае паступова ўзмацняцца спажывецкая коопэрацыя і па раёне, і ў 1928 годзе існуе 7 паасобных спажывецкіх таварыстваў: Койданаўскае „Агульная Праца“, Станькаўскае „Чырвоны кастрычнік“, Дабрынёўскае „Новы быт“, Навасадзкае „Дапамога“, Чыкаўскае „Ўсход“, Путчынскае „Чырвоны Захад“ і Негарэльскае „Праца“ з агульным лікам 20 аддзяленьняў. Да гэтага часу спажывецкая коопэрацыя ахоплівае 65,66% сялянскіх гаспадарак і налічвае 5182 пайнікі. Але трэба адзначыць, што поўнасьцю заплаціўшых пай налічваецца толькі 31,15%. (Гл. табл. № на 4 стар. 41).

З прыведзенай табліцы кідаецца ў вочы вельмі малы лік пайнікаў жанчын, якіх з агульнага ліку пайнікаў ёсьць толькі 9,57%. Апроч таго, таксама слаба праводзілася праца па коопэраваньні беднаты. Да 1927 г. было коопэравана беднаты толькі 34,91%, але пасьля ўзмацненьня працы, на 1 кастрычніка 1928 г. мы ўжо маем коопэраванай беднаты 64,32%.

Усе пайнікі паводле соцыяльнага складу разьмяркоўваюцца такім чынам: сялян—79,57%, рабочых—7,45%, служачых—8,70%, сама-

Табліца № 4.

| Назва спажывец. т-ва | Насельніцтва ў раёне дзейнасьці коопэратыву | Гаспадарак | Пайнікаў | % коопэраваных гаспадарак | Проц. да агульнай лічбы насельніцтва ў раёне коопэратыву. | Коопэравана жанчын | Проц. кооп. жанчын да агульнага ліку пайнікаў | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Койданаўскае „Агульная Праца“ . . . . . . | 13271 | 1845 | 1560 | 84,55 | 11,75 | 269 | 17.24 | У тым ліку 369 гасп. мястэчка |
| Станькаўскае „Чырвоны Кастрычнік“ . . . . | 4017 | 823 | 408 | 49.57 | 10,15 | 47 | 11,52 | |
| Дабрынёўскае „Новы быт“ . . . . . . . | 3644 | 655 | 532 | 81,22 | 14.60 | 38 | 6,95 | |
| Навасадзкае „Дапамога“ . | 6228 | 1355 | 665 | 49,08 | 10,68 | 85 | 12.78 | |
| Чыкаўскае „Ўсход“ . . | 4098 | 712 | 472 | 66,29 | 11,52 | 10 | ?,12 | |
| Путчынскае „Чырвоны Захад“. . . . . . . . | 7882 | 1451 | 739 | 50.93 | 9,37 | 31 | 4,20 | |
| Негарэльскае „Праца“ . | 4673 | 886 | 806 | 90,97 | 17,24 | 14 | 1,73 | |
| Усяго па раёне . . . | 43994 | 7862 | 5182 | 65,66 | 11,73 | 494 | 9,57 | |

тужнікаў—2,93⁰/₀ і іншых 1,35⁰/₀. Трэба сказаць, што яшчэ да гэтага часу спажывецкія таварыствы ня выкінулі разрад „іншых“, у які ўваходзяць моцныя кулакі і наогул непатрэбныя нам элемэнты.

Усёй спажывецкай коопэрацыяй раёну за 1928 год прадана тавараў на 997860 рублёў. Больш палавіны гэтай сумы (511216 руб.) прададзена местачковым таварыствам. Гэтае самае заўважваецца і ў загатоўцы сялянскіх продуктаў. Загатоўлена за год усімі таварыствамі на 140238 рублёў, а местачковым т-вам на 89641 рубель. За ім цягнецца на другім месцы Негарэльскае таварыства, якое таксама загатавала на 24417 рублёў. Гэта тлумачыцца тым, што мястэчка—буйны цэнтр раёну, так і Негарэлае буйны цэнтр пасёлку пры станцыі чыгункі, дзе сяляне больш усяго наведваюцца і закупляюць або прадаюць свае вырабы.

Калі паглядзець—дзе і што з сялянскіх продуктаў загатаўліваецца, дык мы будзем мець наступны малюнак: Станькаўскае, Чыкаўскае, Навасадзкае, Путчынскае т-вы ў пераважнай большасьці загатаўліваюць збожжа, Дабрынёўскае—лекавыя травы, Койданаўскае—скуры, жывёлу і Негарэльскае—кару і жывёлу.

Да апошняга году павялічваўся, хоць і нязначна, і лік прыватніцкіх гандлёвых прадпрыемстваў. Як адбываўся рост з 1924 па 1928 год дзяржаўных, коопэрацыйных і прыватных гандлёвых предпрыемстваў відаць з табліцы № 5, дзе мы бачым паступовае павялічэньне як першых, так і апошніх, і толькі ў 1928 годзе 51 гандлёвае прадпрыемства прыватніцкага гандлю зачынілася з прычыны немагчымасьці далейшага змаганьня з спажывецкай коопэрацыяй, якая пачынае моцна станавіцца на ногі.

**Сельска-гаспадарчая коопэрацыя.**

Тое самае можна сказаць і наконт сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Пачынаючы з 1925 году яна даволі шпаркім крокам пачынае

Табліца № 5

| За якія гады | Дзяржаўныя | | | | Коопэрацыйныя | | | | Прыватніка | | | | Разам | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Мяст. | | Раёну | | Мяст. | | Раёну | | Мяст. | | Раёну | | Мяст. | | Раёну | | |
| | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | Гандлёв. | Прамысл. | |
| За 2 палову 1924-25 г. . | 1 | 6 | 1 | 4 | 17 | 4 | 6 | 1 | 98 | 36 | 7 | 22 | 116 | 46 | 13 | 27 | У 28 годзе зачынілася ўжо 51 гандлёвае прадпрыемства 3 разраду, з якіх прамысловых толькі 2 прадпр. |
| За 1 палову 1925-26 г. . | 5 | 6 | 2 | 4 | 16 | 3 | 3 | — | 103 | 22 | 9 | 16 | 124 | 31 | 14 | 20 | |
| За 2 палову 1925-26 г. . | 6 | 4 | 4 | 3 | 14 | 1 | 3 | — | 100 | 19 | 9 | 9 | 120 | 24 | 16 | 12 | |
| За 1926-27 г. | 10 | 16 | 4 | 6 | 18 | 1 | 9 | — | 118 | 19 | 8 | 14 | 146 | 36 | 21 | 20 | |
| За 1927-28 г. | 6 | 14 | 2 | 8 | 24 | 1 | 13 | — | 126 | 21 | 15 | 16 | 156 | 36 | 30 | 24 | |
| | | | | | | | | | | | | | 105 | 34 | 30 | 24 | |

ўзмацняцца. У 1925 годзе на раёне было толькі 2 сельска-гаспадарчыя таварыствы. Галоўнае запатрабаваньне насельніцтва ў крэдытах ня выконвалася з прычыны адсутнасьці сродакаў. Гэта, галоўным чынам, не давала магчымасьці як належыць разгарнуць працу. Але-ж праца паволі ўзмацняецца і ўжо праз год, у 1926 г., мы налічваем па раёне 3 сельска-гаспадарчыя таварыствы: Кайданаўскае „Сіла"—300 пайнікаў, Путчынскае — 240 і Ляхаўскае „імя Леніна" — 223 пайнікі. Усе гэтыя таварыствы коопэравалі 24% сялянскіх двароў раёну. Найбольшы лік пайнікаў (76%) серадпякі, далей 14% беднаты і даволі значны процант (10%) заможных.

Агульны зварот крэдытных таварыстваў у 1926 годзе выявіўся наступны: па крэдыту 30583 руб. і гандлі 17550 р. Пазыка давалася галоўным чынам на здабыцьцё рабочай жывёлы, 65% усіх пазык была выдана серадняком. Беднякі атрымлівалі менш, бо ім цяжка было даставаць паручыцельства. У 1927-28 годзе гэта становішча зьмянілася, і мы бачым, што ўжо коопэравана 142 бядняцкія гаспадаркі і выдадзена доўгатэрміновай пазыкі беднаце на 118591 руб. і кароткатэрміновай 58153 рублі.

У гэтым-жа годзе сельска-гаспадарчая коопэрацыя мела такі рост:

| НАЗВА | на 1/X-27 г. | на 1/X-28 г. | % узросту |
|---|---|---|---|
| Лік пайнікаў . . . . . | 2438 | 2570 | 5,5 |
| Паявы на 1 пайніка . . | 3 р. 50 к. | 5 р. 75 к. | 74 |
| Паявы капітал . . . . | 8103 | 14877 | 74 |
| Укладаў . . . . . . | 13567 | 17056 | 26 |

Тое самое мы маем і ў таваразвароце.

| НАЗВА | 1926/27 | 1927/28 | % узросту |
|---|---|---|---|
| Тавараў па збыту . . . | 43000 | 130000 | 200 |
| Тавараў па дастаўцы . . | 58500 | 98239 | 68 |
| Агульны зварот . . . | 754169 | 1466117 | 96 |

З гэтых табліц відаць як з кожным годам сельска-гаспадарчая коопэрацыя ўзмацняецца, а крэдыт займае каля 90% усяго балянсу, і праца таварыстваў адзначана на 1/Х 28 г. 6703 рублямі прыбытку. Значна ўзрос і аўторытэт коопэрацыі па падняцьці сельскай гаспадаркі наогул. Вясною 1928 году было ўжо закантрактавана 675,33 гэктара пасеваў сялянскіх палёў.

## Сельская гаспадарка.

Асноўнымі заняткамі насельніцтва раёну зьяўляецца сельская гаспадарка (звыш 70% усяго насельніцтва). Галоўнай крыніцай прыбытку з сялянскай гаспадаркі да гэтага часу зьяўляецца земляробства. Глеба раёну align="left"розностайная і па ацэнцы адносіцца да 5 разраду. У цэнтры і ў усходняй частцы раёну пераважна суглініста-супясковая, у паўднёва-заходняй — пясковая, а ў паўночнай — ападзоленая. Усяго плошчы раёну 102,327 гэктараў, якая па ўжыткоўнасьцях у сучасны момант разьмяркоўваецца такім чынам: сядзібнай — 1570 гэктараў, ральлі — 52340, сенажаці — 3543, лесу — 21911, выгану і іншай удобнай неразьмеркаванай — 5343 гэктары. Няўдобіцы — 5320 гэктараў.

Індывідуальных гаспадарак у раёне 7384. Апрача гэтага ёсьць колектыўныя гаспадаркі: 4 савецкіх, адна комуна і тры арцелі, з якіх адна яўрэйская. Сёлета мяркуецца організаваць яшчэ адну яўрэйскую арцель. Таксама ёсьць 2 агропункты: у Грыцкаўшчыне і Чэрнікаўшчыне, адна дзіцячая колёнія ў Станькаве, былым маёнтку графа Чапскага.

Усе гаспадаркі па карыстаньні зямлёю неаднолькавыя. Галоўная колькасьць гаспадарак — праспалосныя: 58,9% усіх гаспадарак раёну, далей ідуць нанова зямляўпарадкаваныя — 21,2%, хутарскія — 9,3%, атрубныя — 5,8% і беспасеўныя — 4,8%.

Паселішчы раёну можна разьмеркаваць наступным чынам: вёсак да 30 двароў — 89,5%; ад 30 до 100 двароў — 8%, звыш 100 двароў — 2,5% і звыш 500 двароў — мястэчка Койданава. Гэтыя лічбы паказваюць на дробнасьць паселішч у раёне, якія могуць быць лёгка зямляўпарадкаваны на месцы і паводле сярэдняга разьліку прыходзіцца на адну гаспадарку пахаці — 6,76 гэкт., сенажаці — 1,30 гэкт. і сядзібнай — 0,41, а разам — 8,46 гэктара.

Нацыянальны і соцыяльны склад гаспадарак раёну відаць з табліцы № 6.

Табліца № 6.

| Нацыянальнасьць | Беднаты | % | Сераднякоў | % | Кулакоў | % | Гандляроў | % | Батракоў | % | Усяго | % | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусоў . . | 2858 | 38,2 | 4402 | 58,9 | 128 | 1,6 | — | — | 83 | 1,0 | 7471 | 96 | Агульная лічба саматужнікаў па раёне 252 ч. |
| Палякаў . . . | 12 | 28,5 | 30 | 71,0 | 1 | 0,5 | — | — | — | — | 43 | 0,5 | |
| Яўрэяў . . . | 55 | 19,0 | 33 | 10,0 | 5 | 1,7 | 200 | 67,8 | 4 | 1,5 | 297 | 3,0 | |
| Іншых . . . | 20 | 40,0 | 30 | 59,5 | — | — | — | — | 1 | 0,5 | 51 | 0,5 | |
| Разам . . | 2945 | 37,46 | 4495 | 57,07 | 134 | 1,71 | 200 | 2,54 | 88 | 1,12 | 7862 | 100 | |

Тут мы бачым, што па нацыянальным складзе 96% гаспадарак належыць беларусам, 3% — яўрэям, а астатнія — палякам і іншым. Такім чынам сельскай гаспадаркай займаюцца галоўным чынам беларусы, як пераважная частка насельніцтва, якая разам з яўрэямі складае 99% усіх гаспадарак раёну і толькі 1% прыпадае на іншыя нацменшасьці. Па социяльным складзе найбольшы лік гаспадарак серадняцкіх, якіх налічваецца ў раёне 57,17%, далей ідуць бядняцкія—37,46%, кулацкіх — 4,25%, 1,12% батрацкіх і 12,54% гандлярскіх.

У табліцы № 7 паказана разьмеркаваньне гаспадарак мястэчка.

Табліца № 7.

| Нацыянальнасьць | Беднаты | % | Сяраднякоў | % | Кулакоў | % | Гандляроў | % | Батракоў | % | Усяго | % | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Беларусоў . . | 192 | 46,9 | 190 | 46,4 | 17 | 4,1 | — | — | 10 | 2 | 409 | 61,0 | Агульная лічба саматужнікаў у мястэчку 120. |
| Палякаў . . . | 2 | 100 | — | — | — | — | — | — | — | — | 2 | 0,3 | |
| Яўрэяў . . . | 40 | 16,0 | 4 | 2,0 | — | — | 200 | 82,0 | — | — | 244 | 36,6 | |
| Іншых . . . | 10 | 71,4 | 4 | 28,6 | — | — | — | — | — | — | 14 | 2,1 | |
| Разам . . | 244 | 36,47 | 198 | 29,61 | 17 | 2,45 | 200 | 29,98 | 10 | 1,49 | 669 | 100 | |

Беларусам у мястэчку належыць толькі 61% усіх гаспадарак; 36,6% — яўрэям, з якіх непасрэдна займаюцца земляробствам толькі 2,1%. З усіх яўрэйскіх гаспадарак 82% гандлярскіх. Таксама вялікі лік кулацкіх гаспадарак беларусоў (былой шляхты).

Разам з павялічэньнем плошчы пасеву ў раёне наогул (у 1925 годзе было 71%, а ў 1927 — 80% усяе плошчы раёну) павялічваецца і таварнасьць гаспадарак.

Табліца № 8.

| Гады | Лік гаспадарак | УСЯГО ЗАСЕВУ Ў ДЗЕСЯЦІНАХ | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Жыта | | Пшаніца | | | | | | | | Лён | | Каноплі | | |
| | | Азімае | Яравое | Азімая | Яравая | Ячмень | Авёс | Грэчка | Гарох | Чачавіца | Боб і фасоль | Лік гасп. | Дзесяц. | Лік гасп. | Дзесяц. | Бульба |
| 1926 | 7351 | 12059 | 3 | 137 | 1606 | 2632 | 9033 | 508 | 659 | 2 | — | 6154 | 604 | 772 | 97 | 3714 |
| 1927 | 7452 | 11471 | — | 118 | 1075 | 2444 | 8129 | 505 | 533 | — | — | 6308 | 722 | 3270 | 76 | 4104 |
| 1928 | 7667 | 10890 | 1 | 203 | 974 | 2634 | 9010 | 468 | 199 | — | 13 | — | 840 | — | 108 | 4187 |

Прыведзеныя ў табліцы № 8 лічбы паказваюць, што засеў збожжа паступова зьмяншаецца, а замест яго павялічваецца плошча засеву тэхнічных культур: лён, каноплі, травы (канюшына, сэрадзела, цімафеяўка).

## Асьвета.

Паводле агульнага перапісу 1926 г. ў Койданаўскім раёне ўсяго 46,58% пісьменнага насельніцтва. З табліцы № 9 відаць, што пісьменных у мястэчку куды большы процант, чым на раёне, таксама ўсюды меншы процант пісьменнасьці жанчын. Гэта тлумачыцца тым, што мястэчка, раней як асяродак воласьці, а цяпер раёну, заўсёды мела школу, а на раёне пры царызьме было вельмі мала школ.

Табліца № 9.

**Пісьменнасьць агульная.**

| Мясцовасьць | Усяго насельніцтва | | З іх пісьменных | | У % адносінах | | Разам муж. і жанч. | З іх пісьменных | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | | | |
| Мястэчка | 2725 | 2749 | 1872 | 1485 | 72,0 | 54,2 | 5474 | 3357 | 61,32 |
| На раёне | 19043 | 19477 | 10755 | 6381 | 56,47 | 32,81 | 38520 | 17136 | 44,48 |
| Усяго | 21768 | 22226 | 12627 | 7866 | 58,1 | 35,39 | 43994 | 20493 | 46,58 |

Вельмі характэрна параўнаць пашыранасьць пісьменнасьці паміж рознымі нацыянальнасьцямі. На жаль, з прычыны адсутнасьці статыстычных вестак аб гэтым, мы даем весткі толькі аб трох галоўных нацыянальнасьцях, якія засяляюць Койданаўскі раён: беларусах, яўрэях і палякох.

Табліца № 10.

**Пісьменнасьць беларусаў.**

| Мясцовасьць | Усяго беларусаў | | З іх пісьменных | | У % адносінах | | Разам муж. і жанч. | З іх пісьменных | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | | | |
| Мястэчка | 1619 | 1659 | 1041 | 755 | 64,2 | 45,5 | 3278 | 1796 | 54,79 |
| На раёне | 16819 | 17874 | 9169 | 5645 | 54,5 | 31,5 | 34693 | 14814 | 42,70 |
| Усяго | 18438 | 19533 | 10210 | 6400 | 55,37 | 32,76 | 37971 | 16610 | 43,74 |

З табліцы № 10 відаць, што местачковыя беларусы мужчыны на 10% больш пісьменныя, чым вясковыя, а местачковыя жанчыны на 14% больш за вясковых жанчын. Таксама наглядаецца хоць трошкі і меншая разыходжанасьць паміж пісьменнасьцю мужчын і жанчын у мястэчку, чым ў вёсцы.

Табліца № 11.

**Пісьменнасьць яўрэяў.**

| Мясцовасьць | Усяго яўрэяў М. | Усяго яўрэяў Ж. | З іх пісьменных М. | З іх пісьменных Ж. | У % адносінах М. | У % адносінах Ж. | Разам муж. і жанч. | З іх пісьменных | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мястэчка . | 834 | 944 | 617 | 648 | 73,9 | 68,6 | 1778 | 1265 | 71,14 |
| На раёне . | 164 | 161 | 150 | 48 | 91,4 | 91,9 | 325 | 298 | 91,69 |
| Усяго . | 998 | 1108 | 767 | 796 | 76,85 | 71,84 | 2103 | 1563 | 74,32 |

З табліцы № 11 відаць, што сярод яўрэяў, якія жывуць на раёне, большы процант пісьменных, чым сярод местачковых. Якраз адваротнае зьявішча, чым у беларусаў і палякаў. У мястэчку няпісьменныя яўрэі сустракаюцца толькі сярод зусім бедных і старых.

Табліца № 12.

**Пісьменнасьць палякаў.**

| Мясцовасьць | Усяго палякаў М. | Усяго палякаў Ж. | З іх пісьменных М. | З іх пісьменных Ж. | У % адносінах М. | У % адносінах Ж. | Разам муж. і жанч. | З іх пісьменных | % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мястэчка . | 54 | 68 | 40 | 45 | 74,0 | 66,1 | 122 | 95 | 77,87 |
| На раёне . | 1098 | 1235 | 577 | 488 | 52,5 | 39,5 | 2333 | 1065 | 45,65 |
| Усяго . | 1152 | 1303 | 617 | 533 | 53,50 | 40,90 | 2455 | 1160 | 47,25 |

Цяпер, калі параўнаць пісьменнасьць беларусаў, палякаў і яўрэяў, мы ўбачым, што па мястэчку найбольшы процант пісьменных палякаў (77,87%), потым яўрэі (71,14%) і на апошнім месцы (54,79%) беларусы. Па вёсках на першым месцы па пісьменнасьці яўрэі (91,69%), на другім—палякі (45,65%), а на апошнім—беларусы (42,70%). У такім-жа парадку ідуць адносіны, калі браць процант пісьменнасьці і па ўсім раёне.

Усяго ў раёне ў 1926/27 навучальным годзе налічвалася 66 школ з 129 настаўнікамі і 4767 вучнямі, у 1923 годзе было толькі 33 школы. Усіх школ першай ступені—60 з 82 настаўнікамі і 3460 вучнямі, з іх школ першай ступені беларускіх—55 з 3291 вучнем і 5 польскіх з 169 вучнямі.

Акрамя гэтых школ, ёсьць яшчэ дзьве школы сялянскае моладзі, яны знаходзяцца на акруговым каштарысе, маюць 7 настаўнікаў і 126 вучняў. З іх адна беларуская знаходзіцца ў Станькаўскім сельсавеце ў м. Віньшчына, мае 90 вучняў і польская ў Путчынскім сельсавеце ў м. Татаршчына—36 вучняў.

Таксама ў мястэчку ёсьць тры сямігодкі: беларуская, польская і яўрэйская, у якіх налічваецца каля 1000 вучняў. Беларуская сямігодка зьмяшчаецца ў былой вышэйпачатковай школе. У 1928 годзе на адлічэньне ад сялянскай пазыкі пабудаваны для сямігодкі яшчэ адзін драўляны будынак, які больш за старыя будынкі адпавядае запатрабаваньням школьнай гігіены. Яўрэйская сямігодка была няпоў-

ная і толькі ў 1928 г. адчынена апошняя кляса; у ёй працуе 10 настаўнікаў і навучаецца 215 вучняў. Польская сямігодка зьмяшчаецца ў былых ксяндзоўскіх будынках, у ёй 9 настаўнікаў і 190 вучняў.

Ня гледзячы на тое, што з кожным годам павялічваецца лік настаўнікаў і лік школ, школьнаю сеткаю ахоплена было ў 1927/28 на-



Койданаўскі Нар. Дом.

вучальным годзе толькі 63% дзяцей школьнага ўзросту. Выдаткі на асьвету займаюць больш 50% агульнага бюджэту раёну кожны год і з кожным годам з узмацненьнем бюджэту ўзмацняюцца і павялічваюцца выдаткі на асьвету. У 1924/25 годзе з усяго бюджэту раёну ў 91304 руб. на асьвету прызначана 54489 рублёў, і ў 1927/28 годзе з бюджэту у 222800 рублёў на асьветную справу адпушчана 121648 рублёў. Вясковыя школы толькі 58% маюць свае ўласныя будынкі, а рэшта зьмяшчаюцца ў непрыстасаваных сялянскіх хатах, і ў некаторых вёсках да 1928 г. адбываліся заняткі нават па чарзе ў кожнага гаспадара (в. Навасады). Усе школы раёну забясьпечаны прыладамі на 75%, а падручнікамі толькі на 50%; наглядных прылад і дапаможнікаў таксама мала.

Акрамя школьнай сеткі па раёне ў 1927/28 годзе працавала 8 сеткавых лікпунктаў, у якіх ліквідавала сваю няпісьменнасьць 189 чал., і 19 нясеткавых, дзе вучылася 162 чалавекі. У гэтым годзе сетка лікпунктаў значна павялічана. Таксама ў раёне ёсьць 6 хат-чытальнень, 22 чырвоных куткі, 2 нардамы і адзін рабочы клюб у мястэчку. Каля гэтых установаў гуртуюцца ўсе культурныя сілы вёскі. Пры іх ёсьць розныя гурткі, праз якія праводзіцца ўся культасьветная праца раёну. Каля 70% усіх двароў раёну выпісваюць газэты і сельска-гаспадарчую літаратуру. У раёне таксама налічваецца 12 радыёўстановак.

## Пажарная ахова.

Пачатак арганізацыі пажарнай аховы адносіцца да 1898 году, калі ў мястэчку была арганізавана дабрахвотная дружына з 30 чалавек каманды з аднэй маленькай пажарнай машынай і 2 бочкамі. Памяшканьне наймалася з сродкаў дабрахвотных узносаў. Паступова яна ўзмацнялася і ўжо праз дзесяць гадоў мела некалькі даволі буйных машын і бочак. У час пажару мястэчка пры адступленьні палякаў уся маемасьць дружыны была зьнішчана палякамі, якія не давалі магчымасьці гасіць запаленае імі мястэчка. Пасьля сканчэньня грамадзянскай вайны местачковая дружына паволі стала ўзмацняцца як набыцьцём пажарных прылад, так і колькасьцю ўдзельнікаў. І ўжо ў 1928 годзе пажарная дружына мае 4 пажарныя машыны і гідрапульт, 14 жалезных 40-вядровых бочак і іншыя пажарныя прылады. У тымжа годзе пабудавана новая пажарная пуня, лес на якую сяляне вывезьлі дармова. Арганізаваны духавы оркестр з 20 музыкантаў, пажарнікаў налічваецца 88 чалавек. Для абслугоўваньня коньмі дабра-



Койданаўская пажарная дружына ў дзень 25-цігодзьдзя існаваньня ў 1924 г.

хвотна прымацавана 8 гаспадароў з сваімі коньмі. Акрамя гэтага на плошчы мястэчка пабудаваны два драўляныя бакі па 170 вёдраў запаснай вады.

Паступова пажарная ахова распаўсюджваецца і на вёскі раёну. У 1928 годзе ўжо налічваецца 23 дружыны з 835 чал. пажарнікаў і 168 коняй. Ёсьць 33 машыны, 69 бочак, 3 пажарныя дэпо і 9 пунь.

Пры дапамозе ўсяго насельніцтва і сродкаў ад самаабкладаньня магчыма задаволіць пажарнымі прыладамі ўсе больш-менш буйныя паселішчы раёну.

У заключэньне трэба адзначыць, што ў гэтым артыкуле дадзены толькі агульны нарыс сучаснага становішча мястэчка Койданава і раёну. Што датычыцца прыведзеных тут лічбаў, то табліцы былі складзены на аснове матар'ялаў ЦСУ БССР, раённага статыста і справаздач Койданаўскага Райвыканкому.

З гэтага агульнага нарысу відаць, што становішча раёну, пасьля таго вялікага заняпаду ў часы імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны з кожным годам паляпшаецца. Пашыраецца школьная і асьветная сетка; хуткім тэмпам расьце і шырыцца спажывецкая і сельска-гаспадарчыя коопэрацыі, усё больш і больш ахопліваючы бядняцка-серадняцкую частку насельніцтва раёну і выціскаючы паступова прыватны гандаль і прамысловасьць. У сельскай гаспадарцы паступова пашыраецца плошча засеву, якая засяваецца больш прыбытковымі для гаспадаркі расьлінамі як лён, каноплі, рознага роду кармовыя травы і інш. Тэхніка апрацоўкі глебы таксама паляпшаецца: пасьля вайны плугі канчаткова выціснулі саху. Паступова з году ў год растуць калгасы і арцелі з апрацоўкай глебы трактарамі і іншымі складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі.

**М. Валасэвіч.**
Настаўнік 20 сямігодкі.

# Па родных абшарах.

*(Экскурсія краязнаўчага гуртка 4-ай Менскай 7-годкі па р. Бярэзіне).*

Краязнаўчая праца пры 4-ай Менскай 7-годцы вялася з 1923 году. За пяць год свайго існаваньня краязнаўчы гурток разросься і ў 1926-27 навуч. годзе налічваў ужо 60 чалавек членаў і меў такія-сякія дасягненьні ў галіне краязнаўчай працы.

Адным з сродкаў уцягненьня вучняў у краязнаўчую працу зьяўляліся дальнія экскурсіі з вучнямі па Беларусі. Так, улетку 1924 году была зроблена мной з 18 вучнямі пяцідзённая экскурсія пехатой з Менску праз Сёмкаў Гарадок, Саламарэчча, Буцавічы, Мацкі, Лекараўку, Пунішча на Лысую Гару.

Экскурсія гэтая выклікала надзвычайны пад'ём настрою ў маладых краязнаўцаў.

У мінулым 1928 годзе ўдалося арганізаваць другую шматдзённую экскурсію па Беларусі ў складзе 9 чалавек вучняў і 1-го настаўніка. На гэты раз маршрут экскурсіі быў абраны наступны: з Менску па чыгунцы да Барысава, далей параходам па р. Бярэзіне да м. Сьвіслачы, з м. Сьвіслач параходам да Бабруйску і з Бабруйску па чыгунцы назад у Менск. Экскурсія працягнулася 6 дзён (з 12 па 19 чэрвеня).

Сродкі на арганізацыю экскурсіі былі часткай сабраны самімі вучнямі—удзельнікам экскурсіі, часткай былі асыгнаваны камітэтам садзейнічаньня 4-ай школы. Усяго шасьцідзённая экскурсія, лічачы праезд на фурманках, параходам і па чыгунцы, а таксама і абеды ў сталоўках, каштавала 144 р., прычым вучнямі—удзельнікамі экскурсіі было сабрана 64 рублі і 80 рублёў асыгнаваў камітэт садзейнічаньня. Узносы вучняў вагаліся ад 4 да 9 рублёў.

Некалькі слоў аб падрыхтоўцы да экскурсіі. Усе галоўныя пункты нашай падарожы, дзе меркавалася зрабіць прыпынкі, былі вывучаны загадзя па друкаваных крыніцах і допісах „Савецкай Беларусі", „Зьвязды" і „Рабочага".

Улічваючы тыя цяжкасьці, якія пачалі адчувацца ў Менску ў чэрвені месяцы ў адносінах забясьпечаньня хлебам, мы перад адпраўкай у экскурсію зьвярнулі асаблівую ўвагу на забясьпечаньне яе ўдзельнікаў неабходнай колькасьцю харчовых продуктаў.

Кожны вучань павінен быў узяць з сабой 2 кг. хлебных сухароў, 2 кг. каўбасы, 1/2 кг. цукру, кубачак для гарбты, лыжачку, лёгкую коўдру, невялічкую падушку, агульны сшытак цаной у 20 кап. і аловак, вучні-рысавальнікі ўзялі яшчэ па 2 аркушы александрыйскай паперы і бутэлечку тушы. Для патрэб усяе экскурсіі была ўзята хатняя аптэчка Белмэдгандлю цаной у 1 р. 75 кап. і эмаляваны чайнік на 16 шклянак.

У якасьці неабходных прыналежнасьцяй для вядзеньня дасьледчай працы ў часе экскурсіі захапілі з сабой компас, 2 рэйкі ў 2 мэтры вышыні, грунтавагу, проставес—для мераньня ўзгоркаў, мерную вя-



Экскаватар.

Рыс. вуч. VII кл. В. Класінскі.

роўку ў 20 мэтраў даўжыні. Перад адпраўкай у экскурсію запасьліся адносьнікамі ЦБК пры Інбелкульце і Менскага Акрана да розных устаноў і організацый з просьбай дапамагчы экскурсіі.

Было пастаноўлена адправіцца 12 чэрвеня з 5-гадзінным цягніком, прычым усе ўдзельнікі экскурсіі павінны былі сабрацца разам са сваімі дарожнымі рэчамі к 2 гадзінам дня ў памяшканьне 4-ай школы для праверкі прырыхтаваньня кожнага.

У 4 гадзіны дня ўдзельнікі экскурсіі рушыліся са школы да вакзалу МББ чыгункі, адправіўшы перад тым найбольш цяжкія рэчы на фурманцы пад наглядам аднаго вучня.

* *
*

Вось як апісваюць свае ўражаньні ўдзельнікі экскурсіі:

Уся раніца перад ад'ездам прайшла ў прысьпешаных зборах. Я канчаткова супакоіўся толькі пасьля другога званка, калі цягнік нячутна крануўся, і станцыя павольна пачала хавацца за рамкай вакна.

Мы занялі свае месцы, склалі і падлічылі свае клумкі. Міхась Іванавіч падлічыў нас: разам з ім нас 10 чалавек, дзесяць дасьледчыкаў, якія адпраўляюцца ў першую вялікую экскурсію па родным краі.

Першы этап нашай падарожы—Нова-Барысаў. Мы пад'яжджаем да яго ўжо на захадзе сонца. Захапіўшы свае мяшкі і кошыкі, мы ідзом па Проспэкце Рэволюцыі. Часовы прытулак мы знаходзім непадалёк ад вакзалу ў школе № 8. Мяшкі хутка валяцца на падлогу, але

заставацца ў школе нікому ня хочацца, усіх вабіць незнаёмы горад. Ідом. Па абодвух бакох вуліццы цягнуцца дамы, у большасьці драўляныя аднапавярховыя, але сярод іх вылучаюцца вялікія каменныя будынкі яшчэ нясконченыя, наогул новых дамоў і яшчэ нясконченых у Нова-Барысаве шмат, здаецца, што ён увесь знаходзіцца ў процэсе будаваньня.

У надыходзячым змроку мы пасьпяваем агледзець вялікі ўзгорак, пакрыты густым хвойнікам і скрозь зрыты глыбокімі равамі—гэта акопы, вырытыя Аляксандрам I у 1812 годзе ў часе вайны з французамі. Цяпер на ўзгорку гарыць агонь, і чырвоныя языкі полымя асьвятляюць не французскіх кірасіраў, а Барысаўскіх хлапчукоў. Шырокай істужкай бліскакула рака. Гэта і ёсьць Бярэзіна, праз яе перакінуты два мярэжыстыя масты, упоперак ракі цягнецца шэраг ліхтароў, іх яскравы адбітак залацістымі пераліваміі калыхаецца ў чорным аксаміце вады. Мы падыходзім да парахода. Дык вось ён які! Увесь белы, падобны да вялікай лодкі з круглымі вокнамі ўнізе, праз якія відаць сьвятло. З чорнай трубы цягнецца струмень дыму, лянiва падымаючыся да цёмнага неба. Ужо позна. Пацiху вяртаемся мы ў школу. Праз некалькі хвілін уся падлога ў клясным пакоі заслана коўдрамі. Мы рыхтуемся да начлегу. Хутка тухне электрычнасьць, але доўга яшчэ ня спыняюцца ціхія гутаркі і сьмех.

Раніцай мы з таварышом перш за ўсё бяжым на вакзал па гатаваную ваду. Калі мы вяртаемся з поўным чайнікам, нас сустракаюць гучным гура! Запраўды, гарбата ў экскурсіі самае галоўнае.

За сьнеданьнем мы ажыўлёна абгаворваем плян сёньнешняга дня, часу ў нас мала, а трэба шмат што аглядзець.

Пастанавілі сёньня вывучыць школу № 8, у якой мы знайшлі прытулак і аглядзець найбольш буйныя прадпрыемствы Нова-Барысава: папявовую фабрыку „Профінтэрн", сярнічковую фабрыку і шкляную гуту імя Дамбаля.

Дарога на папяровую фабрыку вядзе міма прыстані, ля якой стаяла некалькі лайб, таму было пастаноўлена дасьледваць і лайбы.

Былі намечаны і разьмяркованы паміж удзельнікамі экскурсіі наступныя даклады:

1) Нова-Барысаўская сямілетняя школа № 8.
2) Папяровая фабрыка „Профінтэрн".
3) Сярнічковая фабрыка „Чырвоная Бярэзіна".
4) Шкляная гута ім. Дамбаля.
5) Лайбы на р. Бярэзіне.

Апроч таго вучню VII кл. К. В. было даручана весьці агульны дзеньнік экскурсіі. Разьмеркаваўшы працу, мы рушыліся ў дарогу.

Наш працоўны дзень пачаўся з агляду і вывучэньня лайбы. Калі мы ўзышлі на борт лайбы, нас сустрэлі двое матросаў, з якімі мы і пачалі гутарку. Гэтая лайба належыць да Дзяржпараходзтва. Узімку яна стаіць у затоне і спыняе сваю працу ўвосень у кастрычніку. Лайба ўжо ня новая, яна мае 25—30 год, але на выгляд яна яшчэ моцная, гэта тлумачыцца тым, што яна пабудована з цьвёрдых матар'ялаў (дуба). Лайба галоўным чынам перавозіць дровы і зьмяшчае да 7000 пудоў цяжару. Проці вады лайба ідзе на буксіры, а за вадой без яго дапамогі.

За вадой лайба праходзіць пры добрым надвор'і ад 2 да 5 км. у гадзіну, а на буксіры значна больш—да 10 км. у гадзіну.

Каманда лайбы складаецца з 3 чалавек: двух матросаў і атамана. Матросы атрымоўваюць ад 59 да 75 р. у месяц, атаман—83 р. Па на-

цыянальнасьці яны беларусы і расійцы, усе пісьменныя, сямейныя, адзін з іх член партыі. На карме і на перадзе лайбы пабудованы дзьве каюты: адна—для двух матросаў, другая—для атамана. У час нашай гутаркі вышаў з сваёй каюты стары атаман лайбы і запрасіў нас да сябе ў каюту. Мы ахвотна згадзіліся. Праз увахад у версе каюты мы па сходах зышлі ў самую каюту, яна мае ў аб'ёме ня больш 1 куб. сажня. Сьцены і столь каюты афарбаваны белай алейнай фарбай. Уздоўж сьцен пастаўлены: часовая печка, лаўка, невялічкі стол, столак для сядзеньня і ложак. Усюды надзвычайная чыстата і парадак.

Старэнькі атаман—Ягор Іванавіч Кастылёў радзіўся ў м. Радуль Чарнігаўскай губэрніі і ўсё сваё жыцьцё правёў на вадзе. „Я і ра-




Рыс. вуч. VII кл. В. Класінскі.

дзіўся на вадзе, і жыву на вадзе, і бацька мой таксама жыў на вадзе“, кажа аб сабе Ягор Іванавіч.

Каманда лайбы, яе атаман і ўсё жыцьцё на лайбе наогул зрабіла на нас вельмі добрае ўражаньне.

Пасьля падрабязнага агляду лайбы мы накіраваліся на папяровую фабрыку „Профінтэрн“. Фабрыка сустрэла нас бурчэньнем і грукатам мільгаючых колаў. У вялізным цыліндры выпарваюцца яловыя круглякі, з іх такім чынам вылучаюцца непатрэбныя часткі, якія перашкаджаюць вырабу паперы, адсюль выпараныя круглякі пераходзяць у драбільную машыну, з якой выходзяць у выглядзе разьмеленай драўнянай масы; праходзячы паступова ўсе стадыі апрацоўкі, яны выходзяць з апошняй машыны ў выглядзе жоўтай пакавальнай паперы, якая тут-жа на нашых вачох накручвалася на вялізныя шпулькі.

У гэты самы дзень мы аглядалі шкляную гуту і сярнічковую фабрыку „Чырвоная Бярэзіна“. Найвялікшае ўражаньне на нас усіх стварыла сярнічковая фабрыка, мы яшчэ ніколі ня бачылі гэткага буйнога прадпрыемства. Змораныя, але радыя вяртаемся мы ўвечары ў гасьцінную школу; усе садзяцца за працу; малыя 4-ай і 5-ай клясы бурна і доўга абгаворваюць свой колектыўны даклад аб лайбах, старэйшыя працуюць моўчкі. Пазьней да нас заходзіць загадчык школы

т. Лісоўскі і вядзе доўгую гутарку з М. І. аб экскурсійных мэтодах і краязнаўчай працы, аж пакуль ня гасьне электрычнасьць. Сёньня мы сьпім вельмі выгодна, т. Лісоўскі прыслаў нам паходны ложак, дыван і падушкі. Усе хутка засынаюць, і цішыню ў клясе парушае толькі гудзеньне аўтобуса і далёкія гудкі ці то цягніка, ці то парахода.

Трэці дзень у Барысаве мы прысьвячаем агляду гораду і вывучэньню захаваных у ім помнікаў старасьветчыны. Нашым кіраўнікоm зьяўляецца старшыня Барысаўскага раённага т-ства краязнаўства т. Самцэвіч. Мы праходзім Швэдзкую вуліцу, на якой у часе вайны Пятра I са швэдамі, стаяў швэдзкі абоз, мінаем штучна насыпаны ўзгорак, на якім некалі стаяў замак, а цяпер знаходзіцца выпраўдом і падымаемся на „батарэю"—галоўнае месца гуляньня жыхароў Барысава. У 1812 г. тут былі зроблены расійскія ўзмацненьні для таго, каб ня даць Наполеону пераправіцца праз Бярэзіну. Наогул, увесь Барысаў здаецца мне адным вялікім падручнікам па гісторыі. Аглядам каменнай акруговай больніцы, якая будуецца на „батарэі", канчаецца наша экскурсія па Барысаву. Мы дзякуем т. Самцэвіча і сьпяшаемся ў сталоўку абедаць.

У 3 гадзіны (14 чэрвеня) мы ад'язджаем з Барысава. На прыстань нас праважае цэлая грамада вучняў 8-ай школы, шмат хто з іх дапамагае нам несьці нашыя пакункі і кошыкі. Здаецца мы захапілі іх сваймі краязнаўчымі настроямі. „Поўны ход" крычыць капітан. Застукалі колы, параход плаўна рушыўся з месца. З берагу нам махаюць шапкамі. Бывай, гасьцінны Барысаў! Заскрыгаталі ланцугі, вясёла затрапятаў чырвоны сьцяг на перадзе парахода. Хутка пагоны дроў і брудныя надбярэжжы зьмяняюцца прыгожымі палямі, сенажацямі і густым у большасьці мяшаным лесам. Адзін за адным праплываюць астравы, зарослыя ракітнікам. Правы бераг стромка падымаецца над ракой, вялізныя пышныя дубы растуць на яго схілах. На самым версе, як гнёзды стрыжоў, туляцца маленькія дамочкі, абкружаныя бярозавымі і дубовымі хмызьнякамі.

А рэчка жыве сваім асобным, зусім новым для нас, жыцьцём. Вось мы перагналі плыт, праплылі перад намі абветраныя змораныя твары плытагонаў, а насустрач ужо бяжыць параход і вітае нас хрыплым адрывістым гудком. Гэта буксір „Піонэр", ён адважна ўразаецца ў невялічкія паднятыя ветрам хвалі і з натугай цягне за сабой лайбу, лайба накладзена дровамі, яна глыбока асела і толькі ў пярэдняй, крыху паднятай ад вады, частцы відаць надпіс „Піонэрка".

Мы праплываем па мясцовасьці, якая завецца „Чортаў куст". Запраўды, куды ні кінь вокам, усюды кусты ракітніку, кусты бяз канца, ды і сама мясцовасьць з некалькімі дзясяткамі выгінаў падобна да вялікага куста. Яшчэ здалёк чутна нясупыннае цьвірканьне вераб'ёў. Мы праплываем міма вострава, ён увесь пакрыты кустамі, у паветры над ім трапечуцца тысячы вераб'ёў, яны так цьвіркаюць, нібы зьдзіўлены, што ўбачылі параход. Гэты востраў мы назвалі „Вераб'іным".

Надыходзіць вечар. Нашыя краязнаўцы знаходзяць для сябе новую працу: яны вывучаюць параход „Бесядзь". Аглядаюць каюты I і II клясы, спускаюцца ў спод парахода, у машыннае аддзяленьне, вывучаюць грузаёмасьць „Бесядзі", магутнасьць яе машын.

Параход „Бесядзь" двухпавярховы з палубай над другім паверхам. Пабудаваны ён у Нямеччыне ў 1901 годзе, даўжыня яго—26,92 м., шырыня 4,4 м., вышыня бартоў—2,05 мэтра. Корпус „Бесядзі" жалезны. Параход колавы і рухаецца паравой машынай у 10 індыкатарных сіл.

„Бесядзь“ можа везьці 17 тон цяжару або 110 чалавек і 2 тоны цяжару. На параходзе ёсьць каюты I-ай (на 12 чалавек), II-ой (на 15 чалавек) і III-яй (на 83 чалавекі) клясы. Абслугоўваецца „Бесядзь“ экіпажам у 15 чалавек, з іх 4 партыйцы, і 2 чалавекі працуюць пры буфэце.

Ужо 10-ая гадзіна вечару. Я іду па жалезных сходах уніз. Разам на мяне адтуль дыхае цяплом. Шмат хто з нашых даследчыкаў ужо сьпіць, адны седзячы, іншыя лежачы, скурчыўшыся на лаўках, яны сьпяць так спакойна нібы на мяккіх ложках, пад цёплымі коўдрамі. Яны адважна пераносяць усе цяжкасьці падарожы, яны-ж краязнаўцы! Ня сьпяць толькі старэйшыя вучні, ды няўтомны В. вучань 5-ай клясы,



Лайба „Піонэрка“.

Рыс. вуч. VII кл. В. Класінскі.

які піша даклад аб параходзе „Бесядзь“, усё яшчэ распытвае памочніка капітана, які ахвотна тлумачыць яму ўсе дэталі пабудовы „Бесядзі“. Не магу заснуць і я. Я ня хочу спаць у гэтую першую ноч на параходзе. Я саджуся піць гарбату. Да майго вуха даносіцца роўнамерны грукат машыны і нясупыннае гудзеньне. Я бачу, як у машынным аддяленьні поўзаюць бліскучыя таўкачы, як узьбіраюцца стрыжні наверх кола, зноў падаюць уніз і зноў уверх і гэтак праз увесь час бяз конца ў нясупынным руху. Шурхаюць ланцугі апускаючыся і зноў падымаючыся. Параход дрыжыць, дыхае, як жывы.

Я зноў на верхняй палубе. Па абодвух бакох ракі цягнуцца запаленыя ліхтары чырвоныя і белыя. Вагністыя плямы купаюцца ў халодных хвалях, сплятаючыся ў адну чырвоную істужку, і чорнымі здаюцца берагі. Я падсеў да рулявога. Ён спачатку неахвотна, а потым усё больш захапляючыся, пачаў апавядаць мне аб жыцьці і працы рулявога, аб тым, як у час наступу белапалякаў вось на гэтым самым параходзе ён выратаваў чырвонаармейцаў, разьвінуўшы шалёную хуткасьць. Кожную хвіліну ён чакаў, што кацёл ня вытрымае і ўзарвецца, але верны сябра ня здрадзіў, старая „Бесядзь“ зьберагла Рэспубліцы Саветаў яе абаронцаў. Цяжкія часы прайшлі. Цяпер параход спакойна разразае хвалі Бярэзіны і рулявы бяз страху можа глядзець уперад.

Пачынае крапаць дождж̌ык, але я ня хочу зыйсьці з палубы, я адчуваю сябе „марскім воўкам“, мне здаецца, што я адказны лоцман, ад якога залежыць жыцьцё карабля, я ня хочу абрываць чароўную казку ночы. Ёй кладзе канец бледна-ружовая істужка на ўсходзе. Сьвітае. Рака дыхае сьвежасьцю. Праз 20 мінут мы будзем у м. Сьвіслачы. Дасьледчыкі з заспанымі, зьмятымі тварамі выходзяць на палубу, у кожнага за плячыма мяшок. Малыя, здаецца, нібы яшчэ сьпяць ходзячы, тым ня менш усе выстроіваюцца ў чаргу. Організаванасьць перш за ўсё!

Вось мы і ў м. Сьвіслачы. Паціху ўзьбіраемся па стромкім беразе і накіроўваемся да цэнтру мястэчка. Цягнуцца радамі нізенькія шэрыя дамочкі з скошанымі вугламі, з асеўшымі стрехамі, яны нібы купаюцца

ў зелені садоў. Вакяніцы ўсюды яшчэ зачынены, мястэчка сьпіць, запраўды, яшчэ-ж толькі 4 гадзіны раніцы. Мы шукаем школу—наш звычайны прытулак. Вось вялікі будынак на высокім падмурку з белымі вокнамі; пэўна, гэта і ёсьць школа. Але, мы не памыліліся, гэта Сьвіслацкая сямігодка. Пакуль загатуецца вада, мы пойдзем паглядзець мястэчка. Мястэчка Сьвіслач знаходзіцца пры ў току р. Сьвіслачы ў Бярэзіну. Наша Сьвіслач тут даволі шырокая, і па ёй увосень і ўвесну ідуць плыты. Лес сплаўляецца з Лапіцкай дачы, якая знаходзіцца вёрстах у 30 ад м. Сьвіслачы ўгару па рэце, ці з Вяскай дачы ў 20 вёрстах ад м. Сьвіслачы.

Ад р. Сьвіслачы плыты ідуць па Бярэзіне і нават па Дняпры. Частка лесу, які сплаўляецца па р. Сьвіслачы, перарапрацоўваецца ў Бабруйску.

Непадалёку ад упаду ў Бярэзіну Сьвіслач шырока разьліваецца і цячэ вельмі павольна, яе адтокі зарасьлі ракітнікам, алешнікам і чаротам, па абодвух берагох цягнуцца дубовыя гаі.

Шырока раскінуўшы крыльля, ляціць да свайго гнязда на высокім дубе бусел, я бачу, як маленькія бусьляняты адкрываюць яму насустрач свае дзюбкі. Усё навокал ціха і спакойна. Якая чароўная раніца!

Мястэчка прачынаецца. Цягнуцца раскудлачаныя няўмытыя жанчыны па ваду, грозна гагоча статак гусей. У канаве ля вадасьцёчнай трубы ляжыць вялізная белая сьвіньня.

Сустрэчныя жыхары з цікавасьцю аглядаюць нас, мы ўжо вядомы амаль што ня ўсім, як „менскія турысты“, падарожнікі па Беларусі. За гарбатай мы абгаворваем плян орыентацыйнай экскурсіі па мястэчку. Выходзім на Магілеўскую вуліцу.

Па абодвух бакох вуліцы даволі часта трапляюцца „чайныя“, „расьпівачныя“, а паміж імі знайшоў сабе месца паўсюдны Цэнтрасьпірт. У выстарчаючай колькасьці трапляюцца дробныя майстэрні. Вось шавецкая майстэрня, кравец, рымар і г. д. Ёсьць, зразумела, і коопэратыў: „Рабочая крама мястэчка Сьвіслач“.

У вяршыні трыкутніка, утворанага сутокай р. Сьвіслачы і Бярэзіны, падымаецца высокі ўзгорак, а на ім нейкія руіны. Мы ўзьбіраемся на самы верх гары. Перад намі напалову зруйнаваныя сьцены, складзеныя з вялікага каменьня, паміж абломкамі прабіваецца калючы чартапалох і яшчэ нейкае пустазельле, якое адчувае сябе тут поўнаўладным гаспадаром. Яно сьмела раскідвае сваё шэрае лісьце па некалі магутных сьценах, расьліне не перашкаджае гэтае раскрышанае каменьне, наадварот яно зьяўляецца для яго надзейнай падпорай. Гэтыя пазелянелыя ад доўгага ляжаньня камяні, пэўна, шмат што апавядалі гэтай шэрай траве аб сваім былым жыцьці, аб сваёй мінулай магутнасьці.

Што за гара? Якія гэты руіны? Аб гэтым вось што кажа нам вартаўнік Сьвіслацкай сямігодкі. Пакурваючы вялізную „казіную ножку“, ён разгортвае перад намі малюнкі далёкага мінулага: гара насыпана штучна, на гэтым месцы ня было нават маленькага ўзгорку, усё зроблена рукамі прыгонных сялян і самая гара, і замак, які стаяў на ёй. Прайшлі гады, і замак заняла савецкая працоўная школа, у якой зьвінелі галасы і сьмех дзяцей. У часе вайны з белапалякамі школу зруйнавалі гарматныя набоі, цяпер ад яе засталіся толькі руіны. Стары змоўк. Увесь твар яго завалочаны дымам.—Ня сумуй, дзядзька! Пройдзе

яшчэ год, два і на гэтых абломках, павер мне, вырасьце новая савецкая працоўная школа: Мы ўмеем будаваць!

Агляд мястэчка мы канчаем даведваньнем Народнага Дому і Сельсавету. На стрэхах абодвух гэтых драўляных будынкаў падымаюцца высокія мачты радыё. М. Сьвіслач даволі значны адміністрацыйны, культурны і гандлёвы цэнтр з 1830 чк. насельніцтва, з якіх 583 няпісьменных. Мястэчка зьяўляецца цэнтрам Сьвіслацкага раёну. Тут знаходзяцца Р. В. К., Сельсавет, раённая больніца з 3 дактарамі, 1-ым



Сьвіслацкая сямігодка. В. Класінскі.

фэльшарам і акушэркай, апроч таго ў мястэчку жыве адзін вольнапрактыкуючы доктар і сядзелка.

З культурна-асьветных устаноў мястэчка трэба адзначыць сямігодку, вячэрнюю школу для дарослых, народны дом з клюбам і чытальняй, другі клюб пры пажарным т-стве.

Прамысловасьць мястэчка даволі значная, у некалькіх вярстах ад мястэчка знаходзіцца шкляная гута „Акцябр“ з 738 чк. рабочых, з іх 118 чалавек—жыхары мястэчка, пільня РВК з 13 чабочымі і млын (3 чл. рабочых). З рамесьніцка-саматужных прадпрыемстваў трэба адзначыць працколектывы—2 кравецкіх, 1 шаўцоў, 1—загатовачны, 1—шапачнікаў. Далей ідуць прыватныя прадпрыемствы рамесьніцка-саматужнага тыпу: пякарні—3, кузьні—4, гарбарныя майстэрні—2.

Гандлёвае жыцьцё м. Сьвіслач адзначаецца 2 коопэратывамі—сельска-гаспадарчым і спажывецкім і 18 прыватнымі крамамі. Нарэшце адзначым прыстань на р. Бярэзіне, пошту, міліцыю, судовага сьледчага і судовага выканаўцу. Бліжэйшая чыгуначная станцыя Завішын знаходзіцца ў 10 вярстах ад мястэчка, да Бабруйску па р. Бярэзіне 60 вёрст, сухадолам—40 вёрст.

Абедаем мы сёньня ў прыватнай сталоўцы, абед прасьцейшы, але ня горшы, чым у Барысаве.

Увесь вечар гэтага дня ідзе на прапрацоўку здабытых ведаў. Няпрыкметна надыходзіць ноч. Шмат хто ўжо сьпіць на пастаўленых разам клясных сталох, кладуся і я.

На другі дзень раніцай мы аглядаем саўгас імя Сьвярдлова, які знаходзіцца на самым канцы мястэчка на беразе р. Сьвіслачы.

Зараней былі выпрацаваны і разьмяркованы паміж усімі сябрамі экскурсіі тэмы для наступных дакладаў:

1) Гісторыя саўгасу, яго арганізацыя і кіраваньне.
2) Паляводзтва.
3) Гародніцтва і садаводзтва.
4) Жывёлагадоўля.
5) Сельска-гаспадарчыя машыны.
6) Побыт рабочага саўгасу.

Саўгас імя Сьвярдлова да рэволюцыі быў маёнткам б. княгіні Веляпольскай, якая здавала яго ў арэнду памешчыку Каржанеўскаму. Пасьля адыходу нямецкіх і польскіх окупантаў маёнтак у 1921 годзе перайшоў пад загад Бельсельтрэсту і тут быў арганізаваны саўгас імя Сьвярдлова. Усяго да саўгасу належыць 342,15 га. зямлі, з іх 93,89 га ворнай зямлі; 161,02 га поплаву, 9,01 га сухадольных сенажацяй; 2,24 пад гародамі; 2,46 га займае сад 47,37 га пад лесам; 3,56 га пад сядзібай, а рэшта занята дробным хмызьняком, вадой ці няўдоб'ямі.

Служачыя ў саугасе—загадчык, яго памочнік і 12 чалавек сталых рабочых, з іх 1 жанчына. Партыйцаў сярод рабочых 3 чалавекі. Усе сталыя рабочыя—сябры саюзу Рабземлес. Пры саўгасе ёсьць клюб, бібліотэка з 220 экзэмплярамі кніг, выпісваюцца мясцовыя і цэнтральныя газэты (каля 10 назваў).

Саўгас організаваны з мэтай быць узорнай гаспадаркай для мясцовага сялянскага насельніцтва, і гэтую задачу саўгас выконвае цалком, як гэта было даведзена нам лічбамі і фактамі загадчыкам саўгасу. Апрача таго саўгас дапамагае мясцоваму сялянству, забясьпечваючы яго сельска-гаспадарчымі машынамі, насеньнем і г. д.

Мы правялі ў дасьледваньні саўгасу гадзін пяць і за гэты час пасьпелі грунтоўна пазнаёміцца з усімі падрабязнасьцямі організацыі гаспадаркі і побытам рабочых. Нам дапамагалі ў гэтым загадчык саўгасу яго памочнік.

Пасьля абеду ў гэты самы дзень мы ідом паглядзець працу экскаватара (землячарпалкі) на чыгунцы, якая пракладаецца ад Асіпавіч праз Магілеў на Рослаў. Уся дарога вядзе праз лес. Падыходзячы да чыгункі, перш за ўсё мы бачым шэраг таварных вагонаў—гэта кватэры рабочых, яны жывуць тут з сваімі жонкамі і дзяцьмі. З гэтых вагонаў складаюцца цэлыя вуліцы, і якім цяжкім было-б жыцьцё у цёмных пазбаўленых усякіх выгод памяшканьнях—таварных вагонах, калі-б ня цьвёрдая ўпэўненасьць, што гэта толькі ступень да лепшай будучыны.

Мы падыходзім да экскаватара. Ён устанаўляецца для прарываньня ўва ўзвышшах альбо ўзгорку праходу для цягніка. Ня можа-ж цягнік узьбірацца на высокія узгоркі, як добры конь, ці галёпам несьціся з кручы, вось і прыходзіцца раўнаваць дарогу.

Мы доўга сочым, як машына з надзвычайнай сілай уразаецца ў зямлю і затым спрытна і хутка падхоплівае і паракідае зямлю і пясок на таварныя пляцформы, якія стаяць побач. Наогул, уся гэта машына падобна да вялізнага крыважэрнага зьвера ў час яды.

Варочаліся мы ў сваю школу ўжо змрокам, але не шкадавалі, што зрабілі далёкую дарогу. Я ўзьлез на стол і хутка заснуў. Як добра

спаць нават на голым стале, калі ведаеш, што заўтрашні дзень нясе табе што-небудзь новае і цікавае.

Нядзеля—17 чэрвеня—наш апошні дзень у Сьвіслачы. Уся раніца гэтага дня аддаецца прапрацоўцы матар'ялаў учарашняй экскурсіі. Л. піша свой даклад аб саўгасе, К. піша аб сельска-гаспадарчых машынах саўгасу і г. д., нават маленькі Алесь Д. піша свой даклад аб гародніцтве і садоўніцтве ў саўгасе, і мае выгляд запраўднага краязнаўцы. У 11 гадзін раніцы мы, узброіўшыся мернай вяроўкай, дзьвюма рэйкамі, грунтавагай, проставесам і компасам, накіроўваемся да берагоў р. Сьвіслачы ў паўднёва-заходняй частцы мястэчка, каб дасьледваць вышыню берагоў і зрэзанасьць іх ярамі ў гэтай частцы мястэчка.

Двое з удзельнікаў экскурсіі—вучні VII клясы К. і Ф., ідуць у Сельсавет, каб атрымаць статыстычныя даныя аб м. Сьвіслачы, К. апрача таго мусіць запісаць мясцовыя легенды аб Сьвіслацкім замку і зрабіць зарысоўкі замкавай гары і руін з процілеглага берагу р. Сьвіслачы. Але не праходзіць і поўгадзіны, як Ф. і К. засаромленыя варочаюцца да пазасталых членаў экскурсіі: у сельсавеце ня толькі не далі аніякіх вестак аб мястэчку, але яшчэ патрабуюць асабовых докумэнтаў. Захапіўшы адносьнік ЦБК і Менскага Акрана і сяброўскі білет М. У., як адказнага кіраўніка экскурсіі, нашы краязнаўцы зноў пайшлі ў сельсавет, і на гэты раз ужо без усялякіх перашкод выканалі дадзенае ім даручэньне. Да вечару ўся праца скончана. Я ўпэўнены ў тым, што мы цяпер так добра ведаем мястэчка Сьвіслач, як мала хто з мясцовых жыхароў.

Мы едзем на лодцы ўгару па Сьвіслачы, у вярстах чатырох ад мястэчка ў густым дубовым лесе на правым беразе ракі мы выходзім і раскладаем вогнішча. Колькі жартаў, колькі сьмеху! Як усё нязвычайна, непадобна да нашага жыцьця ў Менску.

У 2 гадзіны ночы мы пакідаем мястэчка. Усё сьпіць глыбокім сном, а мы пад сьвіст „Каваля“ накіроўваемся да прыстані.

Раніцай на знаёмай нам „Бесядзі“ мы прыяжджаем у Бабруйск, але нясупынны ў працягу цэлага дня дождж не дае нам магчымасьці абглядзець горад і яго прадпрыемствы. Прышлося задаволіцца аглядам акруговай бібліотэкі, школьнай выстаўкі ў доме Працасьветы і Бабруйскага краявога музэю, які нам усім вельмі спадабаўся. Увесь дзень льле як з вядра, вуліцы Бабруйску пакрыліся гразьзю, мы ўсе прамоклі да апошняй ніткі. Пры гэткіх умовах заставацца ў Бабруйску нам здавалася немагчымым, і мы рашылі ехаць у Менск.

Увечары на трох фурманках мы едзем на вакзал. Неўзабаве скончыцца наша падарож, лепшая частка яе ўжо прайшла. На вакзале малыя разам засыпаюць, скурчыўшыся на драўлянай лаўцы. Адзін з іх крычыць праз сон: „15 мэтраў бяз кія!“ Ён, пэўна, і ў сьне яшчэ вымярае Сьвіслацкія ўзвышшы.

Нарэшце падыходзіць цягнік. Зноў мернае хістаньне вагона: далей, далей, далей... А 6 гадзіне раніцы мы ў Менску, вакзал той самы, тыя самыя гэтак знаёмыя вуліцы, тыя-ж самыя будынкі! Але мы, мы ня тыя, мы прывезьлі з сабой вялізны скарб новых уражаньняў, новых ведаў, новага вопыту. Мы зрабілі першы крок на шляху вывучэньня роднага краю, і з гэтага шляху мы не саступім. Я ведаю.

* * *

Ацэньваючы нашу экскурсію, трэба адзначыць як станоўчыя, так і слабыя яе бакі. Пасьпяховаму правядзеньню экскурсіі шмат дапа-

маглі прадстаўнікі мясцовых краязнаўчых організацый у Барысаве— т. Самцэвіч, у м. Сьвіслач—т. Рубан і т. Славін—у Бабруйску. Прыбыўшы ў кожны з паказаных пунктаў, мы перш за ўсё зьвязваліся з мясцовымі краязнаўцамі. Вельмі добра сустракалі нашу экскурсію і ўва ўсіх школах. Асабліва гасьцінна прынялі нас у 8-й Нова-Барысаўскай школе; загадчык школы т. Лісоўскі аддаў у наша распараджэньне амаль ня ўсё абсталяваньне сваёй кватэры. Ён-жа дапамог нам атрымаць дазвол зрабіць экскурсію на сярнічковую фабрыку „Чырвоная Бярэзіна“.

Самая праца ў часе экскурсіі была організована наступным чынам: перад адпраўленьнем у якую-небудзь паасобную экскурсію складаўся плян працы і паасобныя часткі яго разьмяркоўваліся паміж усімі ўдзельнікамі экскурсіі. Штодзённа адну частку дня мы аддавалі экскурсіям, а другую частку дня працавалі ў школе, рабілі зарысоўкі, складалі пісьмовыя даклады, заносілі нататкі ў дзеньнік. У працягу ўсяе экскурсіі настрой яе ўдзельнікаў заставаўся нязьменна працоўным.

Для нагляданьня за чыстатой і парадкам у нашым памяшканьні штодзённа вылучалася санітарная камісія. І трэба адзначыць, што заўсёды ў памяшканьні падтрымлівалася ўзорная чыстата і парадак.

Нарэшце трэба адзначыць цяжкасьць кіраваньня экскурсіяй пры адным кіраўніку. Труднасьці гэтага роду асабліва яскрава выявіліся ў м. Сьвіслачы, з прычыны наяўнасьці дзьвёх вялікіх рэк.

Праведзеная экскурсія на доўгі час захаваецца ў памяці маладых краязнаўцаў. Уражаньне ад экскурсіі было такое моцнае, што некаторыя з яе ўдзельнікаў праз некалькі дзён пасьля звароту ў Менск склалі новую групу для другой экскурсіі, на гэты раз, за адсутнасьцю грашовых сродкаў, пехатой. А цяпер? Цяпер яны марацць аб тым, як наступным летам яны прымуць удзел у новай больш далёкай экскурсіі па Дняпры.

---

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 26/II-29.

Заслухалі даклад т. В. Самцэвіча аб краязнаўчай працы ў галіне ўзьняцьця ўраджайнасьці. Апрацаваная програма краязнаўчай працы ў гэтым напрамку зацьверджана і прынята пастанова надрукаваць артыкул аб гэтым і програму ў час. „Наш Край". Заслухалі даклад старшыні Азарыцкага раённага Т-ва краязнаўства т. Кулакова і садаклад інструктара ЦБК т. Шашалевіча аб працы Азарыцкага т-ва Краязнаўства. Прынята пастанова: прасіць Азарыцкі РВК дапамагчы раённаму т-ву разгарнуць працу. Заслухана справаздача інструктара ЦБК т. Шашалевіча аб краязнаўчай працы ў Мазырскай акрузе— аб працы Пятрыкоўскага, Капаткевіцкага, Азарыцкага раённых т-ваў і Мазырскага акруговага т-ва. Зацьверджаны зьмест № 3 „Наш Край". Заслухалі інформацыйны даклад т. Самцэвіча аб формах краязнаўчай працы профсаюзаў. Тэзісы яго зацьверджаны. Заслуханы тэзісы т. Касьпяровіча аб чарговых задачах у галіне вывучэньня гісторыі і тэорыі краязнаўства. Ухвалілі: I) адзначыць, што неабходна тым-жа энэргічным тэмпам: а) паглыбіць дасьледваньне гісторыі краязнаўства на Беларусі і распачаць вывучэньне краязнаўчай працы розных грамадзкіх організацый, устаноў, мясцовага друку і паасобных дасьледчыкаў і аматараў; б) тэрмінова распачаць вывучэньне пытаньняў аб пашырэньні краязнаўства ў гарадох сярод работнікаў, комсамольцаў, служачых і інш., аб організацыйных формах краязнаўчага руху ў гарадох, а таксама вывучэньне пытаньняў аб вывучэньні гарадоў мясцовымі краязнаўчымі організацыямі наогул; в) пашырыць працу па ўкладаньні програм краязнаўчай працы, якіх яшчэ не хапае па розных асноўных заданьнях дасьледваньня мясцовага краю; II) прызнаць неабходным у мэтах праверкі выданых програм краязнаўчай працы і вывучэньня мэтодыкі мясцовай колектыўнай краязнаўчай працы побач з дапамогаю мясцовым краязнаўчым організацыям і інструктаваньнем іх: а) вясной 1929 году камандыраваць тав. Жураўскага ў Камарынскі раён Гомельская акругі, тав. Шашалевіча—у Чачэрскі раён Гомельскай акругі і Касьпяровіча—у Чырвона-Слабодзкі раён Бабруйскай акругі; б) даручыць ім тэматычнае вывучэньне сваімі сіламі і сіламі мясцовых краязнаўчых організацый 1)—раёну, 2)— мястэчка і 3)—сяла; в) для належнага пасьпеху азначаных экспэдыцый распачаць зараз-жа плянавую падрыхтоўчую працу да іх; III) для забясьпечаньня школ, хат-чыталень, клюбаў і інш. асьветных устаноў і краязнаўчых організацый адпаведнай мэтодычнай літаратурай лічыць патрэбным выданьне наступных брошур з скарыстаньнем мэтодычных дасягненьняў суседніх рэспублік: а) краязнаўчы музэй; б) экскурсіі; в) вывучэньне краю сіламі школы ў парадку звычайнай школьнай працы, пляны якіх прадставіць у Навукова-Мэтодолёгічны камітэт; IV) з мэтаю прыцягненьня мясцовых краязнаўцаў да выпрацоўкі мэтодыкі краязнаўства і спэцыяльнай падрыхтоўкі іх лічыць вельмі карысным прыкамандыраваньне мясцовых краязнаўцаў за кошт мясцовых краязнаўчых організацый і іх уласны да розных акадэмічных экспэдыцый, для чаго: а) выявіць краязнаўцаў, жадаючых прыняць удзел у гэтых экспэдыцыях; б) вырашыць адпаведным чынам гэтае пытаньне ў Прэзыдыуме БАН і ў Нав.-Дасьледчым Інстытуце; в) дамагчыся дапамогі гэтым краязнаўцам з боку райвыканкомаў акрвыканкомаў.

### Пасяджэньне 12/III-29.

Заслухалі даклад т. Касьпяровіча аб удзеле ЦБК у экскурсійнай кампаніі 1929 г. Акрэсьлены формы ўдзелу: высьвятленьне мэтодыкі і маршрутаў экскурсіі, падлік экскурсійных об'ектаў БССР, крокі да ўтварэньня экскурсыйнага Бюро БССР і г. д. Зацьвердзілі № 4 „Наш Край". Даручана т. т. Касьпяровічу і Бядулі скласьці плян аддзелу бібліографіі ў „Нашым Краі". Прынята пастанова завесьці ў часопісе аддзел адказаў краязнаўцам на тыя пытаньні, якія маюць прынцыповае значэньне. Заслухалі інформацыі т. т. Аляксандрава, Соруля і Шкільтэра аб краязнаўчай працы сярод нацменшасьцяй БССР.

### Пасяджэньне 26/III-29.

Зацьвердзілі плян пасяджэньняў ЦБК на красавік—чэрвень. Зацьвердзілі плян экспэ-

дыцый і камандыровак членаў ЦБК. Разгледзелі орыентовачны плян працы школьных гурткоў краязнаўства, складзены інструктарам ЦБК т. Шашалевічам. Проект прыняты ў аснову, абрана камісія ў складзе т. т. Шашалевіча, Аляксандрава і Самцэвіча для дэтальнага афармленьня пляну. Разгледжана пытаньне аб вывучэньні шкоды для людзей ад бліскавіцы. Прынята пастанова програму такіх дасьледаў надрукаваць у „Нашам Краі".

### Пасяджэньне 9/IV-29.

Заслухана інформацыя неадменнага сакратара Беларускай Акадэміі Навук аб формах скарыстаньня фольклёрных матар'ялаў, якія дасланы мясцовымі краязнаўцамі праз ЦБК катэдры этнографіі Беларускае Акадэміі Навук. Прынята пастанова: 1) вітаць намер катэдры этнографіі рэалізаваць дасланыя фольклёрныя матар'ялы краязнаўцаў у форме выданьня зборніка такіх матар'ялаў; 2) аб формах апрацоўкі і выданьня зборніка дагаварыцца на пасяджэньні катэдры этнографіі з удзелам прадстаўніка ЦБК. Разгледжана пытаньне аб уключэньні пытаньняў мэтодыкі краязнаўства на летніх настаўніцкіх курсах—даклад інструктара ЦБК т. Жураўскага. Прынята пастанова прасіць Наркамасьветы дадаткова ўнесьці ў плян летніх настаўніцкіх курсаў мэтодыку краязнаўства, вызначыўшы на гэта 6—8 гадзін лябораторнай працы. Прызнана мэтазгоднай асноўная тэма для працы на курсах: „Раён, як об'ект школьна-краязнаўчага вывучэньня". Даручана т. Жураўскаму да паказанай тэмы апрацаваць конкрэтны плян і інструкцыю, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на пытаньне аб дыфэрэнцыяцыі вёскі і ўзьняцьці с.-гаспадаркі на соцыялістычных асновах. Заслухана інформацыя т. Аляксандрава аб працы Горацкага раённага т-ва краязнаўства. Вызначаны ад ЦБК сталым прадстаўніком у экскурсійнае Бюро БССР т. Жураўскі.

## Што атрымала ЦБК і рэд. часоп. „Наш Край" у сакавіку—красавіку м-цах 1929 г.

Ад краязнаўчага гуртку пры Асіпавіцкай чыгуначнай школе 60 фольклёрных запісаў. Ад Ветрынскай школы 7-кі (Полаччына)—фольклерных запісаў 12.

Ад Капаткевіцкага раённ. т-ва краязнаўства 9 казак аб волатах.

Ад Ю. Шаблінскага (Клічаўскі р.)—прыпеўкі.

Ад У. Лепяшынскага (Халоп. р.), Ягора Соўкі (Хойніцкі р.), А. Даўгучыца (Старадароскі р.) і Бялькевіча (Старобін)—114 фолькл. матар'ялаў.

Ад т. Галышкова (Дрыбінскі р.) і Мачульскага (Барыс. р.) апісаньні прыродных фарбаў.

Ад т. Гурыновіча (Старобін) артыкул „Там, дзе знойдзены Старобінскія грыўні".

Ад П. Забелы і Т. Шацкага (Гомель) артыкул „Парк пры саўгасе" Барысаўшчына „Гомельскай акругі".

## Да вывучэньня Віцебшчыны.

Для невялікай групкі студэнцкай моладзі, якая паходзіць з Выцебшчыны і цікавіцца вывучэньнем яе, гэтымі днямі ў Менску быў прачытаны даклад навуковым сакратаром ЦБК т. Касьпяровічам М. І. кароткі агляд вывучэньня Віцебскага краю. Дакладчык паміж іншым спыніўся на наступных момантах.

Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ў Віцебшчыне шырока разгарнуўся краязнаўчы рух, у шэрагах якога ёсьць шмат сялян на вёсцы і рабочых у горадзе. У першую чаргу іх цікавяць тыя весткі, якія ўжо вядомы пра наш край. Да дасьледчай працы яны яшчэ не падрыхтаваны, ды і дасьледчая праца пачынаецца з азнаямленяня з раней здабытымі матар'яламі. Задавальненьню гэтага спрыяе тое, што Віцебшчына вывучана амаль больш, чым іншыя краі Беларусі. Але ня ўся ранейшая праца мае для нас аднолькавую вартасьць. Таму асабліва важна знаць яе характэрныя ўласьцівасьці.

Асабліва щмат прац аб гісторыі Віцебшчыны. Захаваліся нават летапісы Віцебску. Першым летапісцам Віцебскім, як вядома, быў Віцебскі мешчанін Міхась Панцырны. Гаўрыла Аверка, таксама віцеблянін, працягваў, пачатае Панцырным, укладаньне Віцебскага летапісу з слоў Івана Чарноўскага і яго дзеда. У процівалегласьць Панцырнаму і свайму сыну запісваў толькі здарэньні датычныя Віцебску, але, як відаць, таксама дапушчаў памылкі. Яго сын, Сьцяпан Аверка, скончыў перапісваньне і ўкладаньне віцебскага летапісу, дапоўніўшы яго з твораў польскіх і інш. гісторыкаў, часта называючы іх іменьні ў перакручаным відзе. У канцы летапісу зьмешчаны ім весткі з самых розных крыніц. Найбольш каштоўнаю часткаю яго працы зьяўляецца апошняя найноўшая, сьведкам здарэньняў якой быў ён сам. Яму-ж належыць таксама рукапіс—хроніка м. Віцебску, які захоўваецца ў Віленскай Публічнай Бібліотэцы. Летапіс-жа захоўваецца ў Ленінградзкай Публічнай Бібліотэцы і передрукаваны Сапуновым у першым томе „Витебской старины". Летапіс Панцырнага і яго наступнікаў зьяўляецца асноўнаю крыніцаю для мясцовага гісторыка, але патрабуе да сябе добрага крытычнага падыходу.

У канцы IX і ў пачатку XX стагодзьдзя зьбіраньнем розных докумэнтаў з гісторыі Віцебшчыны займаўся Аляксей Сапуноў, які радзіўся ва Ўсьвятах б. Вяліскага павету і скончыў Віцебскую гімназію і Пецярбурскі Унівэрсытэт. З 1873 г. да сьмерці ён жыў у Віцебску і займаўся вывучэньнем мясцовае гісторыі. За гэты час ён зьмясьціў у друку больш 70 сваіх прац, большасьць якіх належыць да Віцебшыны. Вядомымі яго зборні-

камі матар'ялаў аб Віцебшчыне зьяўляецца „Витебская старина". Карыстаючыся ёю, трэба памятаць, што Сапуноў лічыў беларусаў за самых чыстых рускіх людзей і падтрымліваў тагочасны палітычны лад. А гэта адбілася і на яго працах. Толькі ў 1924 годзе, перад сьмерцю, Сапуноў крыху зьмяніў свае погляды. Адначасна з Сапуновым працаваў і Стукаліч. Ён напісаў „Краткую записку о белорусском наречии", книгу „Белоруссия и Литва", нарысы пра Нікіфароўскага і інш. Стукаліч быў больш левы, сядзеў за гэта ў крэпасьці і ўвесь час быў пад наглядам паліцыі. Працы яго больш правільныя, але ў іх ёсьць народніцкія тэндэнцыі як даніна таму часу. У апошні час пытаньні гісторыі Віцебшчыны вывучаў Баляслаў Брэжга, які надрукаваў працы аб архіўнай справе на Віцебшчыне і аб Віцебскіх музэях. У апошняй ён занадта вылучыў ролю польскіх паноў ва ўтварэньні Віцебскіх дарэволюцыйных музэяў, яна была даволі малая. Цяпер гісторыю Віцебшчыны вывучае Мікола Багародзкі. Ён зрабіў даволі вялікую працу ў справе гістарычнага вывучэньня Віцебшчыны, популярызацыя гісторыі Віцебску і арганізацыі мясцовых краязнаўчых устаноў. Прымаў удзел у працах мясцовай вучонай архіўнай камісіі і мясцовай губэрскай камісіі па ахове помнікаў старасьветчыны, а таксама ў арганізацыі Віцебскага губэрскага бюро краязнаўства ў 1923 г. і Віцебскага акруговага т-ва краязнаўства ў 1924 годзе. Шмат сваіх артыкулаў па гісторыі Віцебшчыны друкаваў у „Заре Запада".

Але вялікае значэньне ў справе вывучэньня гісторыі краю мае ня толькі зьбіраньне документаў, але і рэчаў у музэях. З 1884 да 1911 году ў Віцебску зьбіраў музэй Вацлаў Федаровіч. У аснову свайго музэю ён паклаў зборы Бэргнэра, Плятара і Кусьцінскага. Больш за ўсё ён стараўся зьбіраць усё тое, што даводзіла-б аб тым, што Віцебшчына — польскі край. Таму колекцыі яго даволі аднабокія. Частка іх цяпер у мясцовым музэі. Значна больш разнастайным было зьбіраньне музэю Антонам Брадоўскім, якое ён пачаў з малых год. Свой вельмі багаты музэй ён перадаў дзяржаве. Вядомы ў Віцебску як актыўны антырэлігійнік. Друкаваў свае працы ў „Віцебшчыне" і ў Віцебскіх газэтах. Вялікую працу ў справе зарысоўваньня Віцебшчыны зрабіў Вечаслаў Саблікаў. У ліпні 1924 г. ён прымаў удзел у экспэдыцыі па Дзьвіне і зараз-жа пасьля павароту з яе, памёр. Пакінуў пасьля сябе надзвычайна ўдалыя зарысоўкі морэны Віцебскага краю.

Быт насяленьня Віцебшчыны вувучалі шмат якія этнографы. Але самы об'ектыўны і навуковы падыход да свае справы паказаў першы беларускі этнограф Віцебшчыны — Іван Івашын, вядомы беларускі поэта. Жывучы часамі на Віцебшчыне ў свайго бацькі, апрача свае поэтычнае дзейнасьці напісаў шэраг этнографічных прац, што зьмяшчаліся ў мясцовым пэрыодычным друку, як, напр., у „Витебских Губернских Ведомостях", за 1903, 1904 і 1905 г.г. былі надрукованы: „Похороны у белоруссов", „Кривые вечера", „Зеленые праздники у белоруссов", „Покров у белоруссов", „Чортов мост", Божье жито", „Святое озеро" і „Спасовка у белоруссов" пад псэўдонімам „Иже" або „И. И.", а ў газэце „Витебский голос" за 1906 г. „Пасхальные обычаи и обряды" пад сваім прозьвішчам.

У справе вывучэньня прыроды Віцебшчыны вялізная праца была выканана Уладзімерам Плюшчыкам-Плюшчэўскім. З 1890 г. ён жыў у Віцебску на дзяржаўнай службе і зьбіраў свае энтомолёгічныя колекцыі, трымаючы сувязь з Расійскім. Бэрлінскім і Францускім энтомолёгічным таварыствамі, запраўдным членам якіх ён быў. Асабліваю каштоўнасьць краю прадстаўляюць сабраныя ім 1640 экз. мясцовых жукоў і 855 экз. мясцовых матылькоў. Усяго-ж сабранай ім колекцыі, што зараз знаходзіцца ў Вэтінстытуце, ёсьць 52580 экз. жукоў, што належаць да 14667 відаў. Колекцыя апісана ім самім у „Віцебшчыне". І, дзе зьмешчана другая яго праца „Жукі—ворагі рыбацтва Віцебшчыны". Апрача іх Плюшчык выдаў у Віцебску некалькі брошур аб зьбіраньні матылькоў і жукоў і інш., а шмат матар'ялаў пакінуў у рукапісу. У 1916 г. ён організаваў у Віцебску энтомолёгічнае бюро, якое ў 1924 г. было ў складзе мясцовага т-ва краязнаўства і якім ён кіраваў да сьмерці. З 1924 г. ён быў загадчыкам энтомолёгічнага габінэту свайго імя ў Вэтінстытуце.

Але такія работнікі як Івашын да рэволюцыі былі вельмі рэдкай зьявай. Толькі Кастрычнікавая рэволюцыя дала магчымасьць беларускім сялянам і рабочым вольна вывучаць умовы свайго жыцьця, каб іх паляпшаць на сваю карысьць. Таму праца ўсіх дарэволюцыйных краязнаўцаў асабліва ў галіне гісторыі павінна быць праверана марксыцкім спосабам з прыцягненьнем новых матар'ялаў.

А ў галіне зьбіраньня розных краязнаўчых матар'ялаў могуць зрабіць якраз рабочыя і сяляне Віцебшчыны. Трэба, каб лік іх яшчэ больш павялічыўся ў шэрагах Віцебскага акруговага таварыства краязнаўства. Тады агульнымімі сіламі будуць вывучаны ўмовы жыцьця працоўных, без чаго іх цяжка палепшыць, як казаў т. Ленін.

Шкода, што з прычыны браку часу, дакладчык ня мог у сваім дакладзе даць нават поўны дэталёвы агляд працы аматараў-краязнаўцаў у справе вывучэньня імі Віцебшчыны, а паміж тым ён сам казаў, што трэба яшчэ азнаёміцца з вывучэньнем Віцебшчыны, установамі і організацыямі. Таму варта-б было, каб такая група аформілася організацыйна і заслухала шэраг падобных і іншых дакладаў, чым-бы дасканала падрыхтавала сябе да краязнаучай працы ў сваім краі, калі яна вернецца ў яго пасьля сканчэньня навукі.

## Музэй Асіпавіцкай чыгуначнай школы.

Краязнаўчы музэй пры Асіпавіцкай чыгуначнай школе заснаваўся ў канцы 1927-28 навучальнага году ў сакавіку м-цы. Заснавалі яго сябры краязнаўчага гуртку пад кіраўніцтвам настаўніка Алеся Немцава.

З пачатку організацыі музэю праца ішла павольным тэмпам з прычыны адсутнасьці сродкаў. Але-ж у 1928 г. аддзел асьветы Зах. чыгунак адпусьціў на організацыю музэю 60 рублёў. На гэтыя грошы быў закуплен неабходны матар'ял, як напрыклад: туш, шкло, цьвікі, фанэра, кардон і інш. рэчы. Гэта дало магчымасьць разгарнуць працу ў музэі. Праца вучняў у музэі выяўляецца ня толькі ў зборы экспонатаў — яны-ж самі робяць скрынкі для колекцый, паліцы, падстаўкі для гэрбарый і інш. рэчы, трацячы на гэта час пасьля школьных заняткаў.



Музэйны актыў:
Зьлева направа — Сідзяць 1) Ласіцкі, 2) Місяк, 3) Акановіч, 4) Вашчанка, 5) Корзун, 6) Аскірка. Стаяць: 1) Віткоўскі, 2) Шафраноўскі, 3) Федаровіч, 4) Сідарчук, 5) Ждановіч, 6) Крыцук.

Была абрана музэйная камісія з чатырох вучняў (з дзвюх дзяўчат і двух хлапцоў): Акановіч Г., Рэмень Н., Сідарчук В., Шафраноўскі Алесь. Члены камісіі займаюцца ў музэі ня толькі ў чарговыя часы заняткаў, але і ў пазачарговыя. Абавязак музэйнай камсіі клапаціцца аб парадку ў музэі і здабычы экспонатаў для яго. Таму яна ставіць у абавязак кожнаму краязнаўцу здабываць рэчы ў музэй. Неабходна заўважыць, што рэчы для музэю іншы раз дастаўляюцца староньнімі асобамі (Рыдзеўскі, Мазоўка, Шышкевіч і Трыбушэўскі). Ёсьць цэлы шэраг вучняў, працаваўшых у гуртку і скончыўшых школу, якія не забываюць музэю і прыносяць ці перасылаюць іншы раз узоры, каменьні і г. д. (Альховік, Гміра, Ляйкоўскі).

Усе экспонаты музэю можна падзяліць на тры аддзелы: прыродна-геаграфічны, бытавы і культурна-гістарычны. У пр.-геог. аддзеле вялікае месца займае наглядная карта Беларусі, намалёваная настаўнікам Алесем Немцавым. На гэтай карце наглядна паказаны выгляд мясцовасьці (лес, сенажаць, балота і г. д.), чым займаецца насельніцтва, якая прамысловасьць пашырана і г. д. Карта складзена памерам у адзін квадратовы сажань.

Вельмі каштоўным экспонатам зьяўляецца рэльефная карта часткі Бабруйскай акругі, зробленая сябрамі гуртку з кардону і афарбованая алейнай фарбай. Складзена яна паводле ізагіпсаў Жылінскага. Над ёй працавалі пяць вучняў у працягу трох тыдняў. Зроблены дзьве глебавыя карты Асіп. раёну. ёсьць некалькі схэматычных карт раёну і Бабруйскай акругі, плян мястэчка Асіпавічы. Ёсьць шэраг крывых — тэмпэратуры за некалькі год (згодна даных Асіпавіцкай мэтстанцыі), росту ліку хат у Асіпавічах з 1849 г. па 1926 г. дыяграма ападкаў за 3 гады, ёсьць узоры гліны з берагоў Сьвіслачы, (здабыта вучнямі ў час эскурсій) і ўзоры Дэвонскага вапняку з адбіткамі ракавін, узятыя вучнямі-экскурсантамі ў уроч. „Мачынск" і ля в. Стаішча Дзераўцоўскага сельсавету. Побач з імі ляжыць колекцыя мінэраляў нашага раёну, узятых з Пратасэвіцкай гары. З расьлін, якія сабраны па раёне, складзены гэрбары; праца з ім яшчэ ня скончана. Ёсьць некалькі жывёлін (вуж, гадзюка) у фармаліне. Тутака-ж на вакне ляжыць „шэршавень" (гняздо шэршня), узята з Дзерайцоўскай школы. З другога аддзелу мы маём шэраг узораў з тканін, пры гэтым некаторыя з іх намаляваны на паперы, а іншыя ў натуры (хвартух сялянскі, каўнер кашулі, канец ручніка і інш.). Селянін в. Брыцаловічы Сьвіслацкага раёну, Янка Баразна перадаў у музэй „коўганку", (для перасыпкі мукі), зробленую з цэлага кавалка дрэва. Ёсьць модэль плуга, бараны, маслабойкі і ткацкага станка, колекцыя вырабу лёну і розных гатункаў скуры мясцовага і менскага вырабу. Пры музэї захоўваецца шмат плянаў вёсак, сядзіб і хат сялянскіх, зробленых у час экскурсій. Тутака-ж хаваюцца і матар'ялы апісаньняў кірмашоў. Ёсьць дзьве модэлі пастак.

У аддзеле культурна-гістарычным ёсьць некалькі каменных сякер і скрабкоў, знойдзейных ці перададзеных з Ясеньскага сельсавету, з Жужлянскага гарадзішча, з вусьця р. Сіняй; 2 модэлі гарадзішч — Зборскага і Жужлянскага, зробленых з гліны і афарбаваных алейнай фарбай, да іх далучаны пляны і разрэзы гарадзішч. За час працы гуртку сабрана багата грошай (328 мэталёвых і звыш 1000 папяровых) і паштовых марак з

розных краін і дзяржаў (каля 1000); мэталёвыя грошы зьмешчаны ў 2-х скрынках; для паштовых марак і папяровых грошай робяцца альбомы.

Улетку 1928 г. ў музэй зьмясьцілі каменны крыж, прывезены з-пад вёскі Пабокавічы Дзераўцоўскага сельсавету. На ім высечаны літары. Увесь Асіпавіцкі раён прадстаўлены ў музэі фото-здымкамі, якіх налічваецца 140 штук, яны зьмешчаны на сьценцы ў некалькі радоў. Ніжні рад паказвае нам тыя разбурэньні, якія зрабілі белапалякі па Слуцкай ветцы ў Асіпавічах у час адыходу. Далей ідуць здымкі мястэчка Асіпавічы 1912-га году. Ёсьць цэлы шэраг здымкаў, якія ілюструюць прыгожасьць прыроды раёну асабліва р. Сьвіслачы; ёсьць тыпы насельніцтва, будынкаў, сяліб; зафіксавана гэтак сама сучаснае мястэчка Асіпавічы і некаторыя праявы, быту прыкладам: піонэрскія лягэры, будова нардому і г. д. Засьняты і гураган у 1927 г.; паказана ў здымках і праца гуртку.



„Коўганка“ (для перасыпкі мукі) перадаў селянін в. Брыцалавічы Сьвіслацкага р. Янка Баразна.

Пры музэі ёсьць інвэнтарная кніга і рэгістрацыйны сшытак для асоб, наведуючых музэй. За час існаваньня музэю яго наведалі: Лапіцкая школа, местачковая сямігодка, Замоская школа, інструктар Ц. Б. К. Жураўскі, навуковы сакратар Ц. Б. Касьпяровіч; былі настаўнікі з Віцебску, Бабруйску і інш. Але музэй мала популярызаваны сярод працоўных Асіпавіч. У далейшым музэйная камісія мае на ўвазе папаўненьне музэю экспонатамі, уцягненьне ў працу музэю большага ліку вучняў, популярызацыю яго сярод насельніцтва як мястэчка, гэтак і раёну. Ён дапамагае школе і настаўнікам у іх працы. Складзен і вывешаны ў школе сьпіс экспонатаў, якімі могуць карыстацца настаўнікі ў час прапрацоўкі комплексных тэм, асабліва 3-іх і 4-ых груп, прыкладам: гэрбары, рэльефная карта, пляны, каменныя сякеры, модэлі гарадзішч, колекцыя мінэраляў, карты прамысловасьці, глебы і інш. Разгортваньню працы музэю перашкаджае адсутнасьць сродкаў.

Г. Акановіч, Н. Рэмень.
А. Шафранеўскі В. Сідарчук.

## Яўрэйская Краязнаўчая Сэкцыя пры ЦБК.

У студзені м-цы 1929 г. член прэзыдыуму ЦБК т. Аляксандраў Г. С. наведаў Бабруйск і Гомель. У Бабруйску організавана сетка мясцовых корэспондэнтаў акругі для сувязі з цэнтрам. У Гомелі адбыўся сход яўрэйскіх настаўнікаў, на якім разглядалася пытаньне аб мэтодах краязнаўчай працы сярод яўрэяў. Яўрэйская сэкцыя Гомельскага акр. Т-ва Краязнаўства вызначыла шэраг заданьняў і вылучыла адпаведныя камісіі для вывучэньня гісторыі яўрэйскага насяленьня гор. Гомеля, гісторыі яўрэйскай асьветы ў Гомелі, гісторыі Гомельскага замку (т. т. Тэйтэльбаўм, Фарбер, Марголін і інш.). Таксама організаваўся (пад кіраўніцтвам т. Берана) гурток зьбіральнікаў народнай творчасьці. Вылучаны для гэтага корэспондэнты.

У Бабруйску і Гомелі т. Аляксандраў азнаёміўся з некаторымі матар'яламі з мясцовай гісторыі, якія ёсьць у акруговых архівах. Сярод матар'ялаў ёсьць рэвізскія казкі першай паловы XIX ст., матар'ялы, якія характарызуюць адносіны між яўрэямі і кн. Паскевічам, „Люстрацыя“ насяленьня Рэчыцкага павету за 1789 г. і інш. Частка гэтых матар'ялаў цяпер вывучаецца яўсэктарам БАН.

Т. Аляксандравым організавана яўрэйская сэкцыя пры Горацкім раённым Т-ве Краязнаўства. У склад сэкцыі ўвайшлі студэнты С. Г. Акадэміі і выкладчыкі мясцовай яўрэйскай школы. Вызначаны формы працы па дасьледваньні народнай творчасьці, па вывучэньні яўрэйскіх земляробчых колёній і колектываў. У Горках т. Аляксандраў азнаёміўся і цяпер распрацоўвае мятар'ял мясцовага пінкоса, аднаго з самых цікавых помнікаў XVII—XVIII ст. (паведамленьне аб гэтым будзе зьмешчана ў чарговым № „Нашага Краю“).

У лютым месяцы г. г. трагічна памёр старшыня яўрэйскай лінгвістычнай камісіі БАН, доцэнт БДУ т. М. Б. Вэйнгер. Нябожчык у сваёй навукова-дасьледчай працы быў адным з першых, якія карысталіся краязнаўчым мэтодам. Для выкананьня задуманага ім пляну выданьня яўрэйскага дыялектолёгічнага атласу была створана шырокая сетка корэспондэнтаў па ўсім СССР (да 1000 асоб). У мэтах зьбіраньня лінгвістычных матар'ялаў ім былі надрукаваны дзьве інструкцыйна-мэтодычныя брошуры на яўрэйскай мове: „Дасьледуйце яўрэйскія дыялекты“ і „Зьбірайце матар'ялы для яўрэйскага акадэмічнага слоўніка“.

Яўрэйская лінгвістычная камісія БАН вядзе працу па рассылцы анкет для дыялектолёгічнага атласу. Сетка корэспондэнтаў па БССР цяпер даходзіць да 375 асоб.

У мэтах ажыўленьня працы на мясцох яўсэкцыя рыхтуе адозву аб неабходнасьці энэргічнага зьбіраньня матар'ялаў з гісторыі, экономікі, дыялектолёгіі і фольклёру яўрэяў БССР. Да адозвы будзе прыкладзены плян працы яўсэкцый на мясцох і анкета гіста-

рычнай камісіі БАН аб мясцовых пінкосах. У бліжэйшы час гэтыя матар'ялы будуць разасланы па мясцох.

## Яўрэйскі этнографічны вечар у Менску.

11-га красавіка, у клюбе Карла Маркса, адбыўся першы яўрэйскі этнографічны вечар, організаваны Таварыствам краязнаўства пры Б. Д. У.

Старшыня т-ва, рэктар БДУ акадэмік В. І. Пічэта, адчыніў вечар прамоваю, у якой паказаў на гістарычныя і культурныя ўзаемныя ўплывы беларускай і яўрэйскай нацыянальнасьцяй. Кастрычнікавая рэволюцыя выклікала да жыцьця культурную самадзеяльнасьць мас; аднэй з яе вытокаў зьяўляецца шырокі краязнаўчы рух. Апошні павінен насіць шырокі характар і адлюстроўваць культуру працоўных усіх нацыянальнасьцяй БССР.

Кіраўнік яўрэйскай сэкцыі т-ва, доцэнт Г. С. Аляксандраў, адзначыў, яўрэйская этнографія адмяжоўвалася да гэтага часу галоўным чынам зьбіраньнем і апісваньнем матар'ялаў народнай творчасьці; марксызм павінен паставіць яўрэйскую этнографію на шлях сынтэзу. Неабходна ўсё болей выяўляць моманты савецкай культуры ў процівагу рэлігійнай; трэба таксама спыняцца на бягучым фольклёры, які адлюстроўвае сучаснасьць.

Мастацкая частка вечару адчынілася выступленьнем яўрэйскага дзяржаўнага хору пад кіраўніцтвам т. С. Палонскага. Нумары былі наогул удала падабраны і добра выканаы. Удзельнік экспэдыцыі ў Мазыршчыну т. Х. Каган прачытаў яўрэйскую народную казку, запісаную ім у мястэчку Юрэвічах. Паасобныя песьні з сучаснага яўрэйскага фольклёру (піонэры, жанаддзел) прадэклямаваў т. В. Шац. Студэнты музтэхнікуму выканалі яўрэйскія танцы.

Аўдыторыя была перапоўнена, што сьведчыць аб вялікай зацікаўленасьці да этнографічных вечароў. Трэба пажадаць, каб такія вечары ладзілася часта і ня толькі ў Менску, але і ў іншых гарадох і мястэчках БССР.

І к с.

## Стан краязнаўчай працы на Рагачэўшчыне.

*(Справаздача на Акруговай Краязнаўчай Нарадзе ў гор. Бабруйску 5 і 6 крас. 1929 г).*

Краязнаўчая праца на Рагачэўшчыне прыняла свае пэўныя організацыйныя формы яшчэ ў 1925 г. З таго году праца вядзецца нясупынна і ў сучасны момант характарызуецца наступным. У склад членаў уваходзіць 134 ч., з іх настаўнікаў 40 асоб, вучняў і ст-таў 90 ч., працаўнікоў іншых саюзаў толькі 4 чал. У складзе праўленьня 11 асоб, з якіх членаў і кандыдатаў КПБ—3, беларусаў 9, яўрэяў 1, інш. 1; усе або сучасныя (8 ас.) або будучыя настаўнікі (ст-ты Пэдтэхнікуму). У праўленьні, як відаць, зусім не прадстаўлены іншыя саюзы, няма і сяброў КСМ, што дрэнна адбівалася на працы, не даючы магчымасьці ў дастатковай меры выкарыстаць найбольш актыўную частку нашае моладзі і профсаюзаў.

Сродкі т-ва складаюцца з членскіх складак, якія ў колькасьці 5 кап. у месяц спагаяюцца даволі не акуратна, асабліва з вясковых сяброў т-ва; у сучасны момант па кніжцы касы Ашчэднасьці ёсьць каля 7 руб. з савецкіх і профэсыйных організацый толькі інспэктура нарасьветы заўсёды ідзе насустрэчу, дапамагаючы, усім, чым можа. Ёсьць цесная сувязь з школьнымі краязнаўчымі гурткамі Рагачэву; даволі добрая сувязь з вясковым настаўніцтвам (праз конфэрэнцыі) з ЦБК; да апошняга чясу слабая сувязь з акруговым праўленьнем т-ва, што тлумачыцца часовым заняпадам у працы акр. праўленьня.

Шмат увагі зьвярнула Праўленьне т-ва на популярызацыю і ажыўленьне краязнаўчай працы, асабліва сярод вясковага настаўніцтва і працаўнікоў іншых саюзаў; ужывалі для гэтай мэты наступныя мерапрыемствы: ставіліся інформацыйныя і інструкцыйныя даклады, паведамленьні і інш. на настаўніцкіх конфэрэнцыях, пасяджэньнях прэзыдыуму РВК, Рай-проф-бюро, праўленьнях асобных саюзаў; пісаліся лісты да розных дасьледчых гаспадарчых, культурных установ Рагачэўшчыны; на курсах піонэр-працаўнікоў і акруговых настаўніцкіх чыталіся лекцыі па тэорыі і практыцы краязнаўчай працы і шмат інш. Вынікі, аднак ня зусім здавальняючыя, праўда, ёсьць невялічкі актыў двох, трох пунктах на вёсцы; некалькі школ вядуць мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні, утварыліся гурткі краязнаўства у гарадзкіх сямігодках (магчыма, у апошнім значную ролю адыгралі і адпаведныя загады інспэктуры), прыняты меры да організацыі агульна гарадзкога школьна-краязнаўчага музэю і амаль што ўсё. Прыходзіцца, на вялікі жаль, констатаваць, што ў адносінах да краязнаўчай працы багата ёсьць у нас яшчэ „цьвердалобых".

Для лепшага вядзеньня краязнаўчай працы ўсе члены т-ва разьбіліся на сэкцыі: грамдзка-экономічную, культурна-гістарычную і прыродна-географічную, на чале кожнай стаіць член праўленьня т-ва. Праца сэкцыі характарызуецца наступным: І. Галоўнымі момантамі працы грамадзка-экономічнай сэкцыі былі: вывучэньне гісторыі Рагачэўшчыны, рэволюцыйнага руху у ёй, мінулай і сучаснай экономікі яе і ўтварэньня бібліографіі. Вывучэньне гісторыі ўжо значна разгарнулася: выкарыстаны цэлы шэраг літаратурных крыніц „рэвізкія сказкі", сямейныя архівы і інш; знойдзены весткі, якія адносяцца аж да другой паловы XV ст. Асаблівай цікавасьцю зьяўляюцца даныя аб прыгоне і становішча сялян таго часу. Разгорт-

ваецца і вывучэньне рэв. руху; здабыт даволі багаты матар'ял аб паўстаньні 1863 г. на Рагачэўшчыне, захаваліся прозьвішчы некаторых удзельнікаў яго. Вывучэньне экономікі вядзецца па даволі багатых літаратурных крыніцах, справаздачах РВК і ін., з пачатку 1929 г. пачалося зьбіраньне бібліографіі Рагачэўшчыны. На жаль, праца гэтая вядзецца толькі вельмі вузкім колам членаў т-ва, галоўным чынам, кіраўнікам сэкцыі т. Скробка. У апошнія часы пачынае ўцягвацца ў яе і ўвесь колектыў грамадазнаўцаў Рагачэву.

II. Культурна-гістарычная сэкцыя пры шчырым удзеле студэнтаў Пэдтэхнікуму правяла значную працу па вывучэньні жывой мовы Рагачэўшчыны, яе дыялектаў, сабраны вялікі матар'ял па фольклёры. Цяпер праца концэнтруецца каля складаньня слоўніка мясцовай мовы (ужо сабрана каля 650 слоў), далейшага вывучэньня дыялектаў Рагачэўшчыны. Праца носіць больш-менш масавы характар, хаця і тут уцягнуць масавае настаўніцтва амаль не ўдалося, і галоўнымі памоцнікамі ў кіраўніка сэкцыі т. Харэвіча заяўляюцца студэнты.

III. Праца прыродна-географічнай сэкцыі выявілася ў наступным. Сабран гэрбары мясцовай флёры (каля 300 відаў), паложан пачатак утварэньню дэндролёгічнага пітомніка ў в. Вікоў (перасаджана каля 40 відаў хмызьняку і дрэў; утворан пры Пэдтэхнікуме ботанічны сад, куды за мінулы год была перасаджана каля 200 відаў расьлін Рагачэўшчыны, але, на жаль увосень ён быў значна папсаван сьвіньнямі і цяпер будзе перанесен у другое больш бясьпечнае месца. Усе гэтыя працы былі праведзены наст. Вялішчанскім пры дапамозе выключна адных студэнтаў. Другі год вядуцца сталыя назіраньні за птушкамі Рагачэўшчыны, укладаецца іх сьпіс і характарыстыка членам праўленьня Рудкоўскім. Член праўленьня т. Крыс другі год вядзе назіраньне за рэжымам вод Дняпра, па матар'ялах Ленінградзкага Гідролёгічнага Бюро; член праўленьня т. Федчанка таксама другі год вывучае лекавыя травы Рагачэўскага раёну і спосабы іх ужываньня народнай мэдыцынай. Гэтым летам апроч працягу вышэйадзначаных прац сэкцыя думае пачаць спробу акліматызацыі і разьвядзеньня морвы (Morus alba) вадзяного гарэха (Trapa natans) ваточніка (Asclepias) і некаторых с.-г. культур; мяркуецца правесьці сталае вывучэньне шкодных расьлін ярыны і шкоднікаў саду. Для гэтых прац праўленьне думае выкарыстаць работнікаў Турскай дасьледчай станцыі. Мяркуецца распачаць сталае вывучэньне горных парод і карысных выкапняў Рагачэўшчыны.

Другі год пад кіраўніцтвам некаторых членаў сэкцыі організуецца ў Рагачэве „Дзень птушак". Сёлета адбыўся 9-IV.

Досыць значную працу правяло праўленьне ў організацыі і дапамозе школьнаму краязнаўству; разаслан цэлы шэраг інструкцый аб правядзеньні фэнолёго-мэтэоролёгічных назіраньняў, вывучэньне экономікі гаспадаркі сялян, карысных выкапняў і. г. д. Гэты матар'ял павінен лёгчы ў аснову зборніку „Наш раён". На жаль, да гэтага часу праўленьне зусім не атрымала вестак ад настаўніцтва, цяпер мяркуецца напісаць мэтадычны ліст аб летняй краязнаўчай працы вясковых вучняў. II-ая сямігодка займаецца справай вывучэньня дарог Рагачэўшчыны, складаньнем карт іх; вядзецца кампанія па популярызацыі ідэй аховы прыроды; зьбіраюцца матар'ялы для географічнага слоўніка; зьбіраецца і фольклёрны матар'ял. Гурток яўрэйскай сямігодкі зьбірае матар'ял па яўрэйскім фольклёры, вывучае стан саматужніцтва ў Рагачэве, удзел яўрэяў у рэв. руху Рагачэўшчыны і інш. Значную працу вядзе Рагачэўскі Пэдтэхнікум. Большай часткай сваіх дасягненьняў краязнаўства на Рагачэўшчыне абавязана гуртку Рагачэўскага Пэдтэхнікума (гл. „Наш Край" 1929 г.) Да недахопаў у працы праўленьня трэба аднесьці: 1) Надзвычайна малы актыў краязнаўцаў, 2) Няўменьне зацікавіць краязнаўчай справай РВК., проф-організацый і шырокія колы настаўніцтва, 3) Малое ўцягненьне ў краязнаўчую працу працаўнікоў іншых саюзаў, 4) Адсутнасьць мерапрыемстваў з боку праўленьня да ўцягненьня ў працу рабочых, перадавых сялян членаў КСМ і 5) Адсутнасьць рэгулярнасьці ў пасяд. праўленьня.

Спадзяемся, што ў бліжэйшым будучым гэтыя недахопы будуць зьнішчаны.

С. Вялішчанскі.

## Дзень Птушак у Рагачэве.

Па ініцыятыве рагачэўскага праўленьня т-ва краязнаўства 9 красавіка быў праведзены ў Рагачэве „Дзень Птушак". Пасьля дасканалай падрыхтоўкі па школах былі напярэдадні праведзены клюбныя дні, прысьвечаныя ахове птушак, зроблены шпакоўніцы. На мітынг сабралася звыш 600 вучняў, студэнтаў пэдтэхнікуму і курсантаў пэдкурсаў з лёзунгамі, з шпакоўніцамі (больш 150 штук). Пасьля кароткага мітынгу ўсе юныя прыхільнікі птушак на чале з оркестрам музыкі N кав. палка прайшлі па галоўнай вуліцы гораду, прыцягнуўшы ўвагу многіх грамадзян. Пасьля дэмонстрацыі школьнікі разышліся па зараней вызначаных раёнах гораду разьвешваць свае шпакоўніцы.

С. Вялішчанскі.

## Разьвядзеньне шаўкапрадаў на Мазыршчыне

Ужо на працягу некалькіх гадоў у вузкім коле спэцыялістых і аматараў - краязнаўцаў абгаварвалася пытаньне аб разьвядзеньні шаўкавічных чарвякоў на Беларусі. У прыватнасьці ў Мазыршчыне гэта пытаньне было зусім актуальна з прычын наяўнасьці вялікага ліку морвы. Ёсьць весткі аб тым, што яшчэ да вайны ў Нароўлі было быццам цэ-

лае прадпрыемства па разьвядзеньні шаўкапрадаў. У 1928 годзе была зроблена спроба разьвядзеньня шаўкапрадаў.

З ліпня доцэнт БДУ—тав. *Зьбіткоўскі* прыслаў у Мазырскае Акруговае Т-ва Краязнаўства партыю (каля 500 шт.) чарвей-шаўкапрадаў пароды „Асколі“ для выкармленьня.

У Т-ве Краязнаўства была наладжана выкармленьне прысланых чарвей. Чэрві былі раскладзены ў пакоі на плошчы 1,2×3,5 мэтру і ім давалі спачатку ліст морвы па 3—4 разы ў дзень, а потым па 6—7 разоў. Расьлі шаўкапрады даволі шпарка і з 28-га ліпня пачалі абарочвацца ў коканы; (Рост чарвей дасягаў да 0,8-1 дэцымэтра); не абярнуліся толькі 4 шаўкапрады і загінулі ў часе выкармленьня 5 чарвякоў. Абарочваліся шаўкапрады ў коканы бяз каконьнікаў, а проста у тым лаўжы, які ўтварыўся ад галінак морвы.

Процэс абварочваньня ў коканы адбыўся даволі дружна; розьніца паміж абарочваньнем першай і апошняй партыяй складала 6 дзён. Толькі 7 шаўкапрадаў яшчэ дзён 8—9 карміліся, пасьля чаго абярнуліся ў коканы (коканы з іх вышлі няважныя). З ліку атрыманых коканаў (каля 500) было пакінута для вывадкі матылькоў 228 штук, а рэшта праз 11 дзён былі заморены.

Праз 13-14 дзён з коканаў пачалі выходзіць матылькі і гэта працягвалася да 31-га жніўня; найбольш вышла матылькоў праз 20 дзён пасля таго, як абярнулася ў коканы апошняя партыя чарвей; ня вышлі матылі толькі з 9-ці коканаў.

Каб атрымаць яйцы шаўкапрадаў для гадоўлі іх у наступным годзе, 68 матылёў папарна ўсадзілі ў паперавыя мяшочкі, дзе самкі і зрабілі кладку яец. Адна самка рабіла вялізарную кладку яец—да 200—250 шт.

Чэрві перад наступленьнем патрэбнасьці абмотвацца павуцінаю рабіліся неспакойнымі, а раней яны былі спакойнымі, далей месца, дзе былі раскладзены лісты морвы, не адпаўзалі. Матылі не лятали; самкі былі зусім мала рухавыя, самцы-ж на працягу двух-трох дзён вельмі білі крыльцамі, але таксама не лятали. Цікава адзначыць, што чым меншых памераў былі матылі, тым яны былі больш неспакойнымі і больш актыўнымі.

Коканы вышлі двух відаў: круглыя, падобныя формай трохі да птушыных яец, большыя з іх памерам да 2,7 см.×1,8 см. і прадаўгаватыя памерам—большыя 3,5 см.×1,3 см. і сярэднія—2,3 см.×1,3 см. і 2,5 см.×1,6 см. Частка коканаў вышла белага колеру, частка крышку жоўтага.

Праведзеныя спробы па разьвядзеньні шаўкавічных чарвей маюць акрамя чыста-навуковага інтарэсу і вялікае значэньне для экономікі Палесься. У будучым годзе спробы будуць працягнуты і тады можна будзе дасканала высьветліць пытаньне аб разьвядзеньні шаўкавічных чарвей на Мазыршчыне.

М. Гохфэльд.

## Вывучэньне валатовак на Чэрвеншчыне.

Мясцовымі краязнаўцамі дасьледваны валатоўкі ў Калодзіскім сельсавеце Чэрвенскага раёну. Каля хутара Стара-Прудзкай Смалярні гэтага сельсавету, кругом поля гаспадара Батуры, знаходзіцца звыш 35 курганоў, пад лесам. Далей, у лесе, курганы спатыкаюцца значнымі групамі аж да Калодзізь. Старымі людзьмі гэтыя курганы завуцца валатоўкамі; моладзь часта называе іх капцамі або курганамі.

З гэтымі валатоўкамі зьвязаны цікавы звычай. Калі мясцовыя сяляне, асабліва тыя, якія любяць называць сябе шляхтай, на Радаўніцу ідуць на могілкі, каб памянуць сваякоў-нябожчыкаў, яны абавязкова заходзяць на адну з валатовак, разьбіваюць пятку прыгатаванага раней яйца, ставяць апошняе ў пясок і пасьля гэтага ўжо ідуць на могілкі. Бывае часта, што на валатоўцы закусваюць і тады разам з яйцом пакідаюцца ня толькі аб'едкі, але і пэўная колькасьць нечапанай стравы: вяндліны, сыру і д. т. п. Значэньне гэтага звычаю тлумачаць тым, што „так рабілася спрадвеку“. У апошнія гады звычай гэты захоўваецца толькі старымі.

Старыя-ж людзі расказваюць, што даўней, яшчэ ў часы прыгону і раней, на Радаўніцу на валатоўкі прыходзіла моладзь і з песьнямі вадзіла карагоды, раней прыбраўшы валатоўкі і аздобіўшы іх зелянінай. Прыбіраючы пелі песьню: „А, валатка, валатка, чаго кругом цябе гадка?“—частка якой краязнаўцамі запісана. Адначасна запісаны наступныя прыказкі, якія прышлося чуць ад сялян з розных мясцовасьцяй на Стара-Прудзкім млыне: а) З волатам ня з молатам—ня ўхваціш і не замахнеш (в. Мяжніца), б) Стаіць як волат (ст. Пруд), в) Разбойны, як волат (Дамавіцк), г) здароў і молад, а памалоў-бы табе косьці волат (Ст.-Прудзкая Смалярня), д) Ня ўсякі валатун волат (Дамавіцк), е) Каб-ты скамянеў, як той волат (Мяжніца), э) Каб ня быў маленькі ды слабенькі, дык рыхт—волат (Дамавіцк), ё) Можна й сьмялей—папоўна не валатоўна (Ст. Пруд), ж) Во, голад—усё роўна, як пабыў волат (Мяжніца) і інш. Запісана і паданьне аб тым, што волат награбіў шмат золата і схаваў у крыніцы паміж валатовак у гэтым лесе.

Занатаваны і расказ аб тым, як прыязджалі сюды нейкія людзі і раскапвалі валатоўкі, але нічога, апрача чалавечых касьцей не знайшлі.

Усе матар'ялы пасьля апрацоўкі будуць надасланы Акадэміі Навук.

*Іван Касьпяровіч.*

## Аб умовах краязнаўчай працы.

*(Ліст у рэдакцыю).*

У час. „Наш Край“ за 1926 г. № 8—9 мною надрукаван артыкул „Сьпіс птушак у ваколіцах Горак“. На жаль, у гэтым артыкуле я не падкрэсьліў, што пры азначэньні птушак я карыстаўся выключна наглядань-нямі над імі ў вольных умовах прыроды і не вывучаў матар'ялы ў ляборатарыі Заолёгічнага габінэту. Такі мэтод простых зрокавых нагляданьняў ці нагляданьняў пры дапамозе біноклю ёсьць звычайны мэтод масавага краязнаўцы. Апрача гэтага, для высьвятленьня некаторых вынікаў сваіх нагляданьняў я карыстаўся кнігай, якую павінен мець краязнаўца „Птицы Европы“ Халадкоўскага і Сіланьцева. У гэтай кнізе мы чытаем: „Біолёгічны напрамак у працы аматараў-орнітолёгаў—найбольш пажаданы напрамак, які выклікаецца патрэбамі навукі і практыкі, які даступны паўсюды кожнаму і не вымагае асаблівых затрат. Стрэльба, бінокль, ягдташ, блёкнот і аловак—вось і ўсё, што трэба наглядальніку“ (стар. LXXXVII). Такім чынам, працуючы, як краязнаўца, я не забіваў птушак, што лічу неабходным падкрэсьліць. У выніку нагляданьняў (а не азначэньняў трупаў ці чучал) я склаў сьпіс з 79 відаў Горацкай тэрыторыі і сьпіс закончыў такімі заўвагамі: „Адгэтуль ясна, які багаты і каштоўны матар'ял можна мець для высьвятленьня авіафаўны Беларусі, калі ўсе краязнаўчыя організацыі Рэспублікі зьвернуць увагу на нашыя мясцовыя птушкі“.

Тады я думаў так. І цяпер думаю, што калі актыўнасьць краязнаўцаў павялічыцца ў гэтым напрамку—у выніку мы будзем мець багаты і каштоўны матар'ял для высьвятленьня авіёфаўны Беларусі.

Каб лепш высьветліць тыя ўмовы, у якіх працуюць краязнаўцы, я павінен далей падкрэсьліць, што на мой артыкул, аб якім я вышэй гаварыў, зьвярнуў увагу проф. А. В. Фядзюшын. У „Працах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту“ за 1928 г. № 17-18 ён надрукаваў артыкул „Материалы к изучению птиц восточной Белоруссии“. Артыкул пачынаецца словамі: „Постепенно накапливающиеся сведения относительно белорусской орнитофауны в результате последних исследований в пределах восточных округов, как моих, так и др. авторов, заставляют опубликовать их, так как, с одной стороны, относительно этой части республики до сего времени по птицам почти ничего не было напечатано [1] Кроме небольшой заметки В. Бианки „Птицы наблюдавшиеся в 1914 году в Оршанском уезде Могилевской губ.“ Орнитологический Вестник 1914 г. № 4], а с другой, появившийся в „Нашем Крае“ № 8-9, 1926 „Сьпіс птушак, якіх я назіраў у ваколіцах Горак“ проф. П. Соловьева, содержит ряд видов, заведомо не встречающихся в указанном месте и внесенных автором явно по недоразумению [2) Например, Sitta caesia (!), Sitta uralensis и др.] (очевидно на основании неосторожного компилирования старых сводок общего характера) и, вследствие чего список является не „багатым і каштоўным матар'ялам... дзеля высьвятленьня авіёфаўны Беларусі“, какого мнения о нем сам автор, а, наоборот, может служить поводом к заблуждению лиц, занимающихся орнитологическими сводками на основании литературных данных“ (стр. 251).

На гэтых заўвагах проф. А. В. Фядзюшына неабходна спыніцца. Як вышэй было падкрэсьлена, мае азначэньні датыкаліся не колекцый, а зроблены шляхам біолёгічнага нагляданьня вонкавага выгляду птушак і іх сьпеваў, што і паказана ў загалоўку майго артыкулу. Гэта—дапушчальны мэтод у навуковай працы. Праўда, голыя фаўністычныя і флёрыстычныя сьпісы, атрыманыя нават шляхам строга навуковага аналізу, не прызнаюцца за строга навуковыя. Такі погляд праводзіцца ў кіруючых матар'ялах па кваліфікацыі навуковых працаўнікоў. З гэтае прычыны я і не глядзеў на свой сьпіс, як на строга навуковыя вывады. Як краязнаўца, карыстаючыся памянёным падручнікам Сіланьцева і Халадкоўскага, я бачыў, што сярод глінянак („поползень“), якія ў нас сустракаюцца, можна адрозьніць дзьве формы—адну з чыста-белым ніжнім бокам (Sitta uralensis), другую з адзнакамі, якія бліжэй падыходзяць да caesia, чымся да europaea. Калі зьвярнуцца да проф. А. В. Фядзюшына, дык у яго сьпісу мы знаходзім дзьве формы: Sitta europaea europaea L. і Sitta europaea homeyeri Hart (стр. 283). Зразумела, пры дапамозе кнігі Сіланьцева і Халадкоўскага, абмяжоўваючыся адным разглядам птушак праз бінокль, краязнаўца ня можа правесьці дасканалага дыягнозу гэтых форм. Гэта бясспрэчна. Між тым сам проф. А. В. Фядзюшын у другой сваёй працы „О птицах Витебщины“ (1926 г.) „вид заведомо не встречающийся у нас“, г. зн. Sitta uralensis Licht. ставіць у сьпіс, пра які кажа наступнае: „Необходимо добавить список видов *не найденных*, но на основании их общего географического распространения или направления их пролетных путей, а также случаев нахождения этих видов более или менее нормально в областях смежных (Псков., Тверск., Смоленск., Минская и б. Прибалт. губ.) *вероятных* для Витебщины“. Я ня думаю, што тыя географічныя межы для птушак, якія вызначае ім проф. А. В. Фядзюшын, запраўды і заўсёды на пэўна акрэсьленай тэрыторыі захоўваюцца і птушкі не парушаюць іх.

Так, у сваёй працы „О птицах Витебщины“, якая была вынікам экспэдыцыі 1924 г., пра белабрывага дразда (Turdus iliacus L.) проф. А. В. Фядзюшын піша, што „этот вид идя с севера в своем постепенном расселении на юг, дошел уже до сев. пределов Борисовского округа и теперь только немного

не достигает передовыми гнездящимися парами широты 54°". Але, як паведамляе Сяржанін („Наш Край" 1928 № 10) гэты дрозд знойдзен дальш на поўдзень за 54°, у м. Любані Бабруйскай акругі. Такім чынам, тыя нормы, якія проф. А. В. Фядзюшын вызначае ў дадатак да голага фаўністычнага сьпісу, прыродаю не заўсёды выконваюцца. Птушкі, дзякуючы сваім крыльлям, здольны рабіць сурпрызы. Згодна паведамленьню Кірыкава („Матар'ялы да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі" 1928 г. т. II Менск) ён у 1927 г. забіў птушку „афрыканку"—жоўтую чаплю (Ardeola ralloides Scop.) у Смаленскай губ. Абодвы памянёныя аўтары зьяўляюцца вучнямі і супрацоўнікамі проф. А. В. Фядзюшына. Такія нечаканыя факты магчыма ня толькі ў адносінах да птушак, але гэта магчыма і ў адносінах да жывёл, якія і ня маюць крыльля. У сваім артыкуле „Фаўна Горацкага раёну" (1927 г.) я пісаў, што „мы нічога ня ведаем аб зялёнай жабе (Rana esculenta L.)". І запраўды, на працягу 5 год ня гледзячы на самыя энэргічныя пошукі, як мае, так і студэнтаў, мы нідзе ў ваколіцах Горак не знайшлі гэтай жабы. А ў мінулым годзе (17 траўня 1928 г.) мы знайшлі яе ў нас, на тэрыторыі Акадэміі, дзе і раней шукалі, і цяпер яна ў нас прэпаравана. Гэта трэба падкрэсьліць.

Калі прааналізаваць працу проф. А. В. Фядзюшына „О птицах Витебщины", дык высьветліцца, што значная частка працы належыць селяніну Марозу, на якога ўвесь час і спасылаецца аўтар, прыводзячы вытрымкі з блёкноту селяніна. Такім чынам, ня вучоны орнітолёг, а селянін-краязнаўца даў грунт для высьвятленьня авіёфаўны Віцебшчыны. Я не орнітолёг і лічу неабходным толькі падкрэсьліць сваё ўражаньне ад кнігі проф. Фядзюшына, не ўваходзячы ў падрабязную ацэнку кнігі. Краязнаўцы павінны гэта ўлічыць.

Між іншым, у сваіх „Материалах к изучению птиц восточной Белоруссии" проф. А. В. Фядзюшын цытуе адну сваю працу, надрукаваную за межамі: „A. Fediuschin. Neue Formen poläarktischer Vogel. Neue östliche Formen der Gattung Parus. L. I. f. O. LXXV, Heft 3. 1927, Berlin s. 490. З гэтай працай мне ня прышлося пазнаёміцца, я ня мог знайсьці яе, але мне вядомы погляд на яе Гэрмана Гротэ ў „Ornithologische Monats berichte" (1927 г. № 5, стр. 149). Гротэ падкрэсьліў памылкі, якія зрабіў проф. А. В. Фядзюшын, называючы адну сініцу. Як відаць, тая асьцярога, якую прапануе мне проф. А. В. Фядзюшын, не пашкодзіла-б і яму самому, хоць ён і лічыць сябе орнітолёгам-спэцыялістым.

Зьвяртаючыся яшчэ раз да свайго сьпісу, я скажу, што некаторыя назвы птушак у мяне ня тыя, што прыняты цяпер, напр. назва галкі Monedula turrium Brehm., што тлумачыцца тэкстам кнігі Сіланьцева і Халадкоўскага. Былі і іншыя недакладныя азначэньні, якія намі правяраліся шляхам доўгага нагляданьня жывых птушак у габінэтах. Цяпер, напр., у нас жыве на працягу некалькіх месяцаў Каня (Archibuteo lagopus Brünn.) і, наглядаючы яго ліняньне, мы бачым, як трэба быць асьцярожным пры азначэньні навочна відаў Archibuteo. Дадам яшчэ, што калі пад рукамі ёсьць матар'ял у форме колекцый, нашы адносіны да яго будуць зусім іншыя, чым да птушак, якіх мы наглядаем урыўкамі на вольным жыцьці. Студэнт Федарака, які вучыўся ў мяне, апрацаваўшы сваю колекцыю птушак у нашай лябараторыі, пасылаў яе для праверкі проф. А. В. Фядзюшыну, які не зрабіў папраўак і праца Федаракі была надрукавана ў „Матар'ялах да вывучэньня флёры і фаўны Беларусі", т. II 1928 г. Менск. Гэта праца зьмяшчае 92 віды птушак.

Лічу неабходным падкрэсьліць і тое, што мы ня маем ніякіх сродкаў на экспэдыцыі, на апрацоўку матар'ялаў, ня маем належнай літаратуры і сродкаў дабыць яе. Мы працуем так, як працуюць і звычайныя краязнаўцы ў мясцовых провінцыяльных умовах, зусім няспрыяючых навукова-дасьледчай працы. Орнітолёгіяй я зацікавіўся тады, калі прыехаў у Горкі і пачаў працаваць у вясковых умовах. Проф. А. В. Фядзюшын падкрэсьлівае мае словы ў артыкуле, дзе я кажу аб каштоўнасьці краязнаўчых досьледаў у галіне орнітолёгіі і кажу тады, калі ня было яшчэ ніякіх прац; ён вольна опэруе з маімі словамі і тлумачыць іх, як мой погляд на сьпіс, які я даў у артыкуле. Гэта выглядае штучна. Мэта майго лісту—не полеміка з проф. А. В. Фядзюшыным, а папярэджаньне нашых краязнаўцаў і заклік да іх не баяцца і брацца за працу ва ўсіх галінах краязнаўства, ня гледзячы на тыя напады, якія могуць быць з боку некаторых спэцыялістых. Краіне патрэбна краязнаўчая праца і яе вынікі. Праўда, умовы для працы звычайных краязнаўцаў вельмі цяжкія; на гэта мне і хочацца зьвярнуць увагу ў лісьце да рэдакцыі час. „Наш Край".

Проф. П. Салаўёў.

# Бібліографія.

**Лагойскае раённае таварыства краязнаўства. „Лагойскі раён, Менскае акругі“.**

*Кароткае краязнаўчае апісаньне з 6 мал. і 1 картай. Выданьне Менскага Акруговага Таварыства Краязнаўства. Менск, 1929 г. 2000 стар. 40. Цана 30 к.*

Невялікая кніжачка, якую выдала Менскае Акруговае Т-ва Краязнаўства, зьяўляецца першай спробай даць кароткае краязнаўчае апісаньне аднаго з раёну БССР. Мэта кніжкі ня толькі прапанаваць Савецкім працаўнікам Лагойскага раёну ці Менскай акругі інформацыйны даведачнік аб гэтым раёне, але зьвярнуць увагу шырокіх колаў чытачоў і культурнікаў БССР на неабходнасьць аналёгічнай дасьледчай і абагульняючай працы ў іншых раёнах нашай Рэспублікі. Асабліва неабходна такая праца і яе вынікі для настаўнікаў, для савецкай школы, якая ўсю сваю працу вядзе на краязнаўчым матар'яле і прыстасоўвае да запатрабаваньняў нашага часу. З гэтага боку апісаньне Лагойскага раёну ў нас ёсьць першая спроба даць сьціслую геаграфію раёну ў шырокім разуменьні слова. І трэба вітаць Менскае Акруговае Т-ва Краязнаўства з выданьнем першага падручніка па геаграфіі Лагойскага раёну (такіх падручнікаў нам патрэбна столькі, колькі ёсьць у нас раёнаў), першую працу па комплексу „Наш раён“.Ізапраўды, кніжка настолькі ўдала складзена, што ёю можна карыстацца ў школах ня толькі ў гэтым ці будучым годзе, але і на працягу некалькіх бліжэйшых гадоў, бо карэктывы трэба будзе ўносіць толькі ў статыстычныя лічбы і фактары, якія пэрыядычна зьмяняюцца. У працэсе школьнай ці наогул грамадзка-практычнай працы такія карэктывы зусім магчымы і ня выклічуць перашкод.

Апісаньне Лагойскага раёну ў кароткіх рысах ахапляе прыроду (абвадненьне, клімат, глеба, флёра, фаўна), гаспадарку (с. гаспадарка, лясная, прамысловасьць, коопэрацыя і г. д.), насяленьне, культурны стан раёну і інш. Гэтыя галіны жыцьця не пропорцыянальна высьвятляюцца. Так прырода Лагойскага раёну вельмі схэматычна апісана, няма, напр., яскравага, сувязнага апісаньня характэрнай флёры і фаўны раёну. Між тым, для школы вывучэньня мясцовай прыроды, як-мага найпаўнейшае, мае вялікае значэньне і шчыльна зьвязана з экономікай Апошняя ў кніжачцы больш поўна высьветлена. Тут некаторыя пададзеныя весткі каштоўны тым, што падкрэсьліваюць правільнасьць с.-г. політыкі. Так, напр., у разьдзеле „Сельская гаспадарка“ аналіз лічбаў забясьпечанасьці сялянскіх гаспадарак коньмі і каровамі паказвае паступовы пераход бядняцкіх гаспадарак у серадняцкія. Другі прыклад: лічбамі ілюстравана вялікая культурная і гаспадарчая роля нашых саўгасаў, колгасаў і камун, констатавана адсутнасьць за апошні час дэфіцытнасьці ў іх бюджэце, паказала, як гэтыя організацыі выконваюць свае культуртрэгэрскія задачы, як забясьпечаны яны матар'яльна і інвэнтаром. Добра абмалёваны ў кніжачцы культурны стан раёну. Ня гледзячы на сьціслыя весткі, у гэтым разьдзеле „лічбы загаварылі“: у чытача зьяўляецца поўны малюнак сучаснага культурнага стану раёну. Добра і тое, што кніжка мае добра складзеную карту раёну, што вельмі неабходна для нашых школ. Ці шмат у БССР школ, якія карыстаюцца раённымі геаграфічнымі картамі?

У кніжцы ёсьць невялікія недахопы, недагляды. Так, напр., весткі аб ліку гаспадарак, іх соцыяльным складзе ўзяты досыць ня сьвежыя — з 1925 г. Цяпер малюнак можа быць і павінен быць іншы. Няўдалы тэрмін уведзены — „рабапольле“. Што гэта такое? У разьдзеле „лясная гаспадарка“ падкрэсьлена думка аб упарадкаваньні гэтай гаспадаркі: засяваецца кожны год столькі лесу, колькі высякаецца (прыблізна — 100 гэкт. у год). Між тым сума грошай, выдаткаваных у мінулым годзе сялянам на лесараспрацоўках — 230000 руб., нам здаецца супярэчыць такім вывадам. Сустракаюцца ў кніжцы некаторыя няўдалыя тэрміны: „агнятрывалыя т-вы, бычачыя т-вы, ссуда-ашчэдныя т-вы“. Да жывёлагадоўлі аднесена пчалярства, гародніцтва, разьвядзеньне трускавак (гэты занятак за апошні час вельмі прыбыткоўны) і садоўніцтва. Не падлічана завадзкая жывёла ў раёне, а гэта трэба было зрабіць, каб паказаць тэндэнцыю ў перабудове нашага жывёлаводзтва. У апісаньні мястэчка Лагойск, якое зьмешчана ў кніжцы пасьля апісаньня раёну, дзіўныя весткі дадзены аб ліку насяленьня. За адзін год пасьля Ўсесаюзнага перапісу гэта насяленьне зьменшылася на 400 чалавек. Такія весткі трэба крытычна правяраць і даваць тлумачэньні.

Ня гледзячы на гэтыя дробныя недахваты, якія лёгка выправіць у практычнай працы, кніжка дае тое, што нам цяпер вельмі патрэбна: кароткі даведачнік аб Лагойскім раёне, кніжку, якую ў першую чаргу выкарыстаюць школы і краязн. організацыі БССР.

# Адказы краязнаўцам.

**1. Дзень лесу і выстаўка аховы прыроды.**

*С. Гарбацэвічу. Хойнікі, Гомельскай акр.*

Усякае раённае таварыства краязнаўства, зразумела, павінна прымаць найактыўны ўдзел у правядзеньні дня лесу. Больш таго—сам дзень лесу на абшарах раёну павінен быць об'ектам краязнаўчага вывучэньня. Але аднэй з бліжэйшых задач краязнаўчых аб'яднань-

няў у гэтай справе павінна быць організаваньне выставак па ахове прыроды. Такая выстаўка можа складацца з шасьці разьдзелаў. Першы з іх можа паказваць калечаньне прыроды (скарачэньне плошчы лясоў раёну. Мапа расьліннасьці раёну ў 1914 г., 1917 г., 1927 г. і на сёнешні дзень. Малюнкі і фотоздымкі, якія паказваюць калечаньне і зьнішчэньне лясоў раёну, паркаў, садоў, асобных дрэў і г. д., як рукою чалавека, так і пажарамі, шкоднікамі і д. т. п. Зьмены расьліннасьці; гэрбарныя паасобнікі, малюнкі, фотоздымкі, сьпісы і мапы распаўсюджаньня расьлін зьнікаючых або зьнікшых у межах раёну. Шкоднікі прыроды. Колекцыі жывёл—шкоднікаў, казюлек і д. т. п.; фотоздымкі і малюнкі коз, аб'ядаючых дрэвы, статку, які пасецца ў садзе і г. д. Выміраньне жывёл. Чучалы або малюнкі, фотоздымкі і сьпісы вымершых і выміраючых жывёл у раёне; дыяграмы здабычы рыбы, птушак і дзікіх жывёл у раёне на розны час; паказ недапушчальных і забароненых у БССР спосабаў здабычы жывёл; паказ тэхнічных мерапрыемстваў (застаўкі ля мастоў і д т. п.) шкодных жывёлам; прылады і спосабы паляваньня. Псаваньне берагоў, паказ прычын зьмяленьня, забалочваньня і высыханьня; прычыны псаваньня якасьці вады; прыклады надзвычайнага забруджваньня вадаёмаў і г. д. Адмоўны ўплыў на прыроду неразумнага колекцыянаваньня, няправільна організованых экскурсій і іншых дзеяньняў чалавека. Зьнішчэньне прыгожых краявідаў, геолёгічных помнікаў і г. д.).

У другім разьдзеле трэба паказаць, што і як трэба ахоўваць (заказьнікі і запрэтнікі; помнікі прыроды абвешчаныя дяржаўнай маемасьцю; іх карты, пляны, фотоздымкі, малюнкі і г. д., якія павінны паказаць плошчу, выгляд, мэты, чыннасьць і д. т. п. Паляўнічыя запрэтнікі. Паказ дзялянак і асобных помнікаў, якія ўжо ахоўваюцца або павінны ахоўвацца: гаі, вазёры, выспы, каменьні волаты і д. т. п., дубы-волаты і д. т. п. Разьвядзеньне лекавых траў і рэдкіх расьлін; наладжваньне кармленьняў для плаваючай дзічы; гадаваньне прамысловых зьвяроў; рыбаразводныя заводы; штучныя пасадкі і прылады для кармленьня птушак і прывабліваньня іх у лясы, сады і г. д. Морва ў раёне і г. д.).

Трэці разьдзел выстаўкі мае паказаць чыннасьць раённага выканаўчага комітэту, местачковага савету, раённага таварыства краязнаўства, саюзу паляўнічых і г. д. у справе аховы прыроды раёну. У чацьверты разьдзел можна вылучыць справу аховы прыроды ў мястэчку (раённым цэнтры). У пятым разьдзеле карысна паказаць справу аховы прыроды ва ўсей БССР, а таксама ў РСФСР, УССР і за межамі, і, урэшце, у шостым разьдзеле разьмяшчаецца датычная да выстаўкі літаратура.

Калі выстаўкі наладжваць кожны год—яны будуць што-раз багацейшымі і багацейшымі і, урэшце, змогуць стаць цэлымі музэямі, якія можна будзе разгортваць на паказ у любы час або пасылаць для паказу ў іншыя месцы.

Просьба да ўсіх організацый, якія наладзяць выстаўку, прыслаць поўнае, падрабязнае апісаньне іх з фотографіямі для апублікаваньня ў „Нашым Краі".

### 2. Вывучэньне Слуцкага культурнага гнязда.

*У. Мікіцінскаму. Слуцак.* Слуцкае культурнае гняздо, як і іншыя, мае шмат цікавага і ў мінулым (прыкладам — першы вядомы беларускі сялянскі поэт Паўлюк Бахрым з Крошына на Случчыне), але вывучаць усю яго гісторыю адразу трудна і менш актуальна, чым яго сучаснасьць. Апошняя для Случчыны характарызуецца двома кругабегамі. Да першага з іх можна далучыць наступныя моманты: концэнтрацыя выхадцаў з сялянства ў Слуцку на пачатку 20 сталецьця. Група беларускіх краёўцаў у рэволюцыю 1917 г. і беларуская гімназія. Нарастаньне нацыяналістычных тэндэнцый. Культасьветныя таварыствы і іх аддзяленьні на павеце. Тэатр, хор, курсы і д. т. п. Часопіс „Наша каляіна"; яго надворная гісторыя, рэдактары і супрацоўнікі, чытачы; зьмест і грамадзка-політычныя тэндэнцыі; літаратурны і краязнаўчы матар'ял. Развал нацыяналістычных груповак у часе адыходу белапалякаў. Узмацненьне актыўнасьці рэштак русіфікацыйнай інтэлігенцыі. Беларусізацыя асьветы; праца павятовага аддзелу народнае асьветы і змаганьне яго з русіфікацыйна-настроенымі рэшткамі старога чыноўніцтва. Увага да гэтай справы з боку мясцовых партыйных і савецкіх органаў і НКА, корэспондэнцыі ў друк і ўзмацненьне складу АНА. Другі кругабег можна характарызаваць наступнымі момантамі: Заснаваньне павятовай камісіі беларусазнаўства. Акруговы зьезд беларусазнаўства, наладжаны камісіяй. Вызначэньне прынцыпаў савецкага беларусазнаўства і краязнаўства. Праца музэю і аматарскага тэатру. Беларусізацыя асьветы. Школьныя часопісы. Рэорганізацыя таварыства беларусазнаўства ў павятовае таварыства краязнаўства. Яго часовы заняпад і пазьней росквіт. Часопіс „Слуцкі будаўнік"; яго надворная гісторыя, рэдактары і супрацоўнікі, чытачы; краязнаўчы і літаратурны матар'ял. Група мясцовых пісьменьнікаў. Заснаваньне філіі „Маладняка". Выданьне „Слуцкія песьняры". Роля слуцкіх поэтаў у агульна-беларускай літаратуры. Шукайлава „Літаратурная комуна" і яе лёс. Уплыў слуцкага краязнаўства на агульна-беларускае. Сучасны стан Слуцкага культурнага гнязда: асьвета, краязнаўства, літаратура, тэатр, друк і д. т. п. Яго чарговыя задачы і роля ў агульна-беларускай культуры.

Зразумела, што вызначыць усе пытаньні, а тым больш плян, немагчыма; гэта можна зрабіць толькі на месцы, узяўшыся за даную

працу. Таму ўсе названыя пытаньні могуць служыць толькі матар'ялам.

Паколькі першы паказаны кругабег, патрабуючы значнай працы і дасканалага марксыцкага мэтоду, зьяўляецца для вывучэньня вельмі трудным, — варта вывучаць толькі другі. Пры вывучэньні асаблівую ўвагу зварачваць на стан асьветы краязнаўства, друку, літаратуры, тэатру і г. д., а не адно на чыннасьць паасобных дзеячоў, як гэта раяць некаторыя мэтодысты.

Дапаможная мэтодычная літаратура наступная: Аб вывучэньні гісторыі асьветы ў Беларусі. „Наш Край" 1928, № 1, ст. 47—49. Анцыфараў Н. Краязнаўчае вывучэньне літаратуры, „Наш Край", 1928, № 6-7, ст. 10—15. Апытальнік аб стане дасьледваньня культурных гнёздаў. „Наш Край", 1928, № 4, ст. 48-49. Гревс И. М. Очередная задача краевого культуроведения. „Краеведение", 1928, № 6, ст. 368—376. Замоцін І. Аб увязцы беларускага літаратуразнаўства з краязнаўчаю працаю. „Наш Край", 1928, № 5, ст. 4—7. Мансуров А. А. Об изучении материалов о местных деятелях и уроженцах. „Краеведение", 1928, № 1, ст. 17—26. Пиксанов Н. К. Областные культурные гнезда. М—Л. 1928. 1 р. 60 к. Содержание: Предисловие. Областные культурные гнезда. Введение в их изучение. К молодым краевым искусствоведам. Темы, библиография. Вопросники. Свободов А. Н. Литературный и мемориальный материал в областных музеях. „Краеведение", 1928, № 7, ст. 392—396. Случевская Л. Литературно-образовательные экскурсии. „Родной язык и литература в трудовой школе" № 4-5, ст. 139—150. Спроба ўкладаньня анкет для зьбіраньня крытычна-біографічных матар'ялаў па гісторыі беларускай літаратуры. „Наш Край" 1928, № 5, ст. 45—52. М. Касьпяровіч. Чарговыя задачы культуразнаўства— у гэтым нумары „Нашага Краю". Рэдакцыя „Нашага Краю" прыме артыкул для надрукаваньня аб Слуцкім культурным гнязьдзе (паказаны другі кругабег) памерам каля 16 стар., прычым аб краязнаўстве можна успамінаць толькі для сувязі, бо Ваш агляд яго ўжо надрукаваны ў № 12 час. „Наш Край" за 1928 год. Тэрмін прысылкі — па Вашаму выбару.

### 3. Вывучэньне Віцебскай краёвай літаратуры.

*Я. І. Мазуркевічу. Віцебск.* Вывучэньне Віцебскай краёвай культуры раім абмежаваць часам 1924 (лета)—1929 (студзень) г. г. Карысна-б было вывучацьяе па ўсіх разьдзелах (асьвета і навука, друк, літаратура, выяўленчыя мастацтвы, тэатр, музыка), але, калі для Вас дзякуючы якім-небудзь прычынам нязручна, можна звузіць сваю задачу да вывучэньня краёвай літаратуры памянёнага часу. Ва ўсякім разе ў пошнім выпадку трэба разглядаць развой літаратуры ў сувязі з памянёнымі радзьдзеламі, а не адцягнена ад іх. Пры вывучэньні ўсіх разьдзелаў трэба, паміж іншымі, не абмінуць наступных момантаў: адчыненьне Вэтэрынарнага Інстытуту і Мастацкага тэхнікуму. Чыннасьць апошняга ў галіне беларускага мастацтва. Заснаваньне акруговага таварыства краязнаўства, яго гісторыя, выданьні і вынікі працы. Упарадкаваньне музэяў. Дзейнасьць групы краязнаўцаў у галіне вывучэньня мастацтва. Дыспуты, выстаўкі. Сьвяткаваньне юбілею Купалы і Бядулі. Выстаўка што да апошняга ў Доме кнігі. Філія „Маладняка", яе гісторыя, выданьні і наогул вынікі працы; яе мастацкая сэкцыя. Першы і другі дзяржаўныя акадэмічныя тэатры ў Віцебску. Хор Анцава. „Сялянская газэта" і яе лёс. Сучасны стан віцебскага культурнага гнязда: асьвета, літаратура, краязнаўства, друк, бібліотэкі і г. д. Яго чарговыя задачы і роля ў агульна-беларускай культуры. Пажаданы памер для названага агляду краёвай літаратуры—ня больш 12 друк. ст. часопісу, прычым цытаты з твораў павінны ўжывацца ў магчыма мінімальных памерах; можна дадаць 2-3 ілюстрацыі. На рэшту пытаньняў — адказ у № 7 у пытаньні пра Слуцкае культурнае гняздо.

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

ВЫШЛА З ДРУКУ

І ПАСТУПІЛА Ў ПРОДАЖ

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІЖКА

АБ ГІСТОРЫІ І МЭТОДАХ
КРАЯЗНАЎЧАЙ ПРАЦЫ

# КРАЯЗНАЎСТВА

## М. І. КАСЬПЯРОВІЧА

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА,
1929 г., 160 СТ., ЦАНА 1 РУБ.

ЗЬМЯШЧАЕ:

**I. Краязнаўства, яго задачы і гісторыя** (краязнаўства і яго мэты; польскае краязнаўства на Беларусі; рускае краязнаўства на Беларусі; „Наша Ніва“ як першы беларускі краязнаўчы цэнтр; першыя беларускія краязнаўчыя організацыі).
**II. Сучасны стан краязнаўства** (краязнаўства ў БССР; краязнаўчая чыннасьць па-за межамі краязнаўчых організацый; беларускае краязнаўства па-за межамі БССР; краязнаўства ў суседніх савецкіх рэспубліках; краязнаўства ў заходніх суседзяў).
**III. Організацыя краязнаўчага руху** (гурток краязнаўства; раённае і акруговае таварыства краязнаўства; ЦБК; краязнаўчыя організацыі ў асьветных установах; краязнаўчыя аб‘яднаньні ў профсаюзных організацыях; організацыя працы краязнаўцы).
**IV. Першыя крокі краязнаўчай організацыі** (краязнаўчы падлік і популярызацыя краязнаўства; краязнаўчая бібліографія; краязнаўчы музэй; краязнаўчыя вандраваньні і падарожы; краязнаўчыя выданьні).

ПРАДАЕЦЦА
ва ўсіх кнігарнях Беларуск. Дзяржаўнага Выдавецтва

Service des ...
№

Цана 50 к.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1929 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы папулярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Вітკоўскі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. У. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| На год . . | 4 р. — к. | На 3 м-цы | 1 р. 25 к. |
| На паўгода | 2 р. 25 к. | На 1 месяц | — р. 50 к. |

**Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і політасьветпрацаўніка.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ў рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**

**„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.**

**Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30% — за 10 руб.**

**Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:**

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ — 50 кап.
Асіпавіцкі Раён — першы выпуск — 2 р., другі выпуск — 80 к.
Краязнаўства. Зборнік. Цана 1 руб.
Краязнаўчым організацыям скідка 25%.